— А трэці папаўся на фронце ў палон,
чацьверты—у сьвет пацягнуўся.
Абодвым я ўзьвеяў пясочку на скронь
сярэднім сыном Беларусі.

— А пяты і шосты—жывыя сыны,
іх розная доля спаткала:
адзін сустракае прыгожыя дні,
другога няволя скавала.

Ізноў Беларусь заклікае ваяк,
на захадзе лямант у полі.
Матуля, адвечная скруха твая
загіне калі, ці ніколі?

4

Восень. Ноч. Завываюць вятры.
Пагасіла агні свае Вязынь.
Аканіцамі вецер трывожна рыпіць...
— Нехта стукнуў, здаецца, два разы?!

Устрывожана маці бяжыць да дзьвярэй,—
цішыня, толькі вецер скаголіць.
— Дзе-ж, Уладзік?.. Сыночак мой дзе?..
На двары гэтак цёмна сягоньня.

І маркотна і дымна лучына гарыць,
шалясьцяць палахлівыя цені.
На палатках ня сьпіць Асташэня стары,
ў задуменьні аглядвае сьцены.

Мары ткуць залаты і дзівосны дасэнь,
здэцца й бачыць Рыгор прад сабою:
новы дом, а над ім каміны на страсе
дуб зялёнай накрыў галавою.

Маці возьме і толькі паправіць агонь.
зложыць рукі ізноў на каленях,
і схіляецца нізка на рукі чало,
і дранцьвеюць старыя калені.

Думы такжа снуюцца, складаюць дасэнь
толькі іншыя тутака ўзоры:
паўстае маладосьць у ружовай красе,
а у чорнай—няшчасьце і гора.

І сьціскаецца болем надрыўным душа,

А на ганку знаёмая гэтак хада,
маці птушкай ляціць да парога.

— Ты?.. Уладзік? Сыночак!.. Прышоў...
І павісла на шыі у сына:
— Есьці даць? Ды ня ведаю што:
толькі хлеб на вячэру з мякінай.

А Уладзік ласкава цалуе у лоб
і садзіцца ў зьнямозе на лаву.
Уздыхае стары:—Эх!.. Усё адышло
не паможа ніхто, не паправіць!..

— Слухай, тата, пакінь бядаваць,
не папраўлю табе я намнога;
волі трэ' і тады будаваць...
Заўтра я адыходжу ў дарогу.

5

— Эх, сынок мой, сынок, гадаваў я цябе,
ускладаў гэтак многа надзеі,
так стараўся, вучыў, а цяпер... што цяпер?..
паміраюць і гаснуць надзеі.

— Хіба згінула мала такіх вось, як ты,
а ці далі якую палёгку?
Вось і ты, дарагі, прападзеш маладым,
а бацьком гэта цяжка, ня лёгка...

— Навучыўся—і добра, пасаду бяры,
можа й нам дапаможаш капейкай:
хата ледзьве ліпіць, хлеў таксама стары,
а ты ўбіўся у гэту ячэйку!..

— Слухай, тата, вінуй, калі я вінават,
ці-ж ня бачу, жывом як багата?
Калі будзе няволя у нас панаваць,
дык разваліцца й гэтая хата.

— Ты сягоньня карову, каня нажывеш,
заўтра ўсё прададуць за падаткі.
Татка любы, ты сыну павер—
ня бывае канца без пачатку.

— Не на сьмерць-жа іду, а іду я на сход,
бараніць беднякоў-беларусаў,
дык чаго сумаваць, дык журыцца чаго?
Дзён праз два я да хаты вярнуся!

Бацька голаў пакорна схіліў і заціх,
маці нішкам сьлязу уцірала,
брат маленькі Алесь паглядаў на усіх,
урачыстаць цішы панавала.

— Ну бывайце здаровы! Пара мне, пайду...
Маці сына за шыю схапіла.
Бразгатаў у вакно сваім гольлейкам дуб,
прабаваў маладыя ‘шчэ сілы.

Хлопец торбачку ўзяў і ступіў за парог,
маці крыж тры разы палажыла,
прашаптала ўздагон:—Будзь, сыночак, здароў!—
і прыпала вачыма да шыбы.

Сын ідзе па двары, вось ён вышаў з двара,
бацька ўжо зачыняе вароты.
Маці доўга глядзіць, і хмурнее ўсё твар,
агартае і сум і самота.

**Максім Лужанін**

# Мяцеліца

I

Надвечар яшчэ гусьцей, яшчэ навальней выгнулася над зямлёй шэрае неба, і дробнымі шматочкамі пачаў падаць крохкі і чысты сьнег. Толькі далёка-далёка, там, дзе крыжаваліся сустрэчныя палеткі і межы, так далёка, як толькі сьцігалася вокам, заставаліся сінія, крыху мутнаватыя, акрайцы неба.

Гэтак было на сёмы дзень.

Шэсьць дзён запар дзьмуў востры пранізьлівы сівер. Быў ён шорсткі і калючы і бязьлітасны да таго-ж: вопратка не давала жаднае паратоўлі. А цяпер, нават лопаньне вароніх крыл, у абцяжэлым вільготным паветры, некае глухое, нявыразнае, паказвала на адлігу.

Бо дагэтуль людзі сядзелі ў хатах. Вырываліся на хвіліну ўкінуць худобе ладку якое трасянкі, а пасьля зноў на печ—закурыць і ляжаць усьпершыся на ўзлакотак, паглядаючы на безнадзейна замураваныя марозным узорам вокны.

Тады, адчуваючы бясьпечнасць і цеплату, можна было пажаліцца жонцы на холад, паразважаць аб тым, што каб да гэтага марозу ды яшчэ (крый, бо!) сьнег, ды заснуць, навярнуўшы чаго цяплейшага на плечы, аж да вечара.

Гэтак вось—са дня ў дзень.

Неба-ж было чыстае і халоднае, сіняе-сіняе. Часом, быццам сьмешкаю, усплывала сонца над спусьцелым сялом, адсьвечвала паложаны тэрмін і хавалася, у ночы-ж загараліся зоры. Ясныя да болю, супакойна-халодныя. Гэтакіх ня было раней, бо толькі-ж цяпер ніхто не глядзеў, ня дзівіўся з іх; проста: гарэлі самі сабе. Была ў гэтым ціхая радасьць і хараство. І яшчэ добра было перад зьмярканьнем выйсьці за гару, на гала к бярозаваму гайку на глінішчах. Там вялізны, у шмат чалавечых абдымкаў, першы спакойна заўжды сустракаў стары-старасьвецкі дуб усе навальніцы. Толькі, як церазнадта разыдуцца яны дасьціпныя, ціха варушыў ён чорным застыглым гальлём. Слаўна было прытуліцца тварам да грубое чорнае кары, слухаць халодныя сьпевы, гледзячы, як паволі высьцілаюць сінія воблакі сьлед вохкай вячорнай зары, дыхаць сьвежым марозным паветрам.

Навокала, як ні паглядзі, белая бясконцая пустэльня. Непарушнасьць маўклівай цішыні і замкнёнасьці. Бо й, нават, чорныя стрэхі сяла быццам нейк анямелі, застыглі, быццам даўно пагасілі жыцьцё. Толькі ў полі, на чорным, ніяк ня ўхітрыліся вятры замесьці хібу загонаў, адзінока шамрыць маленькае каліва быльніку. Ці ня жаліцца толькі

на спракувечную пакінутасьць? Але-ж насеньне расьсеяна. Увясну ўзыдзе малады быльнічак, засхне, каб зноў, як гэты, што будзе няўхільна заворaны, шамрэць пад азглелым ветрам. І шамрадзеньне гэтае кацілася ў сяло, дзе вуліца дыхала такою-ж пусткаю, як і поле, дзе, здавалася, прайшла некая навальная спусташ, дзе пазаціхалі вечна руплівыя і неспакойныя сабакі, пахаваліся і палеглі у хлявох каля худобы, дзе дрыжалі коні, дрыжалі і ня пілі вады.

Так мірыліся ўсе: сябры і ворагі, губляліся ў прыгнечанасьці і аднальковасьці, трацілі грань між днём і ноччу. Можа цяпер больш, як калі, выяўлялася імкненьне быць разам, і з поля асьцярожна краліся ваўкі.

Падыходзілі да хлявоў, падсаджвалі пад вароты тонкія худыя морды і чакалі. Яны выразна адчувалі патрэбу цяпла і ўтульнасьці, але вельмі ўжо далёка адышлі ад тых, што жылі ў хатах і хлявох. Таму нашыльвалі поўсьць, ляскалі зубамі і ўцякалі.

Далей так цягнуцца не магло. Як раз перад зьмену выпала, што пад скананьне шостага дня засьпяваў вядомы певень у хаце Мікалая Галякевіча, а гэта ўжо, напэўна, азначала, што надвор'е павернецца інначай.

— Мікалаеў певень—што твой бароматр!—казалі ня раз сяляне тутэйшаму настаўніку.—Ды нам ня дзіва з яго: разумнымі людзьмі штучка зроблена, але вось па чым гэта курачая галава адлігу ведае? Каб сказаў чалавек, што на ўсход сонца паглядзіць, от якая справа.

І Мікалай Галякевіч быў у чэсьці праз такога ўдалага пеўня, што сьпяваў тады, калі гэта было найбольш патрэбна.

Гэтак і цяпер, пасьля сьпеву, як бы прачнулася жыцьцё. Нек весялей паваліў дым з вячорных пячэй, голасна зарыпалі студні, зашарматалі вароты хлявоў.

Дзядзькі ладзілі сані. зьбіраліся досьвіткам паехаць у дровы і прыносілі ў хату супакой на праясьненых абліччах.

Назаўтра адлігі быццам і ня было, толькі пацішаў вецер, ды неба, як хворае, укрылася вялікімі коўдрамі цёплых хмар. Паволі пачала адтаваць марозава пабелка на вокнах, а праз іх на вуліцу прасьвечвалі замурзаныя твары, чутны былі піскілівыя галасы дзяцей.

За поўдзень стала яшчэ цяплей. Перастаў зьвінець сьнег пад конскімі капытамі, і на вуліцы шэрымі даўкімі камякамі разаслаўся цяжкі, крыху каркаваты дым.

## II

І от тады, на сёмы пасьля шасьці дзён сіверу, калі змрок пашарыў вёску і ня відно было ні поля, ні меж, ні неба над імі, калі з каўняра ўсё часьцей трэ' было атрасаць малады сьнег, а ў хатах пазапальвалі газоўкі,—памёр стары Карней. Было яму ўжо многа за семдзесят, але сьмерці баяўся, хоць і сам сароміўся гэтае боязі ды казаў, што цяпер паміраць нядобра і сабе, і людзям і што ён хацеў-бы

памерці цяплом Але ў гэтым было адтэрмінаваньне, імкненьне працягнуць хоць адну лішнюю хвіліну, хоць адну хвіліну дыхаць і адчуваць, адчуваць дрэнна, як праз туман, раздроблена, як звычайна адчуваюць старыя, але ўсё-ж такі адчуваць. Самая танная рэч абзываецца болем пры страце, тым больш ненасытны чалавек на жыцьцё: колькі ня дай! тысячу год пражыве і ў апошнюю хвіліну папросіць яшчэ.

Гэтак і Карней, але для сям'і яго сьмерць ня была, нават, нечаканасьцю. Яна прыняла яе вельмі скакойна, тым больш, што стары дасканала разьмяркаваў маемасьць. Найбольшая дзялянка спадчыны прыпала старэйшаму сыну Рыгору, маўкліваму саракагадоваму мужчыну. Са старым яны ўвесь час жылі ў аднэй хаце, і цяпер Рыгору трэ' было клапаціцца аб распарадку пахаваньня. Гэта ён і абмяркоўваў у той час, калі ў другім канцы сяла адчыніліся дзьверы маленькай нахохленай хаткі, моцна паскубленай ветрам. Уся яна выглядала, як старая квактуха, каторую выпадкам нахапілася выратаваць гаспадыня з моцных коршакавых лап. З гэтае хаткі вышаў сярэдняга росту чалавек, вышаў і зьдзіўлена азірнуўся.

— Пацішала!—прамовіў ён.—Добра... і, не зашпіляючы падношанага гарадзкога палітона, які прасіўся з яго плеч на большага чалавека, рушыў у сяло. Была гэта дзіўная некая постаць, нават няблага апраненая, але вопратка гэтая зьвісала з яго, як з дзіцёнка, пераапраненага на дарослага. Чорныя клёшныя порткі закрывалі чаравікі, пашытыя надзвычай моцна і з надзвычай моцнае і цьвёрдае скуры. Часамі адна калоша чаплялася за адтапыранае ад чаравіка вуха, і тады відна была тонкая валасатая нага. Гэтакі чалавек ішоў у сяло. Месяцы тры як прыехаў ён у гэтую вёску і страшна зьдзівіўся, знайшоўшы хату свайго брата забітаю з зачыненымі вакеньніцамі. Ён даведаўся, што брат з сям'ёю паехаў у Сібір, пакінуўшы тутака толькі непрададаную хату. А тады сам адбіў дзьверы і асеў на жыцьцё: некі-ж цярплівы ўдаўся на жарты і маўклівы. Вечарамі ён прыходзіў ці да настаўніка, ці проста ў гаспадарскую хату і моўчкі праседжваў увесь час. Калі ў яго хацелі што запытацца і клікалі, ніякавеў, заікаўся, усхватваўся з месца і чырванеў, выгаворваў колькі слоў, а пасьля махаў рукою і садзіўся зноў. Ад яды ніколі не адмаўляўся; прысоўваўся да стала, еў хутка, без чаргі і няўмела, разьліваючы, толькі больш аднэй стравы не чапаў і ніколі ня дзякаваў. Дзе ён быў і што рабіў з тэй пары, як паехаў з вёскі, ніхто ня ведаў. З гораду-ж прывёз крыху грошай, крывое люстэрка, прылады галіцца, некалькі старых зачытаных кніжак і скрынку кавы. Грошы ён распазычаў, заместа іх прасіў даць яму штонебудзь есьці, у люстэрка доўга ўглядаўся кожнае раніцы перад тым, як галіцца. Прывычку гэтую ён прывёз з гораду і траха ня плакаў. калі аднойчы брытва ўпала са стала і вызубілася. Тады ён выцер з неаголенае шчакі мыла і скарыўся, толькі ад тае пары з аднаго боку на твары яго [illegible]

бракавала. Кніжкі ён чытаў адны і тыя-ж. Кожын дзень па чарзе, калі прачытваў апошнюю, браўся ізноў за першую і так без канца. Новых не прасіў. Гэтак-жа ён кожны дзень грэў ваду ў загнетцы і заварваў чорную густую каву. Сёньня была няўдача, ён не знашоў ніводнага кавалачка цукру, піў нішчымную жыжку і гэтым сапсаваў ўвесь дзень. Але памірыцца з адсутнасьцю цукру, як з брытваю, ня здолеў і вышаў увечары папрасіць каго-небудзь прывезьці яму цукру з суседняга сяла, дзе была крама, а покуль гэта—пазычыць хоць крыху.

Але ніхто ніколі ня цікавіўся тым, што ён думаў. А думаў ён многа. Звычайна лажыўся да гары тварам, клаў пад галаву рукі і думаў. Ня толькі думаў, а думаў кожын раз па новаму. І ўся трагэдыя яго жыцьця была ў тым, што яму хацелася думаць так, як ня думаў ніхто. Так лавіў усе думкі і гатункаваў, а яны як на злосьць прыходзілі ўсё чужыя і яшчэ з іменьнямі іхных уласьнікаў на хвастох. Ён злаваў, хадзіў па хаце і ўрэшце запісваў вуглікам на сьцяне тое, што здавалася ўжо найбольш сваім. Такім парадкам ён сьпісаў усю заднюю сьцяну за печчу і перабіраўся ўжо на другую. Гэта, як быццам, дадало яму яшчэ адну кнігу чытаць і цьвёрдую ўпэўненасьць, што ён жыве і робіць гэтак толькі адзін і такім чынам заслугоўвае відочную перавагу перад іншымі. Загэтым ён пакінуў і горад, дзе грукат замінаў яму, і, напоўнены некай хцівай радасьцю свае заслужанае вышыні, перабраўся ў вёску. Ён напраўду не заўважыў ні марознай лютасьці апошніх дзён, бо нікуды ня выходзіў, усё мяркуючы, як гэта ямчэй запісаць адну нязвычайную думку, каторая прышла ўначы і папрасіла выражэньня так настойліва, што ён упаў з ложка. Урэшце жаданае было знойдзена, і на сьцяне зьявіўся новы надпіс: „Калі табе трэба выйсьці, і ты сьпіш—прачніся, і тады ніколі не ўпадзеш з ложка“. Як здаволен быў ён! Гэткія простыя словы—і столькі схаванага зьместу за імі. Гэтыя словы яшчэ больш гавораць за яго ўласнае імя і прозьвішча, сапраўды годнае стаць у шэрагу вялікіх іменьняў: „ВасільЧапялоўскі“

Мусіць тое, што ён праседзеў некалькі дзён, ня ходзячы на‘т у сяло, а можа і здаволенасьць сваёю працаю, а зрэшты можа і мароз нек дзейнічаў на яго,—адным словам Васіль Чапялоўскі падпяваючы, подбегам пакідаў сваю хату. Апамятаваўся ён аж каля Рыгоравага двара і, сказаўшы сам сабе—„зайду“, кінуўся ў хату. Тут і напароўся ён, хоць і глядзеў няпрывыклымі да сьвятла вачыма, на тапчан і траха ня скінуў з яго Рыгора. Тады ўжо агледзеў хату, заўважыў старога, што ляжаў на лаве пад абразамі і, прамовіўшы „сьмерць“, забыў, чаго прышоў сюды. Сарамліва адціснуўся ў куток і слухаў, як некалькі суседак, разам з Рыгоравай жонкаю, галасілі на ўсе лады, спамінаючы нябожчыка.—А мае жаночкі,—у тонкі голас гаварыла маладзіцца.—Ён-жа мне за роднага татку быў. Баялася, з чужога сяла едучы, калацілася...

— А ці-ж мы ня ведаем, суседачка,—загаварыла высокая худар-

— Але-ж, але!—і бабы заківалі галовамі, зьліваючы галасы ў дрыжаньне аднэй дакучнай праразьлівай струны.

Вечару добрага ў хату!—з-за парогу, скідаючы шапку, заглушыў гамонку моцным голасам Нічыпар Галка, стары чалавек, але яшчэ здаровы, чырвоны, з невялікаю сівою барадою.

Ён падышоў да лавы, паківаў галавою і сеў поблізу, гледзячы ў твар мерцьвяку.

— Э-э-э-эх! братка Карнейка! Што гэта ты нарабіў?—загаварыў ён. Ужо й мне ад цябе не аставацца аднаму тутака. Нашто-ж ты наша таварыства забыў?

Ї зьвярнуўся да Рыгора:

— Гэта я прачуў дык разьвітацца прышоў. Калі хаваць будзеце?

— Заўтра трэба! Але й дазволу няма. Мо' б, дзядзька, па таварыству зьездзіў, бо мне ня выпадае?

— *Цяжкавата мне.. Але ўжо-ж! Запрагай ідзі, а я апрануся.*

Ї пакуль той уходжваўся з канём, Нічыпар вярнуўся і стаў каля саней.

— Вы, значыцца, каня не шкадуйце. Ён не сказаць каб лянны, але пугі патрабуе...

— Ня турбуйся, нябож!

Ї толькі намерыўся сесьці, як пачуў, што за рукаў яго нехта тузянуў..

— Ты, Васіль? Едзьма, падвязу да хаты!

— Я ня ехаць! Я ня хочу ехаць!—сказаў тэй, захіляючы полы свайго палітона.—Я сягоньня каву бяз цукру піў. Нясмачная кава... Можа вы.. але-ж сьмерць...

— Што, табе цукру купіць?

— Ага, цукру,—матнуў той галавою, і Нічыпар, цмокнуўшы на каня, трухам выехаў на прыгуменьне.

— У хату хадзем ці што? кіўнуў Рыгор, але Чапялоўскі адмовіўся і паволі пашоў з двара.

Разам з яго крокамі даляцела гаворка:

—Рыгора Міхалішынага бацька памёр ці што?—весела пытаўся нехта.

— Ага!—адгукнуўся, як бы ня хочучы, другі.

— Гы-ы! Стары чалавек. *а як малы усёроўна*—выбраўся гэтакім надвор'ем: ніякага піва ў Абрама не дастукаешся,—зноў казаў вясёлы голас.

Цяпер зарагаталі абое.

— Блазната!—Узяўся за клямку Рыгор і адчыніў дзьверы, сустрэнуты тым-жа галошаньнем. У галавах у нябожчыка запалілі сьвечку, і нехта нудным голасам пачаў чытаць малітвы. Жонка запыталася, ці пашлі капаць яму, і адышла ізноў да кабет.

Зьбіраліся ня спаць усю ноч. Замясілі хлеб, паклікалі шаўца скі-

павагаю таптаў Рыгор стружкі і белае пілавеньне, габлюючы дошкі на труну. Ён чуў, як расказвала жонка, што ўмыўся стары перад сьмерцю і лёгка памёр і гэтакай сьмерці яна жадала-б і сабе і сваім дзецям. І што на тым сьвеце чыстага прымуць (выспавядаўся ў нядзелю) і пасадзяць разам з усімі сьвятымі.

— Усё адно як памерці і дзе потым быць!—прамовіў да сябе.. Няжывому што!

Раптам набегла навальніца. Глуха загаманілі дрэвы за вокнамі, павеяла нечым халодным і страшным. Рыгору зрабілася ніякава аднаму, і ён засьпяшаўся ўвайсьці ў хату.

— Нягода заходжваецца!—сказаў каб схаваць замяшаньне. І чуваць было, нават, як шумеў і хістаўся, глуха стрэсаючы моцнымі сукамі сваімі, стары дуб над халоднаю цемнатою пустых глінішчаў.

III

Ішлі яны нездаволеныя. Але ў гэткай справе трэ' было паслухацьусе мы пад адным небам. Цэлы дзень з досьвітам, да змроку, ад агню на вагонь, езьдзілі яны па лесе, зьбіраючы сухастой і гальлё Ня гэта было няпрыемна, горай аказвалася тое, што не пасьпелі добра абагрэцца, павячэраць, як прышлося йсьці на ўсю ноч з цёплае хаты ды яшчэ на такую прыкрую і дакучную работу. І яны асудзілі ста рога Карнея, і яны сказалі, што не пара было яму ўміраць, хоць у іншых умовах, каб іх ніхто не зачапіў, напэўна заварушылася-б думка: „а такі пажыў чалавек!“ На версе-ж ня мусіць ён ляжаць. Вось і выбраліся па Рыгаравай просьбе ўтраіх: браты Піліп і Мікалай, маладыя (кагадзе пажаніліся) мужчыны і яшчэ адзін, нізенькі, маленькі чалавек сярэдніх гадоў. Мусіць таму, што ня вырас ён, а застаўся хілым і прыземістым, звалі ўсё яго дзіцячым імем—Апанасік. Ен прыносіў за сабою воблакі тутунёвага дыму і струмень дзіўнага паху моцных карашкоў і падсмаленае барады. У роце вечна трымаў вялізную, з газэтнай паперы папяросу (аднае хапала на зімовы вечар). З ёю ён гаварыў, сьнедаў, тарпаваў збожжа, не баючыся пажару, і нават, гаварылі жартаўнікі, мыўся. Злавацьздаецца, ня ўмеў, ды не пасьпяваў зазлаваць, хоць ня раз кпілі і пыталіся ў яго, як такая вялікая папяроса не перашкаджае такому маленькаму чалавеку. Тады толькі адмахваўся рукою і сплёўваў на бок:

— Эт!

Гэтак можна было адчапіцца ад ўсіх,—толькі не ад уласнае жонкі. Маладая кабеціна (Апанасік быў двойчы жанаты) на першы дзень не залюбіла папяросы.

— Як табе ў роце ня горка! З такім-жа чалавекам з аднае міскі есьці гадка!—заводзіла яна кожны раз, калі той прыходзіў у хату. І намаглася такі. Пакінуў. Цэлы тыдзень сноўдаўся засмучоны, здалёку аблізваючыся на дым, і ўрэшце—ня вытрымаў. Падвечар схадзіў у

— І ня лезь больш!—гэтак пачалася гаворка ў мыцельніку, дзе павінна была быць жонка.—Каб праз цябе ды з мяне ўсё сяло сьмяялася. А то наб'ю, дальбог наб'ю!

Ад гэтае рашучасьці жанчына змаўчала, і цяпер Апанасік ішоў, папыхваючы неадменнаю папяросаю, і маўчаў, як маўчаць заўжды тыя, каму вельмі многа ёсьць чаго сказаць. Маладыя прабавалі жартаваць, але ён абарваў іх рэзкім словам,—сягоньня ён памёр, а заўтра ты—абарваў і ўнурыўся ў каўнер старога вынашанага кажушка.

Чутно было, як бярэцца мароз; зноў пачаў рыпаць сьнег пад нагамі, і на неба высыпалі зьдзіўленаю гурмаю ясныя зоры. Як дзяўчаты, спужаныя нечаканасьцю, тлуміліся яны, здавалася, перабягалі з месца на месца, ці то ад свае жаноцкае сарамлівасьці ці то ад холаду. І калі холадна было ім—вечна адзінокім, дык што сказаць пра людзей!

— Цяжка капаць будзе! Ішоў усю дарогу за коньмі,—прамовіў Піліп.

— Нічога!—абазваўся другі.—Дзядзька—ў нас добрая падмога, ён за дваіх зробіць.

— Чаго ты ад гэтага дзядзькі хочаш? Маразамі разам на печы вылежваліся, а сягоньня я яшчэ да сьнеданьня тры напрасты ячменю зьбіў.

Вецер расхіліў полы Апанасавага кажушка. Ён направіўся, крактануў і падперазаўся.

— От цяпер мацней будзе! Узяў кажуха на трончак.

— Але й трончак у дзядзькі ёмкі, мусіць той, што каню сядзёлку падвязвае!—ня вытрымаў Мікалай.

— А хоць бы й той!—агрызнуўся Апанасік.—То якая табе справа да гэтага! Няхай маладзяжу хараство будзе, а я й гэтак веку дажыву.

Яны зноў унурыліся ў свае думкі. А ўсё вакола ішло сваёю чаргою. Вецер перакладаў дарогу белымі плашкамі сьнегу, вышаў на хвілінку месяц, пасьвяціў нудна, як на паншчыне, і павёў за сабою зоры, пахаваў іх за хмары, быццам хацеў гаварыць з імі па сэкрату. Стала цёмна, і людзям прышлося запаліць ліхтар.

Так ціха падплылі могілкі, дзе хісталіся парыпваючы бярозы, і спраміж іх пачалі разграбаць сьнег, шукаючы месца на магілу.

## IV

Ні то думаў, ні то драмаў...

Прымацаваў неяк лейцы да палукошка, а сам укруціўся з галавою ў вялікую камлатую адзежыну і лёг, заплюшчыўшы вочы, тварам ад ветру.

Ціхаю ступою мераў конь дарогу, і Нічыпар быў упэўнены, што ён не памыліцца прывезьці яго дамоў. Гэта-ж не першыня. Мясьціны знаёмыя, а падарож недалёкі. Вось прагуркатаў пад падковамі трэці масток на Дзярэчынскіх прудзішчах яшчэ вярста—і дом

Нічыпар быў здаволен, што перабіўся не надарма. Праўда, доўга ляскаў у дзьверы, лаючы начальства і пасьля папаседжваў на лаве, пакуль тое „начальства“,— заспаны чалавек у аднэй бялізьне, цяжка сапучы,—дазваляла „схараніць беспрапясьцьвенна сьмерць Карнея Аладкі“, на невялічкім кавалку паперы і што хвіліны падсьліньвала аловак. І хоць яму здавалася, што трэба пахаваць самога Карнея, а ня сьмерць яго (такі прачытаў старшыня паперку!), але дазвол узяў, і паехаў у краму па цукер Васілю.

Выканаў і гэтае, вельмі-ж узрадаваўся, калі адчуў, што ўжо за ім ня лічыцца ніякага абавязку.

Так ехаў і ехаў. Дробны пачаў цярушыцца сьнег, але ня звычайную поцеплю прынёс ён. Хутка нічога ўжо ня было відаць, бо сьняжынкі падалі хутка і часта, лажыліся няпрошаныя ў сані, на адзежу, бліскучымі вострымі кружочкамі, цяжкімі, як новенькія залатоўкі.

— Добра, што недалёка хаця,—прамовіў сам да сябе:— а то дарогі не знайшоў бы,—і чамусьці падумаў аб сьмерці.

Вельмі-ж моцна ўзрушыў яго канец старога таварыша, можа таму што й сам набліжаўся да старасьці, а разам з ёю і да сьмерці. Такімі дзіўнымі й незнаёмымі рабіліся адчуваньні! Ня было ў іх тае радасьці і бадзёрасьці ад кожнага новага дня ў жыцьці, і ўсё часьцей наведваліся думкі, што хутка вось і яго ня будзе, а ўсё-ж гэтак сажнуць і пасеюць жыта, будзе ўзростаць рунь, і гулкімі. крыху марознымі ранiцамі абзывацьмуцца цапы па загуменьнях. Па даўнейшаму будуць плакаць дзеці, трава зелянецьме ўсюды, дзе толькі ўздолее, а вецер— старэйшы сонцаў брат — будзе ўздымаць пачарнелае лісьце, падаць з ім, блытацца ў ім і ўставаць для таго, каб ляцець далей. І ўсё-ж гэткімі, неадменнымі, аднолькавымі сьлязінамі, падацьмуць кроплі з вясновых стрэх, і пойдуць куры разгрэбаць разапрэлыя сьметнікі. А там—ляжаць, дагніваючы, перад абноўленым тварам сонца, старыя дзеркачы, атопкі...

Але вясна даўно ўжо адышла ад яго. Яе надыход быў толькі патрэбен для таго. каб пачаць працу. Бліжэй была восень, ды лета крыху шкада, а з ім і жыцьця. Бо любіў Нічыпар, моцна любіў, калі выгнецца над галавою неба, у нязьлічонай веліччы сініх дуг, такое яснае, сіняе-сіняе! Адну толькі пякучую смагу прыносяць ад яго праменьні, залатыя пасланцы сонечнага абруча. Тады добра везьці снапы, трымаючы з усіх рук нецярплівых, потных ад мух і сьпякоты коняй. Ядраныя, каласістыя снапы! Хлеб на ўвесь год.

На гэтую радасьць шкадаваў ён, але на што ўсё гэта, калі за плячыма стаіць ужо нязваны весьнік і тузае выбірацца. Каму-ж старацца? Праводзіць усё жыцьцё ў няспыннай, за кавалак хлеба, працы і пакідаць урэшце здабытае.

Нядаўна будаваў дом. А нашто? Нашто абдзіралі ліпкую смольную кару? Яна цягнулася вясёлымі жоўта-зялёнымі ‘стужкамі. Потым

бярвёны доўга ляжалі,—ветралі і на зрубе былі пругкія і звонкія. як старадзяроў. Як радавалі тады вялікія смольныя шчэпы! Шаўковыя іступкі пастружын! Вясёлае, пахучае пілавеньне!

... Новая хата! Новая хата!..

— І ў Карнея новая хата,—плывуць развагі. Найлепшая, найпрастарнейшая, нікому ніколі ня цесная, а галоўнае—вечная і абавязковая кожнаму чалавеку. Не пакінеш яе ні брату, ні сыну. Ходзіць яна за ўсімі, раптам расчыніцца, забярэ, наваліць векам, жвірам, каменьнямі. і па кожным будуць нагінацца вербалозьнікі, спляскваць муць пужлівымі рукамі клапатлівыя асіны, вецер павісьне доўгаю зялёнаю тугою на белых змучаных пальцах гаманкіх бярэзін.

Яму блізка ўявілася шасьценьне вербалозьніку. Сухое, балючае і водарнае ў марозным засыханьні. І ‘шчэ лісьце. Ён часта зграбаў яго, ня вельмі для карысьці (высьцілаць катухі), а для тонкага паху, для шастаньня грабель, для думак тых, што ўсплывалі працуючы.

Гэткая краса! Гэткая радасьць! Што абзывалася жартам на кожны ветраў пацалунак,—ляжыць пад нагамі панурае, ціхае з затаеным смуткам, у мёртвай нярухомасьці сваёй.

Калі-б у яго запыталі, дзе мяжа думак такіх, ці адказаў-бы? Ён ня памятае. Звычайна была вясна й восень—пражыў; засталася зіма. Як увесь сьвет, так і ён. Была-ж пара, што забываў усё ад дзявочага пацалунку, а цяпер ці ўздумае на гэта? Пацалунак цяпер ад выпітай гарэлкі, ад бязьмежнага жалю, ад перавагі сваіх гадоў над іншымі— так проста—дзіцёнка ў валасы, сваю раўню ў вусны—сухім трапятаньнем старасьці. Не пацалунак—зьдзек над пацалункам.

## V

А ці можаце вы ўявіць сабе вялікую конскую галаву, з ласкавымі вачыма, усю ў вялікай зімовай поўсьці, крыху белаватай каля губ? І самыя губы негія, як бы аблямаваныя шэрым аксамітам, мяккім, крыху валкаватым і бліскучым? Дадайце да гэтага белую зорачку на лбе між вачэй ды вялікую пасму чорнае грывы, што ўвесь час напаўзае на гэтую зорачку, камлатыя настарожаныя вушы—і вы будзеце знаёмы з Гнедым.

А калі надзець яшчэ шоры і аброць, з бліскучымі бляшанымі налепкамі, тыя самыя, што адзяюцца звычайна едучы ў мястэчка,—перад вамі самы прыгожы конь. Не здарма-ж ад коняй (прыгожых, вядома) узялі моду дзяўчаты зачэсвацца з грыўкаю (няпрыгожыя, вядома). Вы толькі ўважліва паглядзеце на вуліцы або ў фэст на рынку, колькі там гэтакіх „людзей“, што хочуць быць падобнымі да коняй!

Але не за хараство любіць гаспадар Гнедага. Вядома, і гэта прыемна—выехаць сярод людзей на добрым кані, але хваліць і даглядае яго найбольш за розум.

— Разу „но“ не сказану, пакуль у лес заеду!—пахваліцца часамі Рыгор у грамадзе.—Ды ён кругом разумны конь.

А ўвесь розум Гнедага быў у тым, што ён ня блытаў дарогі (яшчэ жарабём іржаў, клічучы матку назад, калі гаспадар зьяжджаў у бок мінуць лужыну), быў рахманы і заўжды сьпяшаўся дамоў. Бо як-жа не сьпяшацца? Цёплы хлеў... Аб ім гэтак-жа слаўна марыць, паволі перастаўляючы ногі ў трушку, як і аб мурагу і вадзе, каторай чамусьці не даюць адразу пасьля дарогі. Цеплата гэтая так адчуваецца! Уздыхаюць за пярэгарадкамі каровы, і пужаюцца ў сьне саміх сябе рухлівыя авечкі. І калі ачнуцца ад мар сярод чыстага поля, міжволі прыбавіш ходу, каб хутчэй дабіцца дамоў.

Праўда, вочы харошыя былі ў Гнедага. Цёмныя з сіняватым адценьнем. Гэта яны й надавалі такую цеплату і ласкавасьць вялікай мордзе яго, што кожны лічыў за абавязак свой палопаць яго па шыі ці пачухаць за вушмі. І хоць конь і хмыліўся сьцішка на гэта, але напраўду толькі ўсьміхаўся, бо нельга-ж быць да чужых вельмі ласкавым—страціш, чаго добрага, гаспадарову ласку. Вось калі (Гнеды ведаў, што гаспадара завуць Рыгор, толькі ніяк ня мог зьвярнуцца да яго гэтак) гаспадар падыходзіць і глядзіць яму ў вочы, дык здаецца, што двое сяброў стрэліся пасьля доўгае ростані, пазнаюць адзін аднаго, апраненыя ў розныя вопраткі. Тады конь цёрся галавою аб чалавека, а той крычаў, нібы злуючы:

— Ты-ы-ы! Разьнегаваўся, падла!

Гнеды ўмеў пакрыўдзіцца за гэта, нахмыліць вушы і, намяркаваўшыся убрыкнуць, адысьці пад жолаб.

І вось цяпер у халодную зімовую ноч па белай нечапанай цаліне бездапаможныя аднолькава дзьве істоты імкнуцца дамоў. Аб палазы б'ецца сухая сыпучая мука.

— Но-о-о! Гнедка!—прыкрыкнуў Нічыпар.

Конь падумаў, крыху наддаў хады ды ізноў вярнуўся на стары крок, бо ведаў, бо ня раз вазіў людзей, і яны былі заняты сваім—чалавечым, а ён сваім—конскім.

Разгадваць іхныя жаданьні было ня цяжка, зьвярнуць направа ці налева, адступіць некалькі крокаў назад, а думкі—нашто яму іхныя думкі: калі зазлуюць—вытнуць і ўсяго.

Цяпер Гнеды быў заклапочаны іншым крыху. Ён бачыў, як бліснуў агонь—сяло,—пачуў некалькі гукаў і пах чалавецкай вопраткі і пашоў у тым кірунку. Але што крок гэта было цяжэй і цяжэй, і ён зразумеў, што ідзе па ральлі. Не адчуўшы ніякага кіраўніцтва, пашоў назад, туды, дзе павінна быць была дарога, і ўпэўнены, што хутка знойдзе яе, закалыхаўся ў марах.

А чалавек яшчэ й ня ведаў таго, што трывожыла каня. Нічыпару ўспомнілася, як ехаў ён першым сьнегам з Пірацiч цераз поле і заўважыў бярэзіну. Яна стаяла на заімшэлым купніку—адна-адзіненькая. Стала дзіўна, як засталося гэтае дрэва (усе гайкі вакол былі даўно пасечаны), і ён намацаў ужо каля капылоў сякеру, як раптам спыніўся і застыў з растаўленымі рукамі. Сваймі паломанымі галінамі, густатою

чырванаватых сьлязьлівых кос ды нязграбна нахіленаю постацьцю—прыгадала яна старую пакрыўджаную жанчыну, сівую, але з адзнакам пякучасьці былога хараства. Быццам на штосьці жалілася яна, столькі страшнага смутку было ў выкручаных руках гэтай белай постаці.

Можа ўражала яе адзінота, ці дачасная згуба сясьцёр сваіх—толькі крыўда была і запала ў сэрца яму. Яшчэ прыгледзеўшыся, каля самае кары старое бярэзіны заўважыў ён маладую высокую пруцінку, але ўжо прыгожую падзявоцку. Яны шумелі разам, ужо дачка паўтарала, хоць ня голасна, матчыны словы. Ён зразумеў тады, чаму такою роспаччу дыхала ад старой бярэзіны: яна баялася за дачку, каб ня згінула тая адна, нямоцная яшчэ, каб яна прыждала радасьці цьвету свайго і плоду. Старая хацела быць прыгажэйшаю, каб на яе паквапілася вока людзкое, а маладая каб засталася.

Тады Нічыпару ўспомнілася, як многа болю заўжды ў бацькоў за дзяцей сваіх і як дзіця хутка забываецца на матку. Як цяпер бачыў ён іх абоіх, як цяпер хацеў схіліцца ім.

Але раптам парвалася нізка лятуценьняў.

Гнеды стаў.

— Што-ж ты, Гнедка?. Едзьма.

А конь падумаў: „як дрэнна, што ты ня мой гаспадар“, і далей не пашоў.

Нічыпар вылез з саней. Перад канём быў вал, высокі і сурывісты.

Папрабаваў шукаць, дзе яму канец. Дзесяць крокаў, пятнаццаць—усё-ж тая нярухомая белая сьцяна. Пашоў наперад. Цяжка вымаць ногі з глыбокага сьнегу. Але вось штосьці чарнее. Кінуўся бегчы і, перавёўшы дух, разгледзеў сані й каня.

— Ня я адзін значыць!—павесялеў у думках.

— О-го-ў, чалавек! Хто жывы тут? і, падышоўшы, пазнаў Гнедага! Той стаяў унурыўшы галаву, густа абсыпаны сьнегам.

— Эх, брат! От і хваліць цябе твой гаспадар!

Гнеды павярнуў галаву на голас.

— Што-ж я вінен, што ты не разумееш,—здавалася гаварылі яго вочы.

Нічыпар спрабаваў спакмячаць.

— Што гэта за ліха такое? Пашоў адсюль, а вярнуўся з другога боку. Пэўна, капец насыпаў нехта. А мо з яго сяло будзе відно?

Узьлезшы—укамянеў. Між дзьвёх вілаватых бярэзін з-пад зямлі ішло сьвятло, блыталіся цені, чуліся быццам кавалкі прыглушаных гаворак.

Тутака перамагла цікавасьць. Страх, бездарожжа—усё адступіла.

Прагна, напружваючы ўсе сілы, прыслухаўся.

— Зямля... знаёмым адценьнем даляцела адзінокае слова.

Кінулі-б у сьнег ды гатова работа,—зноў прыляцела некалькі гукаў, вымаўленых як бы знаёмым голасам.

Асьцярожна, крадучыся пачаў падыходзіць і, пазнаўшы сваіх, гукнуў прывітаньне.

— З дарогі зьбіўся, хлопчыкі!—адразу сказаў Нічыпар.

— Го! От табе й хурман і конь!—зарагатаў Мікалай.

— А ты, ліхая пара, й рад! Глядзі вось, паволі капаеш нешта!

— Едзь, браце, проці ветру, умяшаўся Апанасік: там сяло—чуваць, як сабакі брэшуць.

— Дайце, дзядзька, рады, як гэтую зямлю ўсеч! Мусіць і да раніцы ня ўправімся!

— А ты падзьмухай на яе, адляжа, ды й капай! Дык, ка'аш, проці ветру ехаць?

Пагаварылі крыху, і ён пашоў з валу, памахваючы пугаўём.

VI

Патрэба пісаць адчувалася вельмі востра. Такога дзіўнага спляценьня думак яшчэ ня было ніколі. Толькі як пісаць? У хатцы дрэнна і няўтульна. Няма паперы і алаўка. Гэта клапаціла Васіля Чапялоўскага, калі сядзеў ён за нізенькім крываногім сталом. Аднак, неяк трэ' было ўладзіцца. Папера—у кожнай кніжцы перад друкаваным абавязкога ёсьць белы лісток. Можна ўзяць адтуль, другая справа, каб ад гэтага лісьціка была якая карысьць. А аловак? Трэба памірыцца з ім, выпадковым агрызачкам, што гэтак доўга валяўся ў кішэні, чакаючы апошняга выкарыстаньня. Нявыгодны, ліхая пара! Трэба трымаць увесь час у кончыках пальцаў—іначай ня вымяркуеш.

Васіль Чапялоўскі пачынае пісаць. Піша хутка, ня думаючы. Толькі шкада, што цукру няма, абавязкова між думак ублытваецца кава. І вось што гавораць роўненькія слупочкі маленькіх нахіленых значкоў:

„Нараджэньне і сьмерць“

„Толькі яны абавязковы для кожнага чалавека—іншага можа ня быць. Таму такія дзіўныя пачуцьці бываюць у людзей пры нараджэньні і сьмерці. Ніколі ні адзін не радуецца сапраўды таму, што ў сьвет прышоў новы чалавек. Гэта роспач выліваецца ў усьмешцы, якою мы сустракаем дзіця. Яно прышло жыць, а нам трэба выбірацца. Мы з ім—ворагі.

А сум па мерцьвяку—гэта злосная балючая радасьць: вызвалілася яшчэ адно месца—жывым прастарней. І мы радуемся, дарма, што на гэта месца нарадзілася дзесяць новых людзей, якія ня толькі імкнуцца заняць яго, але й выціснуць нас. А мы—радуемся.

А ці прызнаўся хто ў гэтым перад усімі? Ці гібела гэта праўда нявыказанаю аж дагэтуль?“

Васіль Чапялоўскі здаволен. Ён устае і прабуе хадзіць па хаце. Як нечакана наблізіўся ён да гэткіх адкрыцьцяў! Так, сьвет варт чаго-небудзь, яшчэ варт у ім жыць! Далей! Далей!

Зноў бегае маленькі аловак.

„Але бывае, што мы плачам горкімі няўцешнымі сьлязьмі.

Маці й сьмерць. Колькі жуды ў гэтых словах!

Або памёр друг, які ведаў кожную шчылінку тваё душы, які з табою сумаваў, тапіў гаркоту ў кілішках, які шчыра радаваўся з табою, не зайздросьцячы. Хоць такіх людзей ня бывае.

Маці бывае раз.

Пашукаўшы, двойчы можна стрэць друга. А любых? Іх так многа! Сачы за вачмі і не шкадуй часу. Яны паклянуцца ў вернасьці! Ха-ха-ха! Яны плачуць так, як не заплача ні маці, ні друг. Толькі мы не выражэньня жалобы шукаем, а адчуваньня яе. А ваша любая будзе вырываць валасы ад роспачы, шкадуючы іх. Яна будзе плакаць таму, што ў яе цяпер няма за каго схавацца – жанчыны-ж ня любяць быць адны."

— Так іх! Маладзец Васіль! падбадзёрвае сябе Чапялоўскі. Яны, гэтыя нікчэмнасьці, не зьвярталі жаднае ўвагі на яго. Але ён! О о! Хоць ня сёньня, а яны самі прыдуць прасіць яго каханьня.

„Прага да жыцьця"—бягуць далей словы, але штосьці прымушае прыслухацца.

Нехта цяжкімі крокамі падышоў пад акно і спыніўся, так цяжка дыхаючы, што яму зрабілася страшна. Вельмі-ж ґуста намазана была на шкле ноч, так, што нічога не разгледзеў Чапялоўскі слабымі зеленаватымі вачыма. Тады надумаў выйсьці паглядзець

А было ўсё вельмі проста. Выбраўшыся з могілак, Нічыпар паехаў проці ветру. Да дому была паўгадзіна павольнае язды, але не гэтулькі прайшло, а канца і відаць ня было гэтай бязьмернай бялоты. Ён езьдзіў наўкруга па тых самых сьлядах—абмарочыўся Гнеды і ня ведаў, як ступаць. Нічыпар хацеў вярнуцца на могілкі, але ня здолеў. Тады аддаўся на лёсаву волю—закруціўся ў кажух, падагнаў апошні раз каня і лёг скамячыўшыся ў клубочак.

Конь паволі ішоў. Ішоў аж да тэй пары, пакуль існці ня было куды—ўпёрся ў сьцяну Васілёвай хаты. Тады ўжо нічога не адчувалі ні конь, ні чалавек. А Чапялоўскі ўзрадаваўся, пазнаўшы іх. Гэта азначала, што ён будзе мець цукер, і раніцы жыцьця будуць ізноў слаўнымі, з салодкаю каваю, такія падобныя адна да аднэй.

— Чаго-ж ты сядзіш, дзядзька?—зьвярнуўся ён да Нічыпара.

— Хіба ня прывёз?

Той не адказваў.

Чапялоўскі пакалываў яго.

— Дзядзька, пытаюся?

Нічыпар мармынуў нешта, паказваючы пальцам у салому.

— Там? і Васіль здаволена падняў жоўты мяшочак.—Ідзі да мяне каву піць,—і пашоў, не аглядаючыся, ў хату.

Пэўна пад раніцу было, калі скончыў ён піць каву і дапісаў апошні лісток. І, вышаўшы на двор, заўважыў, што ўсё такжа стаіць пад акном у яго напоўзамецены конь і сьнегавая гурба ў санях.

Яны ўжо ня здолелі зрабіць ніводнага руху, каб даехаць дамоў

Чалавека адратавалі, і ён ляжаў ціха стогнучы, у той час, калі з сяла па адхону выходзіла грамада хавать Карнея. Сонца каляравалася на бліскучых пратэсах, і нялоўка кульгаў за труною лысы дзівак у шырокай гарадзкой вопратцы. Хутка павінен быў прыйсьці чырванаваты халодны вечар, і зноў заграбала дарогу паземкаю, а каля дубу, на глінішчах, замяталі ветры добрую і ласкавую морду Гнедага. І з яе спыненых шкляных вачэй выразна пазірала сьмерць.

Намяло такі вялікаватую гурбу.

**Уладзімер Дубоўка**

# Пярэсты букет

## АПАЯСКА

Я на ўзгорак выходжу круты,
я выходжу сусьвет прывітаць.
Шалясьцяць у даліне лісты,
над узгоркам вятры шалясьцяць.

У празрыстасьці краю няма,
ў супакою трывогі ня чуць.
Хоць на месцы істота мая,
мае думкі далёка лятуць.

Ня спыніць іх зайздроснай рукой,
не ўрачы іх і вокам благім.
Гнёмся мы пад цяжарам вякоў,
покі самі ня ляжам у ім.

Хто разьвееца пылам на тло,
хто адродзіцца ў дзеях ізноў.
А такое-ж навокал сьвятло,
хараство—от як быццам вясной.

Моцным подыхам, воляй жыцьця
узварушана сёньня зямля.
І цярушацца думкі наўсьцяж,
як зярняты у глебу маўляў.

Я стаю на узгорку крутым,
я на стромкім узгорку стаю.
Шалясьцяць у даліне лісты,
дапяваюць там песьню маю.

### 1. „Грае цыган, грае, вочкамі міргае“...

Засьпявала красуня уздымна, надрыўна,
цішыня прыназемілася, зарыдала.
І разьліўся напеў: ім усіх надарыла,
і ля сэрца напеў: быццам хвалі на скалах.

Абудзіла красуня шумлівую строму:
галасы узьняліся, як пырскі ў праменьні.
І тады ня было ўжо маркотна нікому:

Набягалі далей каляровыя гукі,
і над заляй з мэлёдый карункі спляталі.
Капэльмэйстар, загадна ўспаветрыўшы рукі,
первястковы хаос ладуніў на крышталі.

Разьлівалася ў песьні душа паступова,
быццам „сёньня“ няма і „учора“ ня зналі.
Дасягнуўшы вяршыны, вясёлкай барвовай
распасьцерлася песьня над заляй.

Капэльмэйстар за хор адышоўся пахмурны.
...Можа пот на чале выціраў ён няспынны.
Цішыня зноў рыдала: ад воплескаў шумных...
...Пра вячэру згадала красуня дзяўчына.

### 2. Дубоўка падрабляецца пад мяшчанскія густы

Васількі зьбіралі, васількі,
а у жыце сьпелым, ля ракі.

Васількі зайстужыла ў вянок,
любая: аджа-ж даўно...

Красаваў вяночак і засох,
на пяску пялёсткі каля ног.

На пяску пялёсткі ад жыцьця,
скардзяцца, галосяць, шалясьцяць...

Спахмурнелі вочы, сьмех замоўк,
ці мо' твае вусны сьцяў замок?

У люстэрку дзён дзесь погляд твой,
сьмех у пошчак стаўся над ракой..

І кусаеш вусны... васількі
Красавалі ў жыце ля ракі...

### 3. Хаваючыся жонкі, згадвае пра розныя гісторыі

І чаму глядзіш так: з ласкай падазронай,
і чаму у думках: той ён, ці ня той?
Гэтае спатканьне хіба падарунак?
Ты пра тую прошласьць ня пытай...

Калі хочаш слухаць, я адно згадаю:
дзяцельнік ля лесу, пурпуры рабін.
Сьцені набягалі лёгкаю хадою;

Ты была другая; я—такі, як сёньня.
Што-ж: была і песьня, быў і звонкі сьмех.
І прайшло бяз сьледу, зьнікла ўсё дазваньня.
Нават адгалосак пралунаў і сьціх.

Цалаваў у вусны? Гэтай быстрай сарны?
Стан абняў твой гнуткі? *Лепш бяз гэтых слоў.*
Хай другія возьмуць стануць на котурны,
іншасьць мне на долю шчасны лёс паслаў.

Да зямлі я кленчу перад успамінам:
хараства былога не натрапіць зноў.
Сёньня ты стаіш нібыта за туманам,
я такой ня ведаў, я такой ня знаў...

Не глядзі так даўка: з ласкай падазронай,
не адкажа думка: той ён ці ня той.
Гэтае спатканьне нам не падарунак—
ты мяне ня катуй, прошласьць ня пытай.

### 4. Займаецца тэорыяй, якая прыводзіць да ляпсусаў

Ня было і ня будзе ніколі
ад поэзій трактарам нафты.
Калі дух ваш адвагай напояць,
дух поэта нязьмерна ўзьняты.

І у гэтым найбольшая радасьць,
злататканасьць для новых узьлётаў.
У званы гэта радасьць ударыць,
і аір зварухне над балотам.

Перакінецца ў ветлыя хаты,
адгукнецца у сэрцы кволым.
Апранецца ў пунсовыя шаты
над краінаю любаю золак.

Калі так—дык пра смутак надрыўны,
каб разьліўся наўкол весялосьцю.
І наперад дарую ўсе крыўды—
заўсягды за вясной ідзе восень.

### 5. Бадай што лятуценьне

Прымружыла бровы, упартыя бровы.
У зрочніках чорных гадуеш варожасьць?
І твар, як ніколі, маўляў мармуровы...

А я, супакойны балючым спакоем
гляджу на цябе і так шчыра дзіўлюся:
Ці гэта яно, наша шчасьце, такое?
А вусны... Ня здрогнуць яны, мае вусны.

Мы пойдзем... У розныя бокі мы пойдзем.
Пасьля,—ты успомні на гэтыя словы,—
хвілінаю сумнай, як страшаны злодзей,
за згадкай пра сёньня ня раз сябе зловім.

І ты пашкадуеш, і я пашкадую,
і скажам нячутна: былі мы як дзеці...
А можа і добра: часіну такую
прыемную бачылі ўсёж-ткі на сьвеце.

### 6. На правох рукапісу. Гутарка з самім сабой

Думкі, думкі, як мне вас ушчунуць?
Чым падстрыгчы роўна, водлуг моды?
Трэба пазбывацца смутку-суму,—
каб зіхцела радасьць і лагода.

Крок—і вывіх ідэолёгічны,
крок—і крытык аж са скуры лезе.
Ці хаваць пад маскаю аблічча,
ці ў тузе завыць, як воўк у лесе?

Можа яно лепш—жабрацтва духу,
па скарынцы ад сталоў суседніх.
Гэтая задуха родзіць скруху,
быццам ворагі на карк усьселі.

Я мяркую так: ня родзіць поле,—
не накормяць і суседзі вельмі.
Трэба сьмела моцнаю рукою
бязупынна сеяць, сеяць зерня.

Каб расло і красавала збожжа,
каб былі мы сытымі заўсёды.
Вось тады адчуць мы толькі зможам
радасьць чыстую і плёну слодыч.

### 7. Згадка пра маю бацькаўшчыну—пра Заходнюю Беларусь

Ніколі ня кленчы нядолі,
няласцы літаньняў ня шлі.
Даволі пакоры, даволі
качацца ў пылу на зямлі

Са сьветлым і моцным жаданьнем,
упарта, упэўнена, ў час,—
спаткаем мы шчаснае Раньне,
руйнуючы помсту і гас.

Краіна зруйнуе прыгоны,
бадзяжную шацію тож.
Сягоньня, вось гэта Сягоньня
для гэнай мінуўшчыны нож.

А толькі ня кленчы нядолі,
няласцы літаньняў ня шлі.
Даволі пакоры, даволі
качацца ў пылу на зямлі.

### 8. Дубоўка перавыхоўваецца

Так настрашылі мяне за ўхілы
пахаджэньнем дробна-буржуазным,
што бадай зусім ня маю сілы
у радкі паставіць дзень сучасны.

Аглядаюся на шлях жыцьцёвы,
каб знайсьці на гэта тлумачэньне.
Згадкі апранаюцца у словы,
выклікаюць шэраг лятуценьняў.

Як балоны ў кнізе прачытанай,
дні мінулыя перагартаю:
паўстаюць на момант з-за туману
і павольна у тумане таюць.

Разам з імі дзеі, краявіды
на экране памяці праходзяць.
Можа больш ня вернуцца, ня прыдуць
ані ў добрай ні ў благой прыгодзе.

Хоць даўно у горадзе бытую,—
з тэй пары лунаюць адгалоскі.
Бацькаўшчыну я шукаў другую,
а застаўся тым-жа сынам вёскі.

Перайначыць я сябе імкнуўся
і займаўся перавыхаваньнем.
Але моцна зацягнуўся вузел,
што завязаны ў часіны раньня.

Ня было каменнае там рамы,
ня было трывогі за прасторы.
У васнове я ўсё той-жа самы,
калі хочаце—юнацтвам хворы.

Гадавалі дух мой не частушкі,
а легэнды, песень пераліві.
Бор няспынным шалясьценьнем гушкаў
то пахмурны, змроклы, то гульліви.

За сабой віны не пачуваю,
калі ў вершы адгукнецца гэна.
Разбурае строма веснавая
наймацнейшы футарал каменны.

## 9. У парадку самакрытыкі (Дубоўка ў сабачую скуру ўшыўся, або насьледаваньне некаторым крытыкам)

Такая маўклівасьць: ні песень, ні слоў,
задумнасьць пагрозная, смутак...
Чаканае зьнікла; ці, можа, прыйшло
ў барвовых вянкох пэрламутных?

Праз пушчу іду, як атруены зьвер,
сабакі сьляды мае сочаць.
Шчасьлівы цяпер, я шчасьлівы цяпер
і роспач—паходняю ў вочах...

Даўно дагарэла вугальле зары
за чмарым наўсьцяж небакраем.
Гарыць маё сэрца, пякельна гарыць,
ды зьвягае ў понырах зграя.

Ці гэта упартасьці даўняй хада
мой крок на пясок не наземіць?
Напэўна, я скора ўсе сілы аддам
паміж палыноў, сухазельля.

Прынікну тады галавой да зямлі,
на ростань зямлю пацалую.
Пра літасьць нікога ня буду маліць
літаньнямі ці алялюяй.

Пакуль-жа—імкнуся, хоць раны пякуць,
няўгойныя—дыхаць няволяць...
У высі віюцца, нястрымна пакуль,
вялізманных кросен нагоі.

Шалёнымі ўздымамі пушча гудзіць, -
Праклёны, ці лямант, ці жальба?
А мо' гэта трошчанай вечнасьці ніць.
мо' пошчак ад песьні цымбальнай?

Хапаюць вятры тыя гукі наўзрэз,
як радасьць маю ліхадзеі,—
*кідаюць на хмары, кідаюць на лес,*
віюць, быццам пральля кудзелю...

Хапайце, зьвівайце, жанеце на пыл,
кідайце ў ніты на аснову,—
ўсё вытварыць можна на пэўны капыл,
за выняткам... песьні хмялёвай...

**10. Палёты пад шкляным каўпаком, або замест запоўненае анкеты**

Жыву, як бы сказаць вам, па крысе:
і сплю, і ем, пасьля хаджу на службу.
Здаецца, так жывём цяпер усе,
шануючы компартыю і дружбу.

Чытаю кожны дзень газэты для навін,
сачу за ворагам знадворным і нутраным
Вітаю у мастацтве фронт адзін,
і плян вытворчы друкаваны.

Якія вершы можна лепш пісаць:
за зьместам ці за формай прымат?
Такая ціш, такая благадаць,
і ароматны, і цудоўны клімат.

Хаджу прымаю зараз душ Шарко.
Сказаць па праўдзе—проста мармалада.
Настрой ліецца шумнаю ракой,
якая добрая мэдычная прылада!

Іду дарогаю каля слупоў,
каб ня ўхіліцца ўлева ці управа.
І так ішоў, і так сюды дайшоў.
Вось асабістая мая ўся справа.

P. S. Прыду да хаты—сын крычыць „насіць“.
вазьму на рукі—калыханку ладжу...
Чаго ў жыцьці мне больш і папрасіць?—
Даволі радасьці, хапае з сына плачу.

## 11. Для знатакоў. Цьвек і панахвіда

Ведаю, што і я памру, як і ўсе,
што па сьмерці нічога ня будзе трэба.
Тым мацней кахаю шырокі сьвет
і гэта—пярэстае з большага—неба.

Перачуць усю боль і ўсю слодыч жыцьця,
акунуцца ў прадоньне жыцьця з галавою.
Пераслухаць, як травы ў вятрох шалясьцяць.
Гэта шчасьце, хай скажуць—малое.

Перайначыць, спыніць можа сілы няма,
а плысьці супроць плыні магчыма.
На шляху калі хто і залом заламаў—
падарожжа ня зьменіць, ня спыніць.

Цярушыцеся шаты лісьцём залатым,
вы красою праменілі гордай.
Чаравалі мяне (мо' затым, не затым)
ціхіх шэптаў акорды... акорды...

## 12. Сьветлыя акорды

У восень, кажуць, сумныя ўсё дні,
і млявасьці, і лятуценьняў зьвівы.
Ня грэюць сэрца восені агні,—
люструюцца квяцістаю палівай...

Каму што як... А я люблю хаду
пад змроклым, волкасьцю цяжкім уборам.
Калі бары шасьцяць, шумяць, гудуць,
вятры васеньнія, імклівяць борам.

Здаецца, сіла пырскае з вятроў,
хоць з імі часам сьцюжа і трывога.
І супакой адрывісты ізноў
правіс абапал нашае дарогі.

Ізноў акордаў пеніцца бурун,
навала цішу гвалтам раскалола.
За ёю бубны між цымбальных струн,
а там—заграла кволая віола.

Ігу вось я, хоць вецер моцны дзьме,
ігліняць пырскі дожджу у аблічча,
і гэта ўсё ахутвае мяне,
да дзейнасьці упартай вабіць, кліча.

Мае сябры! З жыцьцём вітаю вас,
вітаю з хараством зямелькі роднай.
Такі прыгожы нязвычайна час
хай гоніць смутак ваш і жаль нягодны.

Адкуль да нас каснуўся гэты сум,
адкуль узята панская хвароба?
Я вам настрой магутны прынясу
да найвялікшай творчай асалоды.

**13. Народная (Гонорар прашу выплаціць на карысьць ТДА—Авіяхэму)**

„Ішоў Бай па сьцяне
у чырвоным каптане,
нёс сямёра лапцей:
і сабе,
і жане,
і дзяцёнку па лапцёнку.
Ці баяць, ці не?
— Баяць.
Ішоў Бай па сьцяне
у чырвоным каптане,
нёс сямёра лапцей:
і сабе,
і жане,
і дзяцёнку па лапцёнку.
Ці баяць, ці не?
— Баяць.
Ішоў Бай па сьцяне
у чырвоным каптане,
нёс сямёра лапцей:
і сабе,
і жане,
і дзяцёнку па лапцёнку.
Ці баяць, ці не?
—А, каб ты затонуў!..

24 кастрычніка 1928 г.
г. Масква.

**В. Шашалевіч**

# Воўчыя ночы

## Госьць [1]

Глухая асеньняя ноч. Дождж з ветрам плюскоча, стукае ў вокны школы. Настаўніца Ніна Смольская сядзіць адна ў невялікім пакоі, чытае. Зрэдка адарваўшыся ад кнігі, прыслухоўваецца, як жаліцца, вые бяздомны вецер. Уздрыгвае. Паліцца грубка. Настаўніца падыходзіць і грэе рукі.

Смольская. Што за праклятая ноч!.. Хіба толькі злодзея ці няшчаснага выганіць ліха ў такое надвор'е... (*Прыслухоўваецца).* Ёсьць-жа людзі, што і ў такую ноч крадуцца па чужых дварох, кагосьці падпільноўваюць... Страшна тут жыць... Адна тут сяджу ў глушы, як у труне... (*Нехта асьцярожна пастукаў у вакно. Настаўніца спалохаўшыся ўскочыла. Прыслухалася. Зноў стук. Тры разы. Адважылася, запытала)*

Хто там?

Голас. Падарожнік. Пусьцеце абагрэцца. Чыста ўвесь акалеў.

Смольская. Хто вы такі?.. Я баюся...

Голас. Ня бойцеся... Ніякай шкоды вам не зраблю... Пусьцеце на некалькі хвілін, хоць дождж перачакаць...

Смольская (*сама сабе*): Што гэта? Нешта знаёмы голас?.. (*Гучна*) Я баюся... Я адна... Тут-жа недалёка вёска... папрасецеся там...

Голас. Слухайце, няўжо вы такая бязьлітасная? Я ўвесь абмок...

Смольская (*наіўна*). Я баюся, можа вы... бандыт?.. *(Дабрадушны сьмех за вакном).*

Голас. Ха, ха, ха... Ну што вы! Як вам ня сорам! Я—Мікола Драгун, з Гніліцы Ня бойцеся.. Пусьціце.

Смольская. Ну добра... Я вам зараз адчыню. (*Ідзе за дзьверы і вядзе падарожніка. Малады, год дваццаць пяць, высокі, у новенькай савецкай вайсковай шынелі, з боку наган. Увайшоўшы, спыніўся ля парогу, шпарка акінуў вокам пакой. Настаўніца ўглядзелася ў падарожніка і раптам, нібы ў спалоху, адхіснулася: яго твар здаўся ёй да болі знаёмым! Нейдзе яна яго бачыла!..*)

Падарожнік (*ня гледзячы на настаўніцу, выцягнуўся нібы рапартуючы*). Добры вечар... Дазвольце прадставіцца: Мікола Драгун, толькі што скончыў Петраградзкую вайсковую школу... (*Настаўніца бадай што ня чула яго слоў. На твары яе раптам засьвятлілася радасьць: яна яго пазнала Кінулася да яго, схапіла за рукі*).

---

[1]) Гэрой п'есы Чырвонец, як тып, нічога агульнага ня мае з бандытам Чырвонцам, які опэраваў на Магілеўшчыне ў 24 годзе і быў расстраляны

П'еса ў цэлым не зьяўляецца драматычнай хронікай, хоць некаторыя сапраўд-

Смольская. Сяргей!! Ты?!... (*У яго на момант мільганула няпрыемнае зьдзіўленьне і патухла. Адказаў проста*):

Я... Не чакаў тут сустрэцца з табою!...

Смольская. Божа мой!.. Як жа ты тут апынуўся?.. Распранайся Я табе гарбаты пастаўлю! (*Мітусіцца*).

Падарожнік. Нічога... Я доўга сядзець ня буду...

Смольская. Куды-ж ты так?.. Я так рада, што зноў пабачыла цябе!. Што-ты жыў!.. (*Госьць пачаў распранацца. Надзіва прыгожы, асабліва цёмныя, жывыя і сьмелыя вочы з нейкім агнём непакою. Доўгія бровы часта хмурацца і навісаюць, у змроку хаваюць агні вачэй. Настаўніца загаварыла, пасыпаліся пытаньні. Але госьць, відаць, моцна зморany, вызначаўся маўклівасьцю і толькі зрэдка даваў нявыразныя адказы*).

Смольская. Ну як жа ты?.. Ой! Я ўсё яшчэ не магу апомніцца!. Хто-б паверыў!.. Мы ўсе цябе ўжо даўно пахавалі і аплакалі!..

Падарожнік (*усміхнуўся*) Рана!.

Смольская. Падумай, пра цябе так многа гаварылі: нібы-та ты перадаўся на бок Польшчы, што цябе чырвоныя расстралялі!..

Падарожнік. Цікава!..

Смольская. Ну, дай я цябе бліжэй разгледжу, ці вельмі ты зьмяніўся?.. Як ты пастарэў! Табе можна даць трыццать.. Глядзі: у тваіх валасох ужо срэбра мільгнула!.

Падарожнік. Ну што-ж...

Смольская. Не, нічога... Здалёку ня відаць.. Цёмныя, як смоль! Ведаеш, ты вельмі зьмяніўся... Зусім стаў інакшым... Ня той, якога я любіла...

Падарожнік. Праўда? Што-ж у мене новае зьявілася?

Смольская. Знаеш, я табе праўду скажу: у цябе нешта нядобрае ў твары... Вось гэтыя маршчыны...

Падарожнік. Робяць мяне злым?

Смольская. Каб я ня ведала цябе раней, падумала-б, што ты ліхі чалавек...

Падарожнік. Штож, можа гэта й праўда... Жыцьцё азьліла мяне. Ну а ты?.. Такая самая, як была: ні крупінкі не зьмянілася...

Смольская. Ты знаеш, я пашла замуж! Нядаўна. Усяго два месяцы...

Падарожнік. Шкода..

Смольская. Ты шкадуеш? Ну падумай—пра цябе ні слуху, ні духу... Недзе загінуў. Ніякой весткі. Ведаеш, я так плакала па табе, як мне сказалі, што цябе забілі!... А потым...

Падарожнік. А потым—няма чаго доўга сумаваць—закахалася і пашла...

Смольская. Не, Сяргей, не закахался... Даю табе слова. Я проста ня ведаю, як гэта здарылася... Пайшла, ну і ўсё.

Падарожнік. Гм...

Смольская. Ведаеш, мне так цяжка і сумна было жыць тут аднэй! Можна было павесіцца з нуды... А ён абяцаў выцягнуць меня з гэтай глушы ў горад.

Падарожнік. Чаму-ж ён ня выцягнуў?

Смольская. Пакуль што ня можна. Ён вельмі заняты: увесь час у разьездах. Ведаеш, я нават яго за мужа ня лічу!.. Які гэта муж? Два месяцы як пажаніліся, а ён усяго разы тры наведаў мяне!...

Падарожнік. Бедная...

Смольская. Дужа, бедная! Каб я яго любіла!.. Не, чакай!.. Штож гэта я ўвесь час пра сябе гавару, а ты ні слова ўсё...

Падарожнік. Не, спачатку ты раскажы пра сябе ўсё, а потым я...

Смольская. Ды я ўжо бадай што ўсё пра сябе расказала... Што яшчэ?.. Скажы, ты ажаніўся?

Падарожнік. Не.

Смольская (*узрадаваўшыся*). Вось гэта добра!..

Падарожнік. Чаму?

Смольская Калі ў нас зноў будзе каханьне, дык ня будзе ні якіх перашкод. . (*задумленна*:). Ведаеш, на мяне найшлі ўспаміны. . Памятаеш, як мы з табою...

Падарожнік. Не, не гавары і не ўспамінай пра мінулае, не хачу!...

Смольская. Табе няпрыемна? Ну добра, ня буду... А ўсёж-такі дужа сумна, што нашае каханьне так скончылася, і мы ня ведалі шчасьця! . Сяргей, ведаеш...

Падарожнік (*хутка*): Не заві мяне—Сяргей...

Смольская. Чаму гэта? Што такое?..

Падарожнік. Я ўжо не Сяргей. Я—Мікола Драгун... Ты-ж сама сказала, што Сяргей перадаўся на бок Польшчы, што яго расстралялі, пахавалі і аплакалі... Ну вось і на месцы Сяргея нарадзіўся Мікола Драгун...

Смольская. Ты зьмяніў сваё прозьвішча?

Падарожнік. Зьмяніў прозьвішча, зьмяніў душу, хацеў-бы і цела сваё зьмяніць...

Смольская (*зацікаўленая*). Гэта падазрона... Якая патрэбнасьць? А!.. Відаць, у цябе нейкія грашкі ёсьць!.. Прызнайся...

Падарожнік. Так, грахоў шмат. Поўны мех...

Смольская. Не, праўда, скажы... Ты можаш мне ўсё сказаць.. Нікому, ні слова!

Падарожнік. Не, не магу... Потым даведаешся...

Смольская. Думаеш, я цябе асуджу?.. Ніколі. У нашыя дні няма бязгрэшных людзей... Толькі скажы, што ты зрабіў. Казённыя грошы ўзяў? Ці яшчэ што-небудзь?

Падарожнік (*усьміхнуўся*). Такое глупства!

Смольская. Ну, скажы, што?

Падарожнік. Не прасі... Ты яшчэ спалохаешся, выдасі мяне ўладзе!..

Смольская. Ты думаеш я выдам? Памыляешся. Ніколі я ня выдам чалавека на сьмерць, хоць бы ён зрабіўся злодзеем, бандытам, контр-рэвалюцыянэрам!. Першая схаваю яго!

Падарожнік. Ты за бандытаў!

Смольская. Што ты! Не. Я не магу іх апраўдваць.. Толькі мне шкода тых, у каго адымаюць жыцьцё!..

Падарожнік. Веру. У цябе добрая душа. Праўду хочаш ведаць? Ты яе адгадала: гэта я зрабіўся злодзеем, бандытам, контр-рэвалюцыянэрам!. (*Настаўніца, зьбляднеўшы, адступіла на крок*).

Смольская. Сяргей! Што ты кажаш!...

Падарожнік. Праўду.

Смольская (*спалохана глядзіць*): Ой! Якжа так? Няўжо ты забіваеш людзей, рэжаш? Ня веру я гэтаму, ня веру! Ты!..

Падарожнік. Так, забіваю людзей, што прадалі рэволюцыю і буду забіваць, пакуль жыву!

Смольская. Мне жудасна на цябе глядзець! Ты такі самы страшны, як і мой муж.

Падарожнік. А хто твой муж?

Смольская. Той, хто падпісвае растрэлы!

Падарожнік. Чэкіст?

Смольская. Ён ловіць бандытаў.

Падарожнік. Расамаха!

Смольская. Але. Мой муж!

Падарожнік (*падхапіўшыся, стаў хутка апранацца*). Ты жонка гэтага крававага чалавека!

Смольская. Ну што-ж, ён не злачынца, ні ад кога не хаваецца! Ён шчыра йдзе...

Падарожнік. Так. А я злодзей, бандыт! Хаваюся па цёмных кутках!

Смольская. Ідзеш?

Падарожнік. Іду.

Смольская. Ну, ідзі. Нічога табе благога не жадаю, нікому ні слова не скажу, толькі... Ня прыходзь болей да мяне.

Падарожнік. Гоніш?

Смольская. Ня крыўдзіся, я не ганю. Але-ж табе самому небясьпечна бываць тут... Да мяне зойдзе хто-небудзь—што я скажу? Разумееш...

Падарожнік. Так я пайду... (*пашоў да дзьвярэй*). Бывай..

Смольская Чакай... Здаецца, нехта ідзе!.. (*Абое трывожна прыслухоўваюцца: пачуліся конскі тупат і людзкая гамонка*). Гэта людзі едуць шляхам.. Няхай яны праедуць. Я не хачу, каб хто-небудзь бачыў што ты быў у мяне...

Падарожнік. Ня бойся, я выйду зусім няпрыкметна.. (*Галасы сталі набліжацца. Конскі тупат спыніўся*).

Смольская (*у вялікім спалоху*): Гэта Расамаха! Сяргей! што рабіць? (*На твары госьця ўспыхнула рашучасьць. Схапіўся за рэвольвэр*).

Смольская Толькі не страляй! Прашу цябе.

Падарожнік. Але-ж я жывым ня дамся! Яны ўкакошаць мяне на месцы!

Смольская (*ловіць яго рукі*). Не страляй! Не страляй! Прашу цябе! Я схаваю цябе! Толькі, каб усе жывы былі!.. (*Скрыпнула брама. Нехта пастукаў у вакно*).

Смольская (*перапалоханым голасам*): Хто там?

Голас Расамахі (*за вакном*): Ня бойся, Ніна, гэта я, а са мною яшчэ хлопцы.

Смольская. Зараз...

Падарожнік (*шэптам*). Ну хавай-жа мяне! Хавай! А то ведаеш, што будзе!..

Смольская. Вось тут схавайся. Я засланю цябе чым-небудзь (*Ён хаваецца між печкай і сьценкай. Яна завешвае яго палітонам і йдзе адчыняць дзьверы. Уваходзяць Расамаха, Сьвірановіч і Лютарэвіч*).

Расамаха. Добры вечар (*пацалаваўся с жонкай*). Знаёмся: мае таварышы—Лютарэвіч, Сьвірановіч. Ну, як ты жывеш тут? Усё добра ў хаце? Што з табою? Ты ўся пабялела!.. Супакойся! Чаго ты дрыжыш? Сьвірановіч! прынясі вады—ёй дрэнна...

Смольская (*сабраўшы сілы*). Не. Нічога. Усё прайшло.

Расамаха. Выпі вады. Табе будзе лягчэй. Ну вот. Што з табой такое? Цябе хто-небудзь спалохаў?

Смольская. Мне так было страшна тут аднэй. Старожка пакінула мяне... Разумееш, нехта стукаў у вакно... Потым, глухі голас „адчыні“! Я ўся застыгла, сяджу ледзьве жывая...

Расамаха (*з непакоем*). Гэта мог быць Чырвонец! А ў дзьверы ён ня стукаў?

Смольская. Не.

Расамаха. Даўно гэта было?

Смольская. Нядаўна... Можа хвілін дваццаць.

Расамаха. Хлопцы! Чулі? Гэта быў ён! У тым месцы, дзе ён страляў у нас, мы пагналіся за ім па шляху на Сьцяпанаў хутар, а ён спакойна сабе пайшоў назад!.. Гэта ясна!

Лютарэвіч. Чорт яго распазнае ў гэту праклятую ноч.

Сьвірановіч. Два разы мне хацелася страляць у пень і куст.

Расамаха. Ну чорт яго бяры Чырвонца, калі ён уцёк ад нас.

Лютарэвіч. Нічога. Усероўна не сягоньня, дык заўтра яго зловім.

Сьвірановіч. Але вот гад! З-пад самага носу ўцёк.

Расамаха. Добра што грубка топіцца (*Грэе рукі. Да жонкі)*: Ну, што, як ты жыла тут адна без мяне? Занудзілася? (*Абыймае яе*).

Смольская. Што-ж калі ты так рэдка бываеш. Я нават забылася, што ў мяне ёсьць муж!..

Лютарэвіч. Дрэнны ты муж, Расамаха! (*Сьмяецца*). Каб у мяне такая жонка, я ўсюды яе цягнуў бы за сабою: і ў паход, і бандытаў лавілі-б разам.

Расамаха. Ну гэта ты жартуеш... А праўда, хлопцы, нішто ў мяне жонка? Адно ў яе дрэнна—дужа добрае сэрца і мяне мала любіць...

Сьвірановіч. Першае, што добрае сэрца, ня дрэнна...

Расамаха. Што ты, браток! Ты ведаеш, што яна нават шкадуе бандытаў, якіх мы растрэльваем!..

Лютарэвіч. Што вы!

Смольская. Я шкадую не бандытаў, а тых людзей, у якіх жыцьцё адымаюць!.. Усе роўна, хто-б яны ні былі...

Сьвірановіч. Ну гэта вы дарэмна. Ведаеце, што гэтыя бандыты зрабілі-б з намі, каб мы толькі папаліся ў іх лапы.

Лютарэвіч. Самае меншае—зьдзерлі-б з нас скуру!

Расамаха. А яна іх шкадуе! Эх, ты! Мікіта! Каб бандыты даведаліся, што ў яе такое добрае сэрца, напэўна штаб свой тут адчынілі-б!..

Смольская (*раптам збляднеўшы, падхапілася*): Анрэй, што ты сказаў!..

Расамаха. Ага, спужалася!... Слухай, Ніна, ці няма ў цябе чым-небудзь пачаставаць гасьцей? Ня дрэнна было-б гарбаты, а?

Смольская. Можна. Я зараз пастаўлю

Расамаха. Можа чаго-небудзь знойдзеш, каб павячэраць. Есьці ахвота.

Смольская. Яечню.

Расамаха. Давай.

Смольская (*спыніўшыся ў дзьвярах*). Андрэй, ты будзеш начаваць, ці паедзеш?

Расамаха. Паеду, браток. Трэба да раніцы пасьпець у Чэрыкаў. (*Смольская выйшла*).

Лютарэвіч. Расамаха! Твая жонка нездаволена. Я ведаю, чаму! (*Падмірнуў*).

Расамаха. Ну штож, тут нічога ня зробіш... (*панізіўшы голас*): Вот што, хлопцы, пакуль яна будзе там вазёкацца, давайце пагаворым. Я не хачу, каб яна чула. У мяне плян, як злавіць Чырвонца.

Лютарэвіч. Ну, гавары. Паслухаем.

Расамаха. Усё вельмі дрэнна. Атрад не спраўляецца з задачай абароны павету. Нас мала. Можа быць, што бандытаў болей. Чырвонапольскі кашмар можа яшчэ раз быць.

Сьвірановіч. Ну, няма чаго ўпадаць у паніку. Нам жа з Магілеву прышлюць падмацаваньне.

Расамаха. Прышлюць яго не раней, як праз два тыдні, а тымчасам Чырвонец наладзіць такі крывавы баль, што...

Сьвірановіч. Ня думаю, каб так было шмат бандытаў.

Лютарэвіч. Можа іх і ня шмат, але да іх далучаюцца заможнікі, тыя, што лічаць сябе пакрыўджанымі прадразьвёрсткай, рэквізыцыямі...

Сьвірановіч. Які-ж твой плян? Што ты хочаш зрабіць?

Расамаха. Я прапаную, каб адзін з нас пайшоў у госьці... да Чырвонца (*пауза*).

Сьвірановіч. Гэта значыць... Што?

Расамаха. Каб адзін з нас, пераапрануўшыся нібыта дэзэртыр і хаваецца ад улады, прабраўся ў стан Чырвонца, застаўся на бандыта, разьнюхаў усё, разумееце?!

Лютарэвіч. І справакаваў Чырвонца?

Расамаха. Але (*Пауза*).

Лютарэвіч. Такая правакатарская тактыка мне не па сэрцу...

Расамаха. А якая па сэрцу?

Лютарэвіч. Я прызнаю адкрыты і сумленны бой! Я ніколі не ўсаджу нож у сьпіну ворагу. Толькі ў грудзі.

Расамаха. Падумаеш, якое шляхецтва! Дзе ты яго набраўся? Сумленны бой, у якім палягуць касьцьмі ўсе нашыя байцы!

Лютарэвіч. Я правакатарам ніколі ня быў і ня буду.

Сьвірановіч. А хто з нас калі ім быў?

Расамаха (*да Лютарэвіча*). Ты называеш правакатарам таго сапраўднага рэволюцыянэра, што рызыкуе сваім жыцьцём, каб злавіць зграю бандытаў і ворагаў рэволюцыі.

Сьвірановіч. Ты, Лютарэвіч, глупства гародзіш!.. Вядома тут ёсьць шалёная рызыка... А ведаеш, Расамаха, у мяне ёсьць дадатак да пляну... Можна зрабіць так: кінем жэрабі, каму з нас пайсьці. Гэта раз. Заўтра-ж раніцаю пашлём ганца ва ўсе суседнія вёскі з абвесткай, што: „Гэтаю ноччу ўцёк ад расстрэлу дэзэртыр! Просім затрымаць злачынцу і выдаць уладзе. Узнагарода, скажам, 1000 руб. Прыметы—як у аднаго з нас (хто пойдзе на гэта). Разумееце?

Расамаха. Гэніяльна! Мы так і зробім!

Лютарэвіч. Так, так! Мы гэтым створым як бы нейкі фон, на якім ужо лёгка будзе прасачыць сьлед Чырвонца.

Расамаха. Што ж гэта? І ты з намі.

Лютарэвіч. Я і ня быў супроць. Я толькі казаў, што трэба гэта ўсё добра абмеркаваць, а ня то што з бухты-барахты.

Сьвірановіч. А ты ведаеш, Расамаха, што, застаючыся ў Чырвонца, трымаюць экзамэн на бандыта.

Расамаха. Ну штож, будзем трымаць і экзамэн.

Сьвірановіч. Глядзі, дружа, бо калі праваліўся—адразу сьмерць.

Лютарэвіч. Сем чалавек з нашага атраду не вярнуліся з разьведкі. Добра, калі яны ўсе загінулі. А калі хто-небудзь з іх перадаўся на бок Чырвонца? Тады нам капец!

Расамаха. У атрадзе Расамахі няма здраднікаў. За ўсіх я адказваю галавой.

Лютарэвіч. Глядзі, каб не заплаціў за іх галавою. (*Уваходзіць Смольская. Нясе гарбату. Стаўляе на стол*).

Смольская. Вось гарбата. (*Нясе пасуду, выпадкова зірнула ў кут, дзе схаваўся падарожнік, раптам здрыгнулася*) Ах!.. (*Упусьціла чашку, закрыла твар рукамі*).

Расамаха. Што з табою? Ты нейкая дзіўная.

Смольская. Не. Нічога.

Расамаха. Ты хворая?

Смольская. Ня ведаю. Можа быць. Галава баліць ад самае раніцы.

Расамаха. Паляжы троху на канапе, табе палепшае. Хочаш, я табе гарбаты нальлю.

Смольская (*кладзецца на канапу*). Не, нічога ня трэба. Пі сам і таварышаў запрашай. Выбачайце, што я такая...

Лютарэвіч. Ну што вы! Што вы! Мы самі тут зробім, што трэба.

Смольская. Андрэй... Я табе нешта хачу сказаць... Ты зноў ад'яжджаеш?

Расамаха. Нічога ня зробіш, братка, прыходзіцца!..

Смольская. А я зноў застануся адна?

Расамаха Ну пацярпі троху. Цяпер такія трывожныя дні. Ты ведаеш, што кожную ноч у Крычаве, Чэрыкаве, Прапойску ня сьпяць: чакаюць пагрому. Падумай толькі: жыцьцё вісіць на валаску!.. Цяпер нам трэба скрозь ноч скакаць у Чэрыкаў, дзе нас чакаюць...

Смольская. Усё гэта так. Ну, падумай, Андрэй, усяго два месяцы, як мы пажаніліся, а ты быў у мяне толькі два разы.

Лютарэвіч. Дрэнны ты муж, Расамаха!..

Расамаха. Я тут, Ніна, не вінават. Ты ведаеш, якая была завіруха ў рабоце? Іншы раз я нават забываўся, ці ёсьць ты на сьвеце!..

Смольская. Я не вінавачу цябе. Толькі тут дужа страшна жыць аднэй. Гэта-ж самая бандыцкая дарога. Як даведаюцца, што тут жыве жонка Расамахі.

Расамаха. Ну вот даю табе слова, што, як толькі мы ліквідуем Чырвонца, я выцягну цябе адсюль. Мы будзем жыць разам у горадзе.

Смольская. Ну добра, пацярплю... А што калі ня ты Чырвонца, а ён цябе зловіць.

Расамаха. Ён мяне?! Ня хопіць пораху! Вось табе мая рука, што праз два тыдні ад Чырвонца застанецца адзін пыл, які мы разьвеем па ветру! Адзін успамін, адна легенда застанецца ад яго!..

Смольская. Добра, калі будзе так... А вось скажы, што б ты зрабіў са мною, калі б даведаўся, што я... зьлітавалася над бандытам, схавала яго ад цябе, выратавала ад сьмерці!.. Што-б ты?..

Расамаха. Што ты за глупства пытаеш?

Смольская. Не, скажы. Я гэта кажу, як прыклад. Ну, уяві сабе: вы гоніцеся за бандытам, яму пагражае сьмерць! Ён прыбягае да мяне, літасьці просіць, рукі цалуе, каб яго схавала.

Расамаха (*прыжмурыўся*). А ў цябе, канешне, мяккае сэрца!..

Смольская. Якая жанчына, у каго ёсьць душа, не пашкадуе яго, выштурхне на сьмерць? Я б яго выратавала..

Расамаха. Ворага народу і рэволюцыі!

Смольская. У той момант я б ня думала, што ён вораг, я б ратавала проста чалавека, які хоча жыць!.. Ну скажы, што-б ты зрабіў са мною?

Расамаха. Што? растраляў бы!..

Смольская. Ах! (*Паднялася. Бледная глядзіць на яго*). Адабраў бы ў мяне жыцьцё! І рука ў цябе ня здрыганулася-б?

Расамаха. Не. Трэба памятаць: топіцца вораг—кіем папхні яго!.. Ратаваць у такіх выпадках—найвялікшае злачынства! Ты сягоньня зьлітавалася над ім, выратавала ад сьмерці, а заўтра ён пойдзе рэзаць яўрэяў, забіваць камуністых, разьбіваць выканкомы!.. Вось што ты зрабіла-б!

Смольская (*зайшлася ў гістэрыцы, сьлёзы градам пасыпаліся*). Не, не. Ты ня любіш мяне! Цяпер я бачу! Ня любіш! Ты і жыць са мною ня хочаш!.. Ты растраляеш мяне пры першым выпадку!

Расамаха. Дурная ты, супакойся! Адкуль ты ўзяла, што я ня люблю цябе?

Смольская. Ты страшны! Я баюся цябе! Ідзі ад мяне! (*Расамаха ўсялякім чынам спрабуе супакоіць яе. Сьвірановіч і Лютарэвіч зьбянтэжаны).*

Сьвірановіч (*ціха Лютарэвічу*): Слухай, я здагадваюся, што за прычына... Жонка маладая, нядаўна пажаніліся... Разумееш? (*Падміргнуў*)

Лютарэвіч. Вядома, што так... Трэба нам куды-небудзь пайсьці. На вёску, ці што?.. Ты выдумай прычыну..

Сьвірановіч. Добра. Мы праз гадзіну... А тож трэба ехаць.

Расамаха Вы аб чым гэта, хлопцы?

Сьвірановіч. Мы надумаліся пайсьці на вёску—таго-гэтага раздабыць. Відаць у тваёй жонкі няма чым пасілкавацца.

Расамаха. Позна ўжо. Усе сьпяць. Куды вы пойдзеце?.. (*падумаўшы*). А калі так... Жарце.

Лютарэвіч. Мы прыйдзем праз гадзіну. Добра?

Смольская. Не, не! Ня йдзеце! Прашу вас!.. Ня йдзеце!

Расамаха (*ціха жонцы*): Што табе? Няхай ідуць.

Смольская. Не, не, я баюся! Ня йдзеце.

Сьвірановіч. Чаго-ж вы баіцёся? Тут жа Расамаха застанецца. Мы зараз прыдзем.

(*Нехта ціха пастукаў у вакно*).

Жаночы голас (*за вакном*): Ніна Аляксандраўна!... можна да вас на хвілінку? Гэта я, ды са мною Янка.

Смольская (*мужу*): Адчыні ім. Гэта Клава Стрэльская з братам. (*Расамаха йдзе ў сенцы. Уваходзіць Клава Стрэльская, у сялянскім кажушку, дзяўчынка год васемнаццаці, з ёю яе брат Янка, 15-гадовы хлопчык*).

Стрэльская. Добры вечар. Выбачайце, што так позна.

Расамаха. А! Таварышка Стрэльская! Рады вас бачыць. Знаёмцеся—мае хлопцы.

Стрэльская. Як раз я да вас, т. Расамаха. Мне на вёсцы сказалі, што вы толькі што прыехалі... Я хацела прасіць вас... Напэўна вы хутка будзеце ў Чэрыкаве?

Расамаха. Можа нават заўтра.

Стрэльская. Я не ведаю як прасіць вас, т. Расамаха... Я знаю, што вы дужа заняты...

Расамаха. Калі ласка... Усё зраблю, што магу...

Стрэльская. Можа вы знойдзеце хвіліну зайсьці ў аддзел асьветы даведацца, як там мая справа?.. Я падала заяву, каб мяне прызначылі настаўніцай... Ужо тры тыдні прайшло, а няма адказу.

Расамаха. Вядома, я гэта зраблю... Мне гэта ня цяжка.

Стрэльская. Мы таксама падалі заяву ў сабез, каб нам хоць якую-небудзь далі дапамогу... І зноў няма ніякага адказу... А нам так цяжка жывецца, што і расказаць ня можна... У нас нават няма ў што апранууца... Вось усё што на мне—сяляне далі насіць.

Расамаха. Вы выехалі з мястэчка?

Стрэльская. Але, пераехалі ў вёску... Нас прытуліў адзін селянін. Але і сам ён бедны: сем'я галадае...

Расамаха. А вы не хадзілі ў мясцовы камітэт беднаты па дапамогу?

Стрэльская. Хадзілі. Ды што яны могуць даць, калі самі нічога ня маюць... Далі нам фурманку і чалавека хадзіць па дварох, прасіць ахвяраваньня. Бедныя з апошняга даюць, а багацей бяз кпінаў ня дасьць. Сьмяюцца: „Вунь Стрэльскія жабракамі зрабіліся“. Хоць бы хутчэй назначылі мяне настаўніцай! Сваёй працай жылі-б..

Расамаха. Хто яшчэ, акрамя вас, у вашай сям'і?

Стрэльская. Яшчэ толькі мама... Нас трое. Мама бедная штодзень плача... Як ня выплакала сваіх вачэй. Нядаўна мы з ёю хадзілі на вогнішча, там дзе загінуў бацька... Раскопвалі попел, косьці яго шукалі... каб пахаваць... (*Па яе твару скацілася сьляза. Усе ўздыхнулі*).

Расамаха. Т. Стрэльская! Мы адпомсьцім за сьмерць вашага бацькі!

Лютарэвіч. І не бядуйце. Мы вам дапаможам. Калі ў Расамахі ня будзе часу, мы з Сьвірановічам паклапоцімся аб вашай справе, зойдзем куды трэба.

Стрэльская. Дзякую, вельмі дзякую...

Смольская. Андрэй, пачастуй гарбатай. Клавачка, выбачайце, я дужа дрэнна сябе адчуваю.

Стрэльская. Вельмі дзякую. Ня трэба. Мы сьпяшаемся—мама адна засталася... Што з вамі такое, Ніна Аляксандраўна?

Смольская. Сама ня ведаю...

Расамаха. Нэрвы. Яе сягоньня нехта напалохаў... Стукаў у вакно. Можа гэта быў Чырвонец.

Стрэльская (*спалохана азіраючыся*): Што вы кажаце! Чырвонец тут!...

Лютарэвіч. Можа и быў тут недалёка.

Сьвірановіч. З гадзіну таму назад мы ледзь яго не злавілі.

Янка (*жвава зацікавіўся*): Не злавілі! Шкода!..

Стрэльская. Ну, Янка, трэба нам ісьці. Дзякуем за ўсё. Бывайце здаровы.

Расамаха. Чакайце. Адну хвіліначку. Цяпер у мяне да вас просьба... Зараз... (*Працягвае Стрэльскай тры скручаных невялікіх кавалкі паперы*).

Сьвірановіч. Што гэта?

Расамаха (*ціха*): Жэрабі. (*Да Стрэльскай*): Вось, калі ласка, выцягнеце аднаму з нас шчасьце.

Стрэльская (*зьдзіўлена*): Якое шчасьце?

Расамаха. Ну, жэрабі. Мы, бачыце, задумалі адну справу, якую адзін з нас павінен выканаць. Ну, цягнеце.

Смольская (*з непакоем*): Андрэй, які вы там жэрабі цягнеце?

Расамаха. Нічога. Глупства. Проста жарт. (*Стрэльская выцягнула*).

Расамаха. Прачытайце, што там напісана?

Стрэльская (*разгарнуўшы, прачытала*): Расамаха...

Сьвірановіч і Лютарэвіч (*разам*): Расамаха!..

Расамаха: Цсс... Хлопцы!..

Сьвірановіч (*адышоўшы ў кут*): Расамаха, я табе нешта хачу сказаць... (*ціха*): Ня йдзі на гэта. Цябе чакае сьмерць!..

Расамаха. Ну, глупства...

Сьвірановіч. Я табе кажу. Лепей хто-небудзь з нас: я ці Лютарэвіч. Бандыты ведаюць твой твар.

Расамаха. Адкуль яны ведаюць? Я тут чалавек новы. Ды й няма чаго цяпер пра гэта гаварыць. Позна. (*Адышоўшы*): Хлопцы, нам пара ехаць.

Стрэльская (*з непакоем*): Т. Расамаха, скажэце праўду: я вам няшчасьце выцягнула?

Расамаха. Што вы! Наадварот.

Смольская. Андрэй, ты нешта хаваеш.

Расамаха. Ат, глупства. Жартавалі. Абвешчана ўзнагарода: хто зловіць Чырвонца—ордэн Чырвонага сьцягу. Мы і цягнулі жэрабі—каму лавіць. Выпала на маю долю. Вось і ўсё.

Смольская (*недаверліва*): Праўда?

Расамаха. Што-ж табе яшчэ сказаць! Трэба ехаць. Хлопцы, гатовы? Ну, дзетка, бывай здарова. Шкода мне цябе кідаць адну, ды нічога ня зробіш.

Смольская. Андрэй, калі-ж ты яшчэ прыедзеш?

Расамаха. Ня ведаю. Можа гэтымі днямі. А вас, т. Стрэльская, буду прасіць—часьцей наведвайце маю жонку. А то ёй тут аднэй і нудна і страшна.

Стрэльская. Я буду тут кожны дзень. Ніна Аляксандраўна, можа вы баіцёся адна начаваць, дык я магу з вамі.

Смольская. Не, не. Сягоньня ня трэба. Ідзеце. У вас дома адна маці засталася.

Расамаха. Ты адна, Ніначка, не начуй. Замкні школу ды йдзі да людзей... у чыстую хату. Ну разьвітаемся. Апошні раз. (*Цалуецца з жонкай*).

Смольская. Чаму „апошні“?

Расамаха. Да не, што ты, вядома не апошні. Убачымся. Не бядуй. (*Усе разьвіталіся. Выйшлі. Смольская ідзе праводзіць гасьцей. Праз хвіліну варочаецца. Стаіць бледная ад хваляваньня, прыслухоўваецца, як аддаляюцца конскі тупат і людзкая гамонка. Бясшумна, як здань, выходзіць падарожнік, спыніўся супроць Смольскай, нячухома зіркліва глядзіць*).

Падарожнік. Ты выратавала мяне!

Смольская. Я рызыкавала сваім жыцьцём.

Падарожнік. Я не забуду... (*Задумлёна*). Гэта дзяўчынка Стрэльская... Прыгожая яна. Трэба з ёю пагаварыць.

Смольская. Скажы мне, хто ты? Што ты зрабіў такое, што прыходзіцца хавацца?

Падарожнік. Я—той, каго твае госьці шукаюць дзень і ноч! Я—Чырвонец!.... (*Смольская адхіснулася, гатовая страціць прытомнасьць*).

## Сход

Яшчэ за заслонай чуваць гучны гоман людзей. Гэта сход беднаты вёскі Чырвоны Бор. На сходзе—чалавек шэсьць заможнікаў, якія ў нязвычайным абурэньні лаюцца, пагражаюць кулакамі. Старшыня ня мае сілы супакоіць разьюшаных. Тутжа ёсьць жанчыны і малыя дзеці. У хаце ад курава дым дзяругаю.

Старшыня (*інвалід, былы чырвонаармеец*). Ціха! змоўкніце! (*Стукае кулакамі па стале*). Ціха! (*Крыкі, шум, гвалт! Нічога не разабраць. Кожны нешта крычыць, падбегшы да стала старшыні. Сход пагражае перайсьці ў бойку*).

Старшыня (*напружыўшы голас да апошняй ступені*): Ціха!.. К парадку!! Прасеце слова! Халера на вас!! Каму слова?! Слова! (*Зноў шум, гвалт заглушаюць словы старшыні*).

Крыкі... Мне слова!

... Дайце мне!

... Я прашу!... Я хачу сказаць!!

... Не, не! Дайце мне! (*Шум. Усе хочуць гаварыць, усе патрабуюць слова*).

Старшыня. Ціха! Слова Цімоху!!.. Гавары Цімох!... Усе маўчаць! Толькі Цімох!..

Цімох (*з нянавісьцю мерае з ног да галавы беднякоў, у ярасьці задыхаецца*). Вы... вы... вы... (*разьзявіўшы рот, ад злосьці забыўся, што думаў сказаць*).

Галасы (*сярод беднякоў*). Старшыня! Дай слова другому! У Цімоха язык ня ходзіць!..

Цімох (*як прарвала*). Гады вы!.. Сацылізацыю вёскі праводзіце!! За горла працоўнага чалавека душыце! А! Ліха вашай матары!... Галатва пачала панаваць?! Дапанаваліся да таго, што і солі няма!..

Старшыня. Цімох, няма табе слова! За контр-рэволюцыю! Каму слова? (*Дзікі роў галасоў*).

Цімох (*перамагаючы голасам*). Няма слова? Не! Ня маеш права! Буду гаварыць, пакуль не скажу ўсяго!... Што-ж вы? Паноў прагналі, зямлю ў іх адабралі, а цяпер і да нашай зямлі дабіраецеся? У мяне прызналі лішкі аж шашнаццаць дзесяцін! Жарты гэта? Што-ж гэта? Га? Адбіраюць у мяне апошняе! Кроў маю смокчуць!..

Старшыня. Брэшаш! не апошняе! У цябе яшчэ застаецца з дваццаць пяць!..

Цімох. Чаму гэта ўсюды Цімох вінаваты? Тры скуры з Цімоха дзяруць! Прадразьвёрстка—Цімох! гані 80 пудоў! Два дні галодны пад арыштам сядзеў! Разламалі замок, навалілі пяць падвод, як канём дзергануць! Ды наверх яшчэ дзьве сьвіньні ўсклаў. А цяпер у мяне зямлю адбіраюць, што мой бацька нажыў крывавым мазалём!..

Голас. Бацька, ды ня ты...

Цімох. А каму гэтай зямлёю горла запхняцё?!

Галасы. Мы дамо-ж безьзямельным!

... Малазямельным! беднаце!..

Цімох (*дражнячы*): Беднаце!... Я для яе стараўся!

Старшыня. Мы з тваёй зямлі прырэжам 3 дзесяціны малазямельнай Домне Карнейчыкавай.

Цімох. Домне?.. Справядліва!.. Яна чалавек бедны... Удава... Трэба ёй дапамагчы... Прызнаю!.. Ну толькі паспроб, Домна, выехаць араць маю зямлю!. Паспроб! Так калом сьвісну, што і не ачухаецца!..

Старшыня. Сэкратар! запішы ў пратакол аб пагрозах Цімоха.

Сэкратар. Ёсьць!.. „Брыдка лаяўся і пагражаў сьвіснуць калом“..

Цімох. Пішы, пішы! (*Да старшыні*). Пачакай, кульгавая зараза!.. Хто-небудзь і табе калом пачэша сьпіну!

Старшыня. Пагроз я тваіх не баюся... А што ты сьмяешся з
... [illegible] на грамадзянскай вайне, абара-

Галасы. Глядзі, каб ты галавой не налажыў за саветы.

Домна Карнейчык. Суседзі! Прашу я вас... Як Цімох паграждае мне асіраціць дзяцей маіх, дык няхай ён лепей удавіцца сваёю зямлёю!.. Я—удава, хто мяне абароніць?

Галасы. Ня бойся, Домна! Мы цябе абаронім! Ары сьмела!

... Няхай хоць пальцам кране.

... Жыва расстраляюць!

... Ці на 10 год у турму!

... Ня бойся, Домна! Ары сьмела!

Цімох. Няхай расстраляюць! Няхай зьняволяць! А сваіх ворагаў зжыву са сьвету!

Нупрэй. Прашу слова!!. Грамадзяне!.. Што гэта? Хто дае хлеб дзяржаве?! Мы! Хто корміць дзяржаву? Мы!..

Старшыня. У вас болей, дык вы і павінны карміць дзяржаву!..

Нупрэй. Эйш ты! Павінны! А што мне даюць за тое, што я кармлю дзяржаву? Фіндос пад нос! Ды яшчэ пагарджаюць—крычаць: кулак! гад! Дух з цябе вон!

Старшыня. Кулакі—эксплёататары беднаты!

Голас. Бедната працуе на багатыроў!

*Нупрэй. Дык ня йдзі да мяне працаваць! Калі ласка! Не прашу!..* Чаго ж ты кланяешся ды просіш: „Нупрэечка! Дай работкі! дай зямелькі". Пашкадуеш чалавека—дасі, крычаць. „Кулак ісплятуе беднату!".

Старшыня. Досыць спрэчак! Ціха!.. На такія меры, як прадразьвёрстка, улада павінна была пайсьці! Дзяржава перажывае вялікую бяду: з усіх бакоў ворагі нашцы буржуі душаць нас за горла! У гарадох рабочыя галадаюць. Трэба памагчы ім хлебам...

Галасы. Няхай бедната падтрымлівае!

Галасы з беднаты. Мы й памагаем сілай!

... А ў вас хлеб, дык і аддавай яго.

Мікіта. Грамадзяне! Што-ж гэта за ўлада! Калі гэта было на сьвеце? Гэта рабаўнікі! злодзеі! Зямлю адбіраюць, хлеб адбіраюць, жыць не даюць!.. 80 пудоў збожжа! засек поўны, як вока—чыста ўсё выграблі!..

Галасы. 80 узялі, а 100 засталося!

Нупрэй. Улада хоча разьдзець нас да гала!.. Чым мы лепшыя за вас? Рукі нашцыя не ў мазалёх?! На нагах у нас ня лапці?

Галасы. У кожнага з вас боты ёсьць!

... Шкадуеце насіць.

Нупрэй. Ня ўлада, а ліха нейкае! Сіцылізм! брацтва! і тут жа крычаць: „Бі кулака!.. Душы яго, сукінага сына!"..

Крыкі заможнікаў. ...Ня доўга вам панаваць!

...Пачакайце! Дабяруцца да вас, каму трэба!

Глыбаеды! Пагібелі на вас няма! (*Шум. Гармідар. З пенай у*

*сьмяюцца. Старшыня ахрып, супакойваючы. Яго голас ледзь чуваць сярод крыку і гаму. У гэты момант з кута аддзялілася постаць нейкага невядомага чалавека ў зрэбнай чырвона-армейскай шынелі, у будзёнаўцы. Ніхто не заўважыў, калі ён зайшоў у хату і нікім ня прымечаны стаў у кут).*

Невядомы. (*Нямоцным, але ясным і нязвычайным голасам):* Прашу слова! (*Усе ўздрогнулі і азірнуліся. Невядомы быў высокага росту*).

Старшыня. Хто ты?.. Адкуль ты? Гавары...

Невядомы (*шырока ўзмахнуўшы правай рукой, грамовым голасам*): Ні з места ўсе, хто тут ёсьць!! Я—Мікандар Чырвонец!!.. Дзьверы зачынены!.. (*Усе прыціхлі, як акамянелі.*) Ня пужайцеся! Ня з ліхам прышоў да вас! Сялянам я ліха не раблю!.. Я прышоў памагчы вам! Я прышоў панірыць вас! Слухай мяне, бедната! Вы падтрымліваеце савецкую ўладу! За што?! Што яна вам абяцае?.. Зямлю? Зямлю вам дадуць, а хлеб адбяруць! Багатымі вас ня зробіць савецкая ўлада! Ёй гэта ня выгадна, бо тагды вы ня будзеце яе падтрымліваць!

Знаю я: кожны з вас хоча зрабіцца багатым! скінуць лапці і абуць боты! Сяляне! Я зраблю вас багатымі! З жабрацтва я выцягну вас! Ідзеце за мною—і я аддам вам на разгром (*шырокі ўзмах рукі*) усе коопэратывы, усе крамы савецкія і ўсялякія. Ідзеце за мною, і я павяду вас на гарады, што адвеку смокчуць кроў мужыка, дзе гнезьдзяцца прадаўцы рэволюцыі-бальшавікі!

Я аддам вам усе багацьці, вякамі награбленыя з мужыкоў! Ідзеце за мною—і мы лапцем расьціснем бальшавікоў, іх крывёю зальлем вуліцы гарадоў! (*панізіўшы голас:*) Сяляне!.. Мы рыхтуем вялікі пагром Крычава, Чэрыкава, Рагачова! Далучайцеся да нас!.. Шмат вёсак да нас далучыліся—заможнікі і серадлякі!.. Чарга за беднякамі!..

Слухайце: будзе сыгнал—як толькі цёмнаю ноччу над вёскай разарвецца ракета і асьвеціць усё, будзьце гатовы! Рыхтуйцеся! Запрагайце коні, з падводамі пад'яжджайце да Крычава! Там мы будзем чакаць вас... Адным махам захопім горад з усіх бакоў, хлынем на вуліцы і расправімся з бальшавікамі, з цёмнай ірадавай сілай, што засела ў камісарскія крэслы!.. Разаб'ем выканкомы к чортавай матары! Міліцыю! Коопэратывы і крамы!..

Слухайце! (*зноў патаемна панізіўшы голас*): ня ведаеце, што на складах у Крычаве 5.000 пудоў солі? Што камісары пудамі заграбаюць, а сялянства пакутуе бяз солі... Гібель мануфактуры, тавару, абутку, скуры! І ўсё гэта не для вас!.. А мы сілаю возьмем сабе тое, што належыць нам!

Голас (*невядома хто)*: Брэшаш, гад, правакацель! (*Напружаная пауза. На твары Чырвонца застыла рашучасьць. Раптам загаварыў, закрычаў у вялікім абурэньні)*:

Чырвонец. Што гэта?!.. Хто сказаў, што я ілгу?!.. Хто?!.. Выведзіце яго сюды, пастаўце яго насупроць мяне! Хай ён мне ў вочы

скажа, што я ілгу!.. Ага маўчыш! Спалохаўся... Чырвонец ніколі ня маніць! Чырвонец заклікае вас на славу і помсту здраднікам рэволюцыі!

Голас. На згубу заклікаеш нас!

Чырвонец. Не! не на згубу! Вось мой кліч: Сяляне ўсіх краёў, злучайцеся супроць бальшавікоў! Я кажу: прыдзеце ка мне ўсе нездаволеныя і пакрыўджаныя і—я арганізую вас!.. Сяляне! Тое, што абяцае Чырвонец,—не мана!.. У вас няма солі—бандыты вам дадуць солі! Мануфактуры няма—у нас ёсьць! У вас грошай няма—мы дамо вам грошы!.. Вось яны савецкія грошы! *(Выняў з торбы новенькую пачку крэдытак, стукнуўшы аб далонь, узламаў, як калоду карт, разагнуў веерам, кінуў у натоўп)* Бедната! атрымай задатак Чырвонца!!.. *(Усе ўзварухнуліся. Некаторыя кінуліся падымаць грошы. Раптам пачуўся голас, які нібы прымусіў усіх прачнуцца).*

Старшыня. Грамадзяне! Ня руш! Не хапай зладзейскія грошы!!.. *(Як электрычны выбух пранёсся ў натоўпе. Усе ўскалыхнуліся. З ярасьнымі крыкамі падступілі да Чырвонца)*

Галасы Чырвонец злодзей!

... Бандыт!

... Польскі шпіён!

... Правакатар!..

... Чырвонец хоча падкупіць беднату!!

... Арыштаваць яго!

... Хапай яго! Бі яго!

На месцы яго ўкакошыць!! *(Раптам рынуліся на Чырвонца. Некалькі дзесяткаў рук схапілі яго, грукнулі аб зямлю. Пасыпаліся ўдары. Заможнікі кінуліся бараніць яго).*

Галасы: Не чапай Чырвонца!..

... Пусьці яго!..

... Ён праўду сказаў!..

... За праўду яго б'яце!..

Чырвонец *(раптам выдраўшыся, адным махам ускочыў на стол і, узмахнуўшы над галавою дзьвюма бомбамі, зароў:)* Рукі ў гару, д'ябалы!!!. Рукі ў гару, або зараз ад усіх мокра будзе!!. Разам з хатай падскокнеце аж да самага неба!!. *(Усе паднялі рукі. Чырвонец з паднятымі бомбамі праходзіць сярод акамянелых радоў. Цішыня).*

Чырвонец *(спыніўшыся ля дзьвярэй, страшным шэптам)*: Сволач!.. Гады!.. Ось так вы ўсе павінны галасаваць за Чырвонца!!. *(Вышаў. З хвіліну яшчэ стаіць цішыня. Раптам схамянуліся, загаварылі разам, падняўся шум).*

Галасы: Уцёк!.. Гнацца за ім!..

... Злавіць яго трэба!..

... Злаві ветра ў полі!..

... Як так мы Чырвонца выпусьцілі?

... Ён быў у нашых руках!

... Гэта вы яго абаранялі!

... Каб ня вы, ён бы ня выдраўся!
... У пратакол запісаць, што багатыры баранілі Чырвонца!
... Грамадзяне! Мы тут ні пры чым!..
Ён сам выдраўся! Мы дужа спужаліся!

Старшыня. Грамадзяне!.. Чырвонец хацеў падбіць нас ісьці проціў бальшавікоў, ды толькі ня выгарала ў яго!... Таварышы! Нам трэба папярэдзіць Чэрыкаў, каб там хутчэй рыхтаваліся даць адпор Чырвонцу... Каго паслаць?

Галасы. Міхея паслаць!.. Міхея!

Старшыня. Міхей, братка, бяры майго каня, ды зараз жа едзь у Чэрыкаў...

Міхей. Уночы? Але чаму Міхей? Чаму ня Саўка?

Старшыня. Не адгаварвайся, калі цябе абрала грамада.. Ляпей цябе паслаць, як Саўку... Ён сямейны, а ты бабыль... Калі, крый божа, заб'юць цябе ў дарозе, дык і бяды нікому ня будзе...

Міхей. Правільна... Ну што ж, нічога ня зробіш... Паеду... Куды там зайсьці?..

Старшыня. У чаку... Раскажы ўсё...

Міхей. Добра... Пайду калі так па твайго каня... (*Выходзіць*).

Старшыня (*усьлед*). Жонцы скажы, што я дазволіў... Ды калі хочаш, вазьмі і драбіны, толькі падмаж калёсы...

Голас (*за вакном*). Старшыня сельсавету тут?

Галасы. Тут!.. Хто там? (*Уваходзіць чырвонаармеец*).

Чырвонаармеец. Добры вечар... Хто старшыня? Вось абвестка... Прачытай усім...

Старшыня (*чытае*): Абвестка. Усім сельсаветам. Валасной сельскай міліцыі і сьвядомым грамадзянам—даводзіцца да ведама:

У ноч з 26 на 27 верасьня г. г. уцёк ад расстрэлу, забіўшы вартаўніка, чырвонаармеец-дэзэртыр Сымон Аўдзееў Шабека 25 год. Савецкая ўлада і камуністычная партыя заклікаюць усіх сумленных грамадзян затрымаць злачынцу, ворага рабочых і сялян!.. Прыметы. Высокі, худы, 25 год, бялявы, кучаравыя валасы, сінія вочы, на шыі шрам. Затрымаўшаму—узнагарода 1000 руб. Старшыня рэўкому (*подпіс*). Начальнік атраду змаганьня з бандытызмам Расамаха.

Старшыня. Грамадзяне! Хто бачыў такога, як тут апісана?

Галасы. Ніхто ня бачыў...

Менск. Студзень 1929 г.

**Уладзімер Хадыка**

# Прошвы

Села ты да лямпы блізка,
На падушкі прошвы вяжаш.
Галаву схіліла нізка
І нічога мне ня кажаш.

Дужкай жоўценькаю грэбень
Ашчарэпіў зграбна косы...
Разьбівае месяц ў небе
Хмарак чорныя пракосы.

Зоры з граблямі павышлі
І складаюць сена ў копы.
Ў вышыні лагоднай цішы
Аж да досьвіткаў ім хопіць.

Хутка, кінутыя з бору,
Пераломяцца праменьні.
Па зямному калідору
Пойдуць з грукатам каменьні.

Пазьбяруцца з сьвету госьці,
Закладуць ў кішэні рукі,
Як якія ягамосьці,
За сталы пасядуць крукам.

Збрэшуць, іх што абакралі
Ў землях ўласных і забраных...
Будуць важна генэралы
Езьдзіць пальцамі па плянах.

*Муштраванай зграі многа,*
Дарыхтована і зброя...
Толькі тупнуць, тупнуць строга
Гаспадарскаю нагою!..

— Ўсехалопскае паўстаньне
Неабходна збыць патопам...
І ніхто з магіл ня ўстане,
Каб адпомставацца потым.

На разбойніцкай парадзе
Людзі бразгаюць жалезам.
Не з таго ці гэтак ў садзе
Расьцвіло багата бэзу?

Не з таго ці ветрам з яблынь
Захлынуцца проста можна?
Абступілі бога дзьяблы
І паклоны б'юць набожна...

Пасплывалі злобай злыдні
І маліцьвенаю пенай.
Жыць на дачы вечнай збрыдла
Бяз ніякай перамены.

Адвялі—не папрасілі...
Па дарозе па шырокай...
Панам быў ён у Расіі,
А ў Бэрліне толькі лёкай...

Ные сэрца—сьмерць ды годзе,
Хоць грызі з адчаю камень.
Ў „недзялімую“ ўваходзіць
Забаронена штыкамі.

Там дзяржава ўжо ня тая,
І ня тыя ўжо салдаты...
...Паглядзімо, дарагая,
На мужыцкія мы хаты.

Паглядзім на гоні жыта—
Гэта край наш... наша рута...
Многа родным пераржыта,
Многа выпіта атруты.

Любка!.. Плённыя разоры,
Што ідуць з блакітам парма,—
Ён нікому не падорыць,
Не аддасьць нікому дарма.

Адыходзіць год за годам.
Праз балота шлях мы мосьцім...
Паліць радасьць наша зброду
Рук наточаныя восьці.

Нашу працу, што ня міла,
Нашы песьні, што ня любы—
Праклінаюць дзікім сквілам,
Аб каменьні ломяць зубы.

Клічуць гады хэўру злую—
Па зямлі кладзецца рэха...
Мы даўно іх роспач чуем,
Адбываем дружным сьмехам.

Ўжо даўно у нас да вою
Прызвычаіліся вушы...
...Вецер волкаю рукою
Пачародна зоркі тушыць.

Надыходзіць ранак звонкі.
Заклапочана у хлеве,
Як бяроза у далонкі,
Лапатаць узяўся певень.

Як дзяўчына (ў белай хусьце)
Пярыць пранікам палотны...
Воўк падойдзе—мызу спусьціць
Ї назад ідзе самотны.

Хоць і мелася-б здабыча,
Ды з сялом благія жарты...
Стаў – і сход зьвярыны кліча,
Цешыць воўчую упартасьць

Дрэмлеш ты... На думках змрокі
Паплылі у круг нясьмела...
Чырвань лёгкі лёг на шчокі,
Уцякае з рук шыдэлак.

На падлогу выпаў грэбень,
Ї раськідаліся косы.
Разьбівае месяц ў небе
Хмар ружовыя пракосы.

**Крапіва**

# Кувада

Карова целіцца, а ў быка зад баліць
Народная прыказка

Паміж балот Мазырскага палесься,
Дзе 'шчэ лясун валочыцца па лесе,
Дзе вадзянік пільнуе шыр балот,
Куды культура 'шчэ не даплыла й на чоўне,
Дзе па даўнейшаму жыве яшчэ народ,
Дзе звычаяў паганскіх схоўня
І дзе праз доўгія гады
Патрыярхальныя сівенькія дзяды
Ня ведалі пра зьмену ўлады,
Там знойдзен выпадак кувады.
Расказваюць пра гэта краязнаўцы,
Што там, калі раджаць жанчыне давядзецца,
Дык чалавек яе кладзецца
Таксама з ей на лаўцы.
Ён хоча працу падзяліць,
Ён хоча аблягчыць пакуты,
Дык і жывот яго баліць,
І схваткі штомінуты.
Свой абавязак маткі ціха
Выконвае жанчына-парадзіха,
Хоць і цярпіць вялізазныя мукі.
А ён, няшчасны, ломіць рукі,
І збоку гледзячы—сапраўды дзядзьку крута.
То скурчыцца, то выцягнецца прутам,
Аж пачынае лбом аб сьцену біцца,
Крычыць:—„Бабулечка,—жывот! Зязюлька,—паясьніца!!"
Аж з твару зьменіцца і з голасу спадзе,
Пакуль малое жонка прывядзе.

---

Вось так жа памагаюць часам
Куваднікі працоўным масам.
А я-б сказаў: „Ня можаш памагчы,
Дык лепей памаўчы".

## Рахітык

На паплаўцы
Каля дарогі
Гулялі часта два хлапцы:
Алесь і Грышка клышаногі.

Вясёлы, жвавы ды румяны
Алесь
Здароўем дыша ўвесь,
Імпэтам нястрыманым,—
Вось чырвань, здэцца, капне з шчок.

А Грышка, хоць старэйшы трошкі,
Але крывыя мае ножкі
Ды галаву з гаршчок:
Ня ведаю, праз нечыя грахі там
Хлапец хварэў, відаць, рахітам.

Але-ж удвох яны заўсёды
Жылі-гулялі не бяз згоды,
Пакуль была гульня адна:
Рыгор за жарабца, Алесь за хурмана.

А раз нек вышла між хлапцамі,
Што захацелі быць абадва жарабцамі:
І шыя ў кожнага дугой,
І землю кожны б'е нагой,
І вочы скошаны пад лоб,—
Пусьціліся ўгалоп.
Алесь імчыцца, як на крыльлі,
Зямлі нагамі не даткнецца,
А Грышка хліпае ў бясьсільлі
Ды з кожным крокам астаецца,—
Хоць ты лажыся памірай.
Нарэшце, злосьць—аж цераз край,
Што сябар бегае хутчэй.
Вось камень ён схапіў з-пад ног,
Прыпаў каленам на траву
І з сілаю, наколькі мог,
Пусьціў Алесю ў галаву,—
Аж іскры выкрасіў з вачэй:
Бягун прысеў дый застагнаў...

. . . . . . . . . . . . . .

Алеся Грышка абагнаў.

# Сьвядомасьць

Я знаў Апанаса марксыста.
Пад свой сьветапогляд адразу
Падвёў ён марксыцкую базу
Ї заўжды казаў урачыста,
Сустрэўшы мяне, той ягомасьць:
— Быцьцё вызначае сьвядомасьць.

Калі-ж, як прыяцель, сам-на-сам
Вы любіце быць з Апанасам,
На градусах, зноў-жа пісьменны,
Дык зараз у формуле зьмены:
— Што-ж, вып'ем за нашу знаёмасьць,—
Піцьцё вызначае сьвядомасьць.

А стрэнецца з думкаю з новай,
Што 'шчэ не прайшла цыркулярам,
Дык скажа з нахмураным тварам
Да аўтара іншаю мовай:
— Па храпе дастанеш, ягомасьць,—
Біцьцё вызначае сьвядомасьць.

Язэп Пушча

# За стыль эпохі

Наша крытыка, нават у асобах яе лепшых прадстаўнікоў, бадай нічога не гаворыць пра творчыя шляхі нашай поэзіі; пытаньні гэткага парадку яе мала абыходзяць, яна імі амаль што ня цікавіцца. Яна часта бывае і словаахвотлівая, толькі ў радзе не літаратурным.

Для некаторых крытыкаў бывае нават цяжка адшукаць характэрнае, скажам, узвышаўскай поэзіі, літаратурнай пісаніны некаторых пісьменьнікаў; яны яшчэ не дайшлі да таго разуменьня, што ў нашай поэзіі ёсьць тварцы і пісакі з прыгожым почаркам.

Ёсьць такія, якія ўсе творчыя здольнасьці сваёй індывідуальнасьці аддаюць на разьвіцьцё поэзіі, шукаюць новых творчых шляхоў, новых мастацкіх магчымасьцяй, заклапочаны стварэньнем стылю эпохі, а ёсьць такія, якія непоэтычную трухляціну хочуць узьвесьці чуць не ў рэволюцыйны канон.

Ёсьць такія, якія ўспрыймаюць жыцьцё ў яго напорным уздыме перад будучынай і імкнуцца адчуць яго ўнугранную пульсацыю, а ёсьць такія, якія сваім пяцёхграшовым оптымізмам паказваюць яго грымасы, займаюцца поэтычнай провокацыяй.

Вось гэта ды й шмат іншых мотываў мяне прымушае выказацца пра творчыя шляхі, якімі павінна накіравацца разьвіцьцё сучаснай беларускай поэзіі і мастацтва.

---

√Поэзія ня ёсьць ізоляваны організм ад іншых галін мастацтва, не зьяўляецца нечым адасобленым ад агульнага стану культуры ў краіне, ад бытавога, соцыяльнага ўкладу грамады, а тым больш ад дзяржаўна-палітычнага і грамадзкага жыцьця ў шырокім разуменьні слова. Усе гэтыя нормы знаходзяцца ва ўзаемадзеяньні, уплываюць адна на другую і твораць стыль эпохі, у якім б'ецца пульс сучаснага і ўласьцівага толькі гэтай эпосе творчага генія.

√Калі краіна ня мае ўласных форм свае дзяржаўнасьці, усё-ж цяжка ўявіць, што мастацтва ў такой краіне дасягае вялікага росквіту. Успамінаецца мне тут платонаўская думка:—птушка і чалавек не сьпяваюць, калі яны галодныя, заклапочаныя і засмучаныя.—Праўда, гэтай думкі я не падзяляю, але ўсё-ж ня маю ў некаторай частцы падставы і на яе поўнае адмаўленьне.

Выходзячы з гэтых меркаваньняў, мне здаецца, мы занадта пераацэньваем нашаніўскую пару ў нашай поэзіі. Былі ўжо вельмі-ж атрутлівыя сокі, якімі яна змушана была карміцца. Мне здаецца, дарэмна яе ўзводзіць у нейкі культ, канон, і кожны радок паасобных нашаніўцаў

лічыць нечым надзвычайным і вялікім, бо гэта нішто іншае як самападман, якога шмат хто ня можа сабе ўсьвядоміць, гэта нішто іншае, як недаацэнка сучаснасьці. Я не хачу, каб за гэтымі маімі словамі ўбачылі адмаўленьне мастацкай вартасьці літаратурнай спадчыны нашаніўства. Для свайго часу гэта зьява была прогрэсыўнай у вадраджэньні нашае поэзіі, годная ўвагі і пашаны, але-ж для нашага часу яна сталася тым, ад чаго мы павінны адыходзіць на шляху стварэньня новых мастацкіх каштоўнасьцяй.

Цяпер у нас ёсьць свая дзяржаўнасьць, сваё політычна-грамадзкае жыцьцё: у нас ёсьць усё тое, што ўваходзіць у паняцьце—Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка. Праўда, у межах гэтай рэспублікі ня ўся краіна, добрая яе палавіна перажывае нявольніцкую пару—гэта Заходняя Беларусь. Такая політычная сытуацыя, бязумоўна, уплывае на нашу поэзію. Мне здаецца, што гэта будзе аднэй з галоўных прычын таго, што яна носіць пячатку раздвойнасьці. Некаторая частка нашых поэтаў, пісьменьнікаў ня ў сіле адчуць гэтае трагічнасьці лёсу, таму іхняя творчасьць надзвычай фальшывая. Яны ня ў сіле даць вобраз сучаснасьці, ня ўмеюць паказаць двух абліччаў гэтага вобразу. Установка іхняе творчасьці груба плякатная, бо яны ўнутрана не разьбіраюцца з тым, што дзеецца; ня ўмеюць зьліць двух Беларусяй у вобраз контрасту. Яны любяць заўсёды наклеіць ярлык на свой твор, да якой ён Беларусі належыць, і гэта ўжо адно яго расхаладжвае, атрымліваецца нейкая надзвычай тэндэнцыйная ўстаноўка, і такі твор найчасьцей становіцца за мяжой таго, што можна аднесьці да мастацкай літаратуры. Куды большае ўражаньне за такі твор, прысьвечаны Заходняй Беларусі, на чытача робяць фактычныя матар'ялы, якія сабраны ў жахлівай кнізе пад назвай „Інтэрпэляцыі".

Другая ж частка нашых поэтаў, пісьменьнікаў абыходзіцца бяз гэтых ярлыкоў, ад чаго іхняя творчасьць шмат выігрывае ў сэнсе мастацкім, затое часта не разумее яе наша публіцыстычная крытыка,—але ў гэтым ня поэтаў, а крытыкаў вялікая памылка. Сучасны беларускі поэт органічна ня ў сіле адмовіцца ад таго, што дзеецца ў Заходняй Беларусі, яно ўсмакталася ў яго нутро, ён, сьвядома ці бесьсьвядома, а знаходзіцца пад уплывам гэтага. Заходняя Беларусь перажывае змрочную пару свайго політычнага жыцьця, яна жыве напярэдадні вялікай клясавай і нацыянальнай катастрофы, і гэта ня можа ня ўплываць на нашу поэзію і ахварбоўваць яе ў пэўныя адценьні настрояў, даваць ёй пэўную эмоцыянальную зарадку. Мы павінны ўспрыняць і ў сваёй мастацкай творчасьці выявіць у вобразе контрасту ўвесь трагізм Заходняй Беларусі і вялікі творчы ўздым Савецкай Беларусі.

Зараз спынім некаторую агульную ўвагу на іншыя нашы мастацтвы—архітэктуру, скульптуру, малярства і музыку. Мы вельмі мала яшчэ пра іх знаходзім у нашых часопісах друкаванага матар'ялу. Справа ня ў тым, што часопісі ня друкуюць такіх матар'ялаў, якраз

наадварот, а ў тым, што гэтыя мастацтвы пра сябе мала што могуць сказаць. У нас яшчэ няма такога рэчышча, у якое-б уплывалі ўсе мастацтвы і, зьліваючыся, рабілі адно на другое ўплыў і выпрацоўвалі-б адзіны стыль, сугучны эпосе.

Возьмем архітэктуру; яна ў нас у сэнсе стылю павінна-б была больш выявіцца за другія мастацтвы, у сувязі з шырокім размахам нашага будаўніцтва. Калі мы кінем вокам на новыя менскія будынкі, дык па іхняй архітэктуры, як ні кажэце, але адразу цяжкавата распазнаць пад што гэты будынак пабудаваны—пад кватэры, пад гандлёвую ўстанову ці пад які клюб? Усе яны для вока вельмі аднастайныя —у стылі казарменнай прастаты. Возьмем менскі дом пад кватэры на Ленінскай вуліцы поплеч з 2-м домам саветаў. Дом на тры паверхі з маленькімі вокнамі езуіцкіх часоў і з маленькімі пакоямі, якія так і вабяць да сямейнага супакою, утульнасьці, у якіх чалавека цягне аддавацца сваім абывательскім асалодам і марам, якія адгараджваюць яго ад грамадзкасьці і выпрацоўваюць у ім да яе падазронасьць, у якіх будзе сабе спакойна жыць быт дзядоў і бацькоў, авеены нэомяшчанствам. Гэта будынкі ня ў стылі нашай грандыёзнай эпохі, а ўсяго ў гусьце старамоднага архітэктарчыка, якому савецкая дзяржава сумленна дазволіла працу, а ён гэту дзяржаву таксама сумленна ашуквае. А што ж мы можам сказаць пра нашы драўляныя хаты, якія абляпілі Менск з вонку, з асяродку і якія выпрацоўваюць у новага абываталя самае нізкае і заскарузлае пачуцьцё „рэволюцыйнай“ уласнасьці.

Скульптура, малярства і музыка таксама нічым ня могуць пахваліцца; жывуць сабе ўцехамі провінцыяльнага гораду. Далёка за довадамі хадзіць ня трэба, даволі было зайсьці на 3-цюю Усебеларукую мастацкую выстаўку, каб у гэтым пераканацца. На ёй у сваёй пераважнай большасьці былі сабраны докумэнты мастацкай няпісьменнасьці, перад якімі можна было толькі сьцепвацца, але не захапляцца. З дзесятку ці нават больш мастакоў, якіх творы былі на выстаўцы. бадай ніводнай выдатнай творчай індывідуальнасьці. Тэмы часамі і цікавыя, глыбока соцыяльныя, рэволюцыйныя, але аформленьне іхняе вельмі-ж ужо нізкай кваліфікацыі. Вось як іншыя мастацтвы спрыяюць і імпонуюць росквіту нашай поэзіі.

Калі-ж гэтак, дык у поэзіі павінен забіцца пульс новай творчасьці са ўсёй уласьцівай яму рэволюцыйнасьцю, які павінны адчуць і ўспрыняць іншыя нашы мастацтвы. Поэзія павінна быць на чале стварэньня стылю эпохі, да якога мы ўсе сягоньня так горача і аддана павінны імкнуцца.

Усё-ж бліжэй падыйдзема да поэзіі, і тэзы, вызначаныя для яе, няхай зьявяцца маніфэстам і для іншых беларускіх мастацтваў.

У нас зараз ня можа быць пэсымістычнага настрою (можа лепш погляду) на магчымасьць стварэньня вялікіх мастацкіх каштоўнасьцяй, у галіне поэзіі й мастацтва, бо ў нас (хоць праўда ўсяго ў палове

краіны) на чале гісторыі стаіць прогрэсыўная кляса—пролетарыят, а разам з ім і сялянства, а таксама мы і нацыянальна знаходзімся на шляху адраджэньня. У нас яшчэ няма ўтомы ад культуры і мастацтва, мы напярэдадні стварэньня вялікіх помнікаў у гэтых галінах. У нас ня можа быць Шпэнглераўскага погляду на мастацтва, падставай для зьяўленьня якога было ня толькі тое, што ён буржуазны вучоны, але, мабыць, у большай ступені тое, што ён якраз вучоны Нямеччыны, якая ў імпэрыялістычнай вайне загубіла сваю славу магутнай эўропейскай дзяржавы і падпала пад поўную палітычную і экономічную залежнасьць іншых дзяржаў, а ў першы чарод Францыі. Бязумоўна, такому стану рэчаў адпавядае і кірунак нямецкай літаратуры—экспрэсыянізм, які ўвабраў у сябе ўсё расчараваньне свае краіны сучаснасьцю, адсюль яго ўлюбёнасьць усё ўспрыймаць праз патолёгічнае люстра, адсюль і захапленьне літаратурай сярэдніх вякоў. Для Шпэнглера былі падставы для зьяўленьня такіх думак як:

„Што мы маем пад назвай мастацтва? Надуманую музыку, поўную штучных шумаў шматлікіх інструмэнтаў; надуманае малярства, поўнае ідэёцкіх, экзотычных і плякатных эфэктаў, надуманую архітэктуру, якая на аснове скарбніцы мастацкіх форм мінулых стагодзьдзяў кладзе пачатак кожныя дзесяць год новаму стылю, пры гэтым кожны робіць, што яму зажадаецца, надуманай плястыкай, якая абкрадае Асырыю, Эгіпэт, Мэксыку“[1]).

З гэтае цытаты мы пакуль што захаваем у памяці два словы—„надуманае“ і „абкрадае“ і не таму, што мы згаджаемся з Шпэнглерам у пытаньні ягонай ацэнкі сучаснага эўропейскага мастацтва, а таму, што мы і ў сябе павінны протэставаць супроць такой антымастацкай тэндэнцыі (надуманае і абкрадае), якая, трэба прызнацца, у беларускай поэзіі, а асабліва ў мастацтве, усё-ж, на правялікі жаль, ёсьць.

Што-ж мы павінны супроцьпаставіць гэтым катэгорыям у дужках?

На першым месцы ў поэта, пісьменьніка, мастака, композытара павінны быць творча-мастацкія актыўнасьці, ён не павінен іх заглушаць халоднымі развагамі розуму, якія адзін крок, і прывядуць да надуманасьці. Няхай творы лепш будуць авеяны наіўным дзіцячым характарам, як развагальнымі патугамі. Няхай творчасьць вырываецца з гарачага нутра, а не з цяжкай галавы, бо-ж самай найвялікшай каштоўнасьцю ў мастацкім творы ёсьць яго эмоцыянальнасьць і, калі хочаце, яго лірычная сіла і напружанасьць; толькі гэтакі твор можа набыць і вялікую грамадзкую вартасьць. І так мы сягоньня павінны быць супроць надуманай і халоднай творчасьці.

Падыходзячы бліжэй да ўсьведамленьня слова „абкрадаць“, мы павінны яго супаставіць з выкарыстоўваньнем культурнай спадчыны.

---

[1]) [illegible]

Для сучаснага беларускага поэта, пісьменьніка свая літаратурная спадчына ня вельмі налягае на плечы, затое ён вельмі адчувае спадчыну іншых народаў і культур, пачынаючы з грэкаў, праходзячы цераз Рым, заходзячы ў Заходнюю Эўропу і канчаючы суседзямі У гэтым, бязумоўна, многа дадатнага, але-ж разам з гэтым, хоць не абавязкова, але можа быць і адмоўнае. Дадатнае ў тым, што такая багатая спадчына блізкіх і далёкіх продкаў поэта, пісьменьніка культурна разьвівае, узбагачае, паказвае, на якую высокую ступень узьнімаўся творчы гені чалавека, а адмоўнае можа быць у тым, што гэтае культурнае мінулае можна пачаць занадта ідэялізаваць, упасьці ў творчым бясьсільлі перад ім і пачаць яго абкрадаць, або, далікатней кажучы, паўтараць, насьлядаваць,—гэта значыць адмовіцца ад творчасьці, забросьнець, а трэба памятаць, што насьлядуе другіх заўсёды індывідуальнасьць больш слабая, значыць, далей свайго патрона ён пайсьці ня зможа, будзе заўсёды ззаду яго. Культурную мінуўшчыну трэба вывучаць дзеля таго, каб яе асіміць і пайсьці да стварэньня новых каштоўнасьцяй, у якіх павінна выявіцца ўся творчая орыгінальнасьць.

Асабліва шкодна ў поэзіі завучыць пэўны каталёг мастацкіх спосабаў апрацоўкі матар'ялу з мінулага ці нават з сучаснага, і ім карыстацца, бо і ў гэтым таксама павінна выявіцца творчасьць. Усе-ж імпульс да творчасьці павінен быць ня ў гэтым, а ў шчырым і глыбокім узрушаньні ўсяе натуры мастака, тады толькі могуць зьявіцца і новыя формы, спосабы, бо й яны-ж таксама заўсёды жывуць і знаходзяцца ў творчай потэнцыі, і ад шчасьлівай пары іхняга зьяўленьня на сьвет, іхняга нараджэньня сапраўдны поэта ніколі не адмовіцца і хоць кожны ўсё-ж павінен памятаць, што ў аснове творчасьці павінен быць эмоцыянальны вобраз.

Вось гэтым мы натыкнуліся на разгадку, што такое творчасьць. Творчасьць—гэта адмаўленьне і разам з тым зьяўленьне новых форм жыцьця. Такім чынам, рэволюцыя, якая так бязьлітасна руйнуе—адмаўляе старое, ёсьць разам з тым і найвялікшая творчасьць, бо з ёю зьяўляюцца і новыя формы грамадзкага жыцьця. У гэтым няма нічога боскага, але разам з тым няма нічога дакладна ўсімі і кожным абмазгаванага. Вось чаму творчасьць павінна быць эмоцыянальнай і разам з тым мужнай. Мы, бясспрэчна, павінны адмовіцца ад крылатага духа натхненьня, але павінны памятаць, што поэта творыць толькі ў тыя хвіліны, у якія ён ня можа каб не тварыць, калі з яго нутра вырываюцца ў словах перажытыя і вынашаныя эмоцыі; гэта ніколі не пярэчыць прадметнасьці і грамадзкасьці поэзіі. Штучна-творчы настрой выклікаць цяжка. Пры творчасьці важную ролю грае ня толькі сьвядомае, але і падсьвядомае. У поэта, пісьменьніка павінна быць багатая інтуіцыя, творчае ўяўленьне. Прыведзеныя палажэньні зусім не пярэчаць дыфэрэнцыяцыі поэзіі на жанры.

Калі эмоцыі цераз слова зьяўляюцца на сьвет у чысьцейшым сваім відзе і калі яны ахапляюць сабою адно, два ўражаньні, адчуваньні поэта інтымнага ці шырока грамадзкага парадку, дык мы не памылімся, калі скажам, што гэта—лірыка.

Калі-ж эмоцыі ахапляюць сабою не паасобныя ўражаньні, адчуваньні поэты, а калі з гэтых уражаньняў, адчуваньняў творацца сынтэтычныя вобразы ў іхнім узаемадзеяньні, дык мы не памылімся, калі такі твор назавем—поэма, аповесьць.

Калі-ж гэтыя вобразы становяцца ў супярэчаньні, выклікаюць змаганьне, у якім некаторыя з іх гінуць, і якія даюць нараджэньне новых вобразаў, ідэй, імкненьняў, дык мы ізноў-жа не памылімся, калі назавем такі твор—драма, роман.

З гэтага ўжо адразу відаць, якое мы павінны зрабіць абнаўленьне прозаічным жанрам—аповесьці, роману; яны павінны адмовіцца ад апавядальнага, супакойнага, эпічнага тону, яны павінны наблізіцца да поэмы, драмы, набыць больш рухавасьці, дзеяньня, жыцьця, псыхолёгічнай дынамічнасьці, г. зн. больш адчуць пульс эпохі; вось чаму павінна адпасьці пагоня за аркушамі, за тоўстымі кнігамі для іхняй таўшчыні, а павінен пісьменьнік замяніць гэта тым, што робіць творы вялікімі помнікамі мастацтва эпохі.

Творы павінны быць напружнымі, і іх не павінны моўчкі абыходзіць. Творы павінны выклікаць у чытача, крытыка, дасьледчыка новыя імкненьні і дзеяньні. Яны павінны быць шматграннымі, як і само жыцьцё, эпоха, і тады толькі здолеюць і нашы патомкі ў іх адчуць і расчытаць нешта роднае і блізкае да сябе, яны здолеюць паварочвацца да новых пакаленьняў заўсёды сваім новым жыцьцём.

Поэт, мастак, бязумоўна, ня можа выскачыць з сучаснасьці, толькі ён у гэтай сучаснасьці павінен умець знайсьці той шлях, які вядзе не назад, а наперад гісторыі. У ім не павінны жыць рэакцыйныя імкненьні, ён павінен быць у сваёй натуры бязбожным, анархістычным, толькі прашу не разумець гэтых катэгорый у сэнсе палітычным. Ён не павінен займацца казытаньнем адміраючага, але разам з сучаснасьцю сустракаць прыход заўтрашняга дню. Ён павінен прыслухоўвацца да ацэнкі ягоных твораў сапраўды пісьменнай не спэкуляцыйнай, а высока кваліфікаванай крытыкі, але таксама павінен памятаць, што крытыка найчасьцей больш рэакцыйная ад творчасьці поэты, гэта ўжо асаблівасьць яе характару.

Вось перад намі шлях для сучаснай нашай поэзіі, а разам з тым і шлях для мастацтва. Калі па гэтым шляху пойдзе разьвіцьцё нашай творчасьці, дык можна будзе сказаць, што яна адчула пульс эпохі і творыць яе стыль.

**Ю. Дрэйзін**

# Франц Шубэрт

## Да стагодзьдзя з дню сьмерці 19/XI-1828 г.—19/XI-1928 г.

У сакавіку 1927-га году сьвяткавалася стагодзьдзе з дню сьмерці вялікага музычнага гэнія Л. Бэтговэна. Ён памёр 26 сакавіка 1827 года. А праз год і некалькі месяцаў закрыў навек свае вочы яго вялікі сучасьнік Франц Шубэрт, можа быць, ня меней гэніялны, чымся Бэтговэн. „Бах, Бэтговэн і Шубэрт ёсьць найвышэйшыя верхавіны музычнага мастацтва“, пісаў калісьці Антон Рубінштэйн[1]). Гэты погляд на Шубэрта падзяляе ўсё культурнае чалавецтва. Вось чаму стагодзьдзе з дню сьмерці Шубэрта сьвяткуецца бадай што ня меней, чымся сьвяткавалася Бэтговэнскае стагодзьдзе. У Нью-Ёрку нават абвешчаны сусьветны конкурс на напісаньне сымфонічнага ці камэрнага твору ў стылі Шубэрта, і ў гэтым конкурсе прымае чынны ўдзел і СССР (у якасьці аднае з 10 зон, на якія падзелены для гэтае мэты ўвесь сьвет.[2])

„Хто можа пасьля Бэтговэна яшчэ што-небудзь зрабіць?“ сказаў малады Шубэрт. Нямецкі музычны пісьменьнік Кароль Грунскі, аднойчы прыводзячы гэтыя словы Шубэрта, знаходзіць, што ў іх ён ня толькі выказаў сваю пашану да Бэтговэна, якою кіраваўся ўсё сваё кароткае жыцьцё, але ў гэтых словах выяўляецца шмат самасьвядомасьці, пачуцьцё ўласнага гэнія, разуменьне таго, што кампазытарства нічога ня варта, калі кампазытар ня можа даць чаго-небудзь свайго, уласнага, самастойна-індывідуальнага. Шубэрт зусім не хацеў быць другім Бэтговэнам. Ён ішоў уласным шляхам.[3])

Але гэты ўласны шлях Шубэрта мы можам зразумець толькі на фоне яго эпохі. Дыялектыка гісторыі высунула творчасьць Бэтговэна і творчасьць Шубэрта. Бэтговэнскія 3-я, 5-я і 9-я сымфоніі, Промэтэй, Эгмонт, апошнія сонаты і квартэты і романтыка Шубэрта ўва ўсіх бадай што яго творах -- вось праявы двух канцавосьсяў гэтае дыялектыкі, якая пазьней прыводзіць да сынтэзу ў нэоромантызьме Вагнэра, пабудаваным на грунце Бэтговэна. Нам трэба хоць бы ў самых кароткіх рысах прыпомніць асаблівасьць тае эпохі, у якую жыў і тварыў Шубэрт, і тады яго творчасьць зробіцца для нас зразумелаю.[4])

---

[1]) А. Рубінштэйн. Музыка и ее представители. Москва. 1892 г., бал. 45.

[2]) Гэты конкурс ужо адбыўся. У СССР атрымалі: 1-ю прэмію (750 даляраў) – сымфонія М. М. Чарнова, 2-ую прэмію (250 даляраў)—Легенда В.П. Калафаці і пачэсную адозву—рондо Р. І. Мэрвольфа. Гл. „Музыкальное Образование“ 1928 г., № 3, бал. 81.

[3]) Dr. Karl Grunsky. Musikgeschicht der 19 Jahrhunderts 1 Teil., бал. 63.

[4]) Гл. маю кніжку „Музыка и революция“. Могилев. 1921 г., бал., 78-85.

У першыя дзесяцігодзьдзі XIX стагодзьдзя ў эўропейскай музыцы разьвіўся адзін надзвычайна цікавы кірунак, які знаходзіўся ў самай шчыльнай сувязі з грамадзка-палітычнымі ўмовамі эпохі. Гэта быў так званы романтызм[1]). Гэты кірунак не ўтварыў ніякіх новых музычных форм, але ў старыя формы, утвораныя папярэдняю эпохаю клясычнае музыкі[2]), ён уліў новы зьмест. І гэты новы зьмест яскрава адбіў у сабе тыя думкі, пачуцьці і настроі, якімі ахоплены былі найболей чуткія людзі таго часу пад уплывам падзей што адбываліся тады ў Эўропе.

Канец XVIII стагодзьдзя ў Эўропе адзначаны быў вялікай францускай рэволюцыяй. Гэта была гэраічная эпоха. Гэта быў час гэраічных учынкаў, гэраічнага змаганьня за новыя тады для Эўропы ідэі „волі, роўнасьці і братэрства". Струменьні крыві праліліся ў змаганьні за гэтыя ідэі, былі прынесены нязлічоныя ахвяры. Але чым скончылася гэтая рэволюцыя, чым скончылася гэтае гэраічнае змаганьне за „волю, роўнасьць і братэрства"? Мы цяпер разумеем, што вялікая францускя рэволюцыя зрабіла сваю справу,—яна зьнішчыла рэшткі струхлелага фэўдальнага ладу і на месца яго ўтварыла новы, у якім панаваньне перайшло да рэволюцыйнае ў тыя часы буржуазіі. Рэволюцыя разьнесла свае вялікія ідэі па ўсёй Эўропе, яна ідэйна падрыхтавала наступныя рэволюцыі ў іншых краінах, яна грунтоўна зьмяніла ўсю палітычную карту Эўропы. Але сучасьнікам яе здавалася, што рэволюцыя пацярпела поўную няўдачу. Сапраўды, чым яна скончылася? Спачатку закладам ваеннае імпэрыі Наполеона 1-га, потым рэстаўрацыяй у Францыі дынастыі Бурбонаў і заснаваньнем найрэакцыйнейшага з рэакцыйных „Сьвяшчэннага саюзу", які доўга цяжыў над Эўропай, і на чале якога намінальна стаяў расійскі імпэратар Александар 1-шы, а фактычна—славуты рэакцыянэр аўстрыйскі міністар князь Мэтэрніх. Усё прогрэсыўнае, усё вольналюбівае ў Эўропе прымушана было змоўкнуць. Яно прытаілася да пары да часу, і здавалася, што Францыя варочаецца да зьнішчаных рэволюцыяй фэўдальных перажыткаў, а ўва ўсёй Эўропе гэтыя перажыткі замацованы былі на доўгі час. Найболей чуткая частка Эўропейскага грамадзтва (з боку клясавага—дробная і сярэдняя буржуазія і злучаныя з імі інтэлігэнцкія групы) ахоплена была рознастайнымі пачуцьцямі. Гэта было, з аднаго боку, горкае расчараваньне ў рэволюцыі, а з другога—боязь і страх перад сучаснасьцю і будучынай. Ці для таго людзі змагаліся, цярпелі і гінулі, каб працерабіць шлях да пасаду салдату Наполеону? Ці-ж для таго праліваліся струмені крыві, каб,

[1]) Романтычны кірунак, урэшце, ахапіў ня толькі музыку, але і іншыя мастацтвы, асабліва літаратуру.

[2]) Эпоха клясычнае музыкі, эпоха ўтварэньня сонатнае формы інструментальнае музыкі (соната, розныя віды камернае музыкі, сымфонія) адзначаецца імёнамі І. С. Баха, Ф. Э. Баха, Гайдна, Моцарта і Бэтговэна. Гэта ёсьць XVIII і першая

спачатку пакараць сьмерцю аднаго Бурбона, а потым на яго месца паставіць другога? Ці-ж для таго былі прынесены нязьлічоныя ахвяры, каб усю Эўропу, быццам цяжкі кашмар, пачаў душыць „Сьвяшчэнны саюз“? Здавалася, што ўся гісторыя чалавецтва ёсьць гісторыя яго змаганьня, ахвяр і цярпеньняў. Але шчасьця, гэтага сьветлага вольнага жыцьця, чалавецтву дасягнуць ня суджана. Яно вечна будзе змагацца і цярпець. а жыцьцё яго вечна будзе цяжкое, няшчаснае. А тады лепей адыйсьці ад яго, лепей забыцца на яго. Трэба пашукаць іншага жыцьця, іншага сьвету, дзе льга адпачыць ад цяжкасьці, ашуканстваў і нікчэмнасьці рэальнага жыцьця, дзе пануе толькі хараство, дзе чалавек, хоць часова, можа быць шчасьлівы.

І вось романтыкі і адыходзяць сваёю думкаю ад рэальнага, зямнога жыцьця і зануруюцца ў жыцьцё надземнае, жыцьцё надпачуцьцёвае, жыцьцё поўнае таемных казачных цудаў. Казка, сага, легенда, паданьне—іхнія ўлюбёныя мотывы і сюжэты. Цёмнае сярэднявечча, з яго казачнасьцю, легендарнасьцю, рэлігійным містыцызмам,—люба ім. Але няма казак і легенд, што былі-б поэтычней за тыя, якія ўтварае народ. І романтыкі зануруюцца ў вывучэньне свайго роднага народу з боку яго нацыянальных асаблівасьцяй. Гэтаму дапамагае і тая акалічнасьць, што Наполеон у сваіх войнах зусім ня лічыўся ні з якімі нацыянальнасьцямі, ні з якімі нацыянальнымі асаблівасьцямі пераморжаных ім народаў. Цяпер, пасьля яго зрынуцьця, пачынаецца рэакцыя. Прыніжаныя ім нацыянальнасьці паднімаюцца. Разьвіваюцца магутныя нацыянальныя рухі, якія ў канцы прывялі да ўтварэньня буйных нацыянальных дзяржаў. Гэты нацыяналізм ёсьць таксама адна з выдатных рыс раньняга романтызму. Але найболей яскравая ёсьць не яна, а тое імкненьне да сьвету таемнага, цудоўнага, аб якім было вышэй сказана. А што-ж можа раўняцца таемнасьцю, казачнасьцю з самой прыродай? Так, прырода прыгожая, прырода казачная і таемная, і да яе трэба падыйсьці, у яе занурыцца, з ёю зьліцца. Гэта замілаваньне да прыроды ёсьць трэцяя характэрная рыса романтызму. Романтыкі любяць маляваць яе хараство, яе казачнасьць і знаходзяць для гэтага на сваіх палітрах зусім новыя хварбы.

Усе гэтыя рысы романтызму яскрава выявіліся і ў музыцы. Мала таго, у музыцы романтызм (ці ня лепей называць яго ня кірункам, а настроем?) адлюстраваўся, можа быць, асабліва яскрава, можа быць, яскравей, чымся ў іншых мастацтвах. Прынамсі ў эпоху раньняга романтызму тагочасныя філёзофы і поэты надавалі музыцы ў гэтых адносінах асаблівае значэньне, у музычнай стыхіі яны бачылі найвышэйшы сэнс сусьветнага жыцьця.

На фоне гэткіх настрояў і разьвілася творчасьць Шубэрта.

Франц Пэтэр Шубэрт нарадзіўся 31 студзеня 1797 года ў прадмесьці гор. Вены Ліхтэнталі. Па сваёй дзейнасьці на працягу жыцьця і па сваіх грамадзкіх сувязях ён належаў да тых інтэлігэнцкіх груп, якія шчыльна падыходзілі да дробнае ці сярэдняе буржуазіі, г. зн

да тае часткі грамадзтва, сярод якой якраз галоўным чынам і былі пашыраны рамантычныя настроі; хоць пахаджэньня Шубэрт быў бадай што пралетарскага,—бацька яго быў бедны настаўнік у пачатковай школе, а маці ў свой час была кухаркай. Музычныя інтарэсы ў сям'і Шубэртаў стаялі вельмі высока. Бацька са сваімі сынамі ў вольны час любіў іграць квартэты Гайдна, Бэтговэна, Моцарта. Музычныя здольнасьці маленькага Франца пачалі выяўляцца вельмі рана; і першымі настаўнікамі яго ў музыцы былі бацька і старэйшыя браты, з якіх брат Ігнась быў старэйшы за яго на 12 год. Але маленькі Франц хутка выперадзіў сваіх настаўнікаў, і тады ён быў адданы ў навуку ліхтэнтальскаму арганістаму М. Гольцэру. Гэты вучыў свайго гэніяльнага вучня ігры на скрыпцы, фортап'яне, аргане, а таксама сьпяваў, і генэрал-басу (гармоніі). Шмат пазьней, ужо пасьля сьмерці Шубэрта, Гольцэрг успамінаў аб' сваіх занятках з ім: „Калі мне хацелася чаго-небудзь яго навучыць, ён мне адказваў: „я ўжо гэта ведаю“. Часта я слухаў яго са зьдзіўленьнем“. А калі Гольцэр даваў Францу тэмы для імпровізацыі, дык мог толькі радавацца, слухаючы свайго вучня, і гаварыў, што ў Франца гармонія знаходзіцца на канцы пальцаў [1]). Хутка і вед Гольцэра не хапіла для Франца, і ён часова застаўся без настаўнікаў. Ён іграў у царкоўным аркестры, сьпяваў невялічкія solo ў хоры, а часам і замяняў самога арганістага. Яму было тады 12 год. У яго быў вельмі прыгожы дыскант, і гэта акалічнасьць дапамагла яму. Ён быў прыняты ў венскую прыдворную капэлю. У ёй ён прабыў пяць год і тут галоўным чынам і набыў патрэбную музычную адукацыю і пачаў разьвіваць свой кампазытарскі талент. У капелі быў свой аркестр, які быў вядомы ў Вене сваёй сыгранасьцю і тонкім выкананьнем. У гэтым аркестры Шубэрт іграў на альце і знаёміўся з аркестровымі творамі Гайдна, Моцарта і Бэтговэна. Пад уплывам гэтых майстраў ён і пачаў прабаваць свае сілы ў кампазыцыі. Шубэртавы біографы разыходзяцца паміж сабою ў поглядах на тое значэньне, якое мела ў ягоным разьвіцьці служба ў прыдворнай капэлі, жыцьцё ў конвікце (агульным памяшканьні). Праф. Саккецьці піша пра гэта: „Цяжка ўявіць сабе, што-б вышла з Шубэрта, калі-б ён карыстаўся хаця-б часткаю тае музычнае адукацыі, якая выпала на долю Моцарта і Мэндэльсона. Па сутнасьці, у конвікце Шубэрт быў бадай што выключна адданы самому сабе. Эйблер і Сальеры былі капэльмайстрамі хору, але наўдачу ці займаліся ў самай школе. Выкладчык генэрал-басу Ружычка, як раней Гольцэр, схіляўся перад сваім вучнем, разумеючы, што яму няма чаго вучыць Франца, якога „навучыла само неба“. Конвікт ня толькі ня даў вед Францу і кіраўніцтва для яго музычных заняткаў, але нават выстарчальнае колькасьці нотнае паперы. У фізычным дачыненьні вучні былі пастаўлены надта дрэнна—ежа была мізэрная, холад зімою страшэнны. Толькі адны

творы, якія выконваліся ў конвікце, маглі дапамагаць музычнаму разьвіцьцю выхаванцаў, і толькі ў гэтым сэнсе ён быў карысны Францу, апрача таго, што ён там сустрэў добрых таварышаў, якія потым зрабіліся яго прыяцелямі: Шпауна[1]), Зэнна, Гольцапфэля, Штадлера і інш. Яны, як і ўсе, хто зблíжаўся з чароўнаю асабістасьцю Шубэрта, моцна да яго прывязваліся—захапляліся яго творчасьцю, выконвалі яго творы, перапісвалі і, наколькі было магчыма, прапагандавалі іх. Сувязь з конвіктам канчаткова не парвалася пасьля выхаду Франца з гэтае школы, дзе вучні і далей выконвалі творы былога свайго таварыша“ [2]).

Аднак, толькі конвікт даў Шубэрту, якому бацька, па сваёй беднасьці, ня мог даць належнае агульнае адукацыі, такія-сякія веды ў гэтай галіне (матэматыка, гісторыя, географія, літаратура, маляваньне, францускáя і італьянская мовы). Праўда, сам Шубэрт, які спачатку старанна займаўся, хутка набыў рэпутацыю досыць лянога вучня, бо цалкам аддаўся ўлюбёнаму мастацтву. У конвікце-ж жывучы, Шубэрт чуў і пэршыя опэры (Weisenhaus і schweitzer Familie, Вэйгля, Вэсталка Споньціні, Іфігенія ў Таўрыдзе Глюка і інш.) і розныя сымфонічныя творы Бэтговэна. Улюбёным яго композытарам быў у той час Моцарт, пра якога ён пісаў у сваім дзёньніку: „Далікатна, быццам здалёк, дакраналіся маіх вушэй чараўнічыя гукі музыкі Моцарта. З якім незразумелым чаргаваньнем сілы і далікатнасьці майстэрская ігра Шлезінгера глыбока-глыбока пранікала ў маё сэрца! Якое прыемнае ўражаньне застаецца ў душы, накіроўвае яе на дабро і перамагае магутнасьць часу і сілу абставін! У цемры жыцьця гэтыя гукі адкрываюць сьветлую, бліскучую, прыгожую пэрспэктыву, даюць веру і надзею. О, Моцарт. несьмяротны Моцарт! Які бясконцы лік пацяшальных вобразаў—мар бліскучага лепшага сьвету замацаваў ты ў маёй душы [3]).

Гэтае месца з Шубэртавага дзёньніку цікавае тым, што ўжо тут мы бачым, як складаецца романтычны настрой у 16-17-гадовага Шубэрта, як ён ужо тады бачыў у рэальным жыцьці цемру і імкнуўся да нейкага лепшага сьвету. Бачым таксама, што вялікі мэлёдысты Моцарт быў настаўнікам найвялікшага з мэлёдыстых Шубэрта, творцы нямецкае мастацкае песьні (романсу).

Але найважнейшае значэньне конвікту для Шубэрта было ў тым, што ён даў маладому композытару добрых настаўнікаў у музычнай тэорыі. Дырэктарам прыдворнае капэлі быў тады композытар Сальеры [4]).

[1]) Гэты таварыш. з якім Шубэрт быў у вялікай дружбе, і які быў багацейшы за Шубэрта, даставаў маленькаму композытару нотную паперу.

[2]) Саккетти. Op. cit., бал. 162-163.

[3]) Саккетти. Op. cit., бал. 164—165.

[4]) Сальеры (1750—1825) вельмі таленавіты композытар і музычны тэорэтык. Пісаў опэры („Данаіды“, „Гарацы“, „Аксур“ і інш.), а таксама араторыі, увэртуры, камэрныя творы, балеты і інш. У яго ў свой час вучыўся і Бэтговэн. Легенда аб тым, што ён быццам атруціў Моцарта, ёсьць толькі легенда.

Неяк у яго рукі трапіла Шубэртава песьня „Hagars Klage“. Сальеры зьдзівіўся арыгінальнасьці гэтага твору і даручыў прыдворнаму арганістаму Ружычку займацца з Шубэртам. У хуткім часе Ружычка перадаў Шубэрта самому Сальеры, які і займаўся з ім да 1817 году. Заняткі з Сальеры былі для Шубэрта надзвычайна карыснымі, бо настаўнік натхніў свайму вучню веру ў свае композытарскія здольнасьці [1]). Праўда, у кірунку свае творчасьці Сальеры, гарачы прыхільнік клясычнае італьлянскае школы, быў да пэўнай ступені процілежнасьцю Шубэртаваму генію. Апошні гэтым часам ужо захапляўся пісаньнем нямецкіх песень, а Сальеры прымушаў яго пісаць музыку на опэрныя тэксты. У гадзіны, вольныя ад клясных заняткаў, Шубэрт пісаў тое, да чаго яго інстыктыўна цягнула. У 1814 годзе, адначасна з трохактовай опэрай „Des Teufels Lustschloss“ (Чортаў замак вясельля) малады композытар напісаў і мэсу, якая так спадабалася Сальеры, што была публічна выканана.

У 1813 годзе Шубэрт з прычыны мутацыі голасу прымушаны быў пакінуць капэлю і конвікт, вярнуцца дамоў і зрабіцца дапаможнікам свайго бацькі ў школе. Тры гады цягнуў ён лямку школьнага настаўніка, да чаго ня меў ніякага прызваньня. Да гэтага далучыліся яшчэ сумныя абставіны ў бацькавым доме. Ён ня меў ужо там належнага роднага прытулку, бо яго ўлюбёная маці памёрла, а бацька ажаніўся другі раз [2]). Уцеху Шубэрт знаходзіў толькі ў музыцы, якой і аддаваўся кожную вольную хвіліну. Ён тварыў проста з нейкаю неверагоднаю лёгкасьцю, і продукцыйнасьць яго, занятага школьнаю працаю зранку да ночы, у гэтыя часы зьдзіўляе біографаў. Асабліва ў гэтым дачыненьні выдаецца 1815 год, калі Шубэрт напісаў 4 зінгшпілі (опэры), 144 песьні, 2 сымфоніі (B і Д), 2 мэсы і шэраг драбнейшых царкоўных твораў, шэраг хораў, струнны квартэт g-moll, дзьве сонаты і шэраг дробных п'ес на рояль. Між іншым у канцы году ён адным прыхваткам напісаў сваю геніяльную баляду для пяяньня „Лясны цар“ [3]).

Шубэрт адважыўся кінуць і настаўніцкую пасаду і нават бацькаўскі дом, каб аддацца цалкам музыцы. З таго часу жыцьцё яго да самай сьмерці праходзіць у бязупыннай творчасьці, але і ў бязупыннай і часам страшэннай беднасьці. Творы яго пачынаюць рабіцца вядомымі, яго геніяльнасьць і яго добры, мяккі, надзіва сымпатычны характар вабіць да яго людзей, і навокал Шубэрта паступова згуртоўваюцца маладыя мастакі:—музыкі, поэты, маляры, адукаваныя дылетанты. Тут

---

[1]) Такога погляду трымаецца і пр ф. Ільлінскі. Гл. яго „Биографии композиторов с IV—XX век“. Москва 1904.. бал. 242 Е. Браўдо ўплыву Сальеры на Шубэрта не прызнае. Op cit., бал. 17 '.

[2]) Геника. Очерки истории музыки. Т I, бал. 186

[3]) Гл. „Хронограф“. складзены праф. Осоўскім, у кніжцы А. К. Глазунова— Франц Шубэрт. Ленін рад. 1928, бал. 31. Гл. таксама Саккетти Op cit., бал. 169-170

былі людзі розных станаў, прадстаўнікі розных профэсій [1]. Свае сходы яны называлі „шубэртыядамі“, і на іх яны ня толькі часам весела гулялі, але галоўным чынам абменьваліся навінамі ў галіне розных мастацтваў, абмяркоўвалі іх дзяліліся думкамі і поглядамі, а больш за ўсё зьбіраліся, каб паслухаць апошнія творы нявычарпальна продукцыйнага Шубэрта. На гэтых „шубэртыядах“ ролю піяністага выконваў сам композытар, а сьпеваком выступаў славутны ў тыя часы тэнор, артысты венскага прыдворнага тэатру Міхась Фогль. Гэты Фогль і быў першым і найстараньнейшым пропагандыстым твораў Шубэрта. У 1821 г. ён у вадным з сваіх концэртаў з вялізарным посьпехам выканаў „Ляснога цара“, пасьля чаго шубэртавы творы пачалі часьцей зьяўляцца ў друку. Гэты-ж Фогль неаднакроць браў з сабою Шубэрта за акомпаніятара ў свае концэртныя турнэ па Аўстрыі.

Апошнія 9-10 год жыцьця Шубэрта надзвычайна бедныя знадворнымі фактамі. Як ужо было сказана, гэта былі гады нясупыннае творчасьці і вялікае беднасьці. Калі ён пакінуў бацькаў дом, яго на некалькі месяцаў прытуліў у сябе другі яго блізкі прыяцель Шобэр, а потым як, на якія сродкі жыў Шубэрт? Шобэр і потым ад часу да часу даваў яму прытулак у сябе. дапамагаў, мусіць быць, і грашыма. Ён жа і зьвёў Шубэрта з Фоглем. Наогул, дапамога з боку верных прыяцеляў была для Шубэрта адным з важных сродкаў існаваньня, бо творы яго давалі яму надта мала. Папершае, Шубэрт ня быў яшчэ натолькі популярны, каб выдаўцы згаджаліся друкаваць яго творы зараз пасьля іх напісаньня. Доўгі час яб гэтых творах ведалі толькі найбліжэйшыя сябры Шубэрта. Шмат якія яго творы, што цяпер лічацца такімі славутнымі, варочаліся да яго ад выдаўцоў ненадрукованымі. „Лясны цар“, „Мальгрэта за прасьніцай“ і іншыя геніяльныя творы былі надруковproperly толькі праз 6 год пасьля іх напісаньня. Калі Шубэрт скончыў сваю сымфонію C—dur (7-ую), якую можна паставіць па характве з лепшымі бэтговэнскімі, ён адаслаў яе ў раду венскага „Музычнага Саюзу“, але яна была яму зьвернута з зазначэньнем, што яго сымфонія занадта доўгая і цяжкая. Болей, чым праз 10 год пасьля сьмерці Шубэрта, гэтую сымфонію адшукаў у Вене Шуман, прывёз у Лейпцыг да Мэндэльсона, які і выканаў яе ў Гевандгаўзе 22 сакавіка 1839 году з аграмадным посьпехам.

Падругое, эксплёатацыя маладых і ня досыць модных композытараў з боку нотных выдаўцоў была тады страшэнная. Калі выдавец Гасьлінгер надрукаваў 6 романсаў Шубэрта, ён заплаціў яму за іх 6 гульдэнаў, г. ё. 3 рублі золатам. Нават „Ляснога цара“ Шубэрту

[1]) Naumann пералічвае некаторых спаміж іх: маляры Купэльвізэр і Швінд, поэт Майргофэр, разьбяр Дытрых, сьпявак Фогль, композытар і дырыжэр Ляхнэр і інш. Гл. E. Naumann. Illustrirte Musikgeschichte. B. II, стар. 804. Ці ня гэтая рознастайнасьць сяброў Шубэрта дала повад Сабанееву называць Шубэрта прадстаўніком венскае артыстычнае богемы і нават параджэньнем яе? Погляд зусім няслушны. Гл. кнігу Сабанеева „Всеобшая история музыки“. Москва, 1925. бал. 153.

ўдалося надрукаваць у 1821 годзе толькі дзякуючы таму, што адзін з прыяцеляў яго, Зонлейтнэр, употайку ад Шубэрта аплаціў выдаткі друкаваньня. Дый ужо тады, калі Шубэрт набыў большую папулярнасьць у музычных колах і шырокай публіцы, выдаўцы, якія потым нажылі на яго творах мільёны грошай, адносіліся да маладога аўтара вельмі паўстрыМана і, як сьведчыць гісторык Е. Браўдо [1]), патрабавалі ад яго больш лёгкага фортэп'яннага акомпанімэнту, пераробак вакальных партый, так што пазьней музычна-навуковая крытыка ня мала папрацавала, каб аднавіць аўтэнтычныя тэксты шубэртаўскіх романсаў. Выдаўцы не саромеліся нават у сваіх інтарэсах друкаваць на яго творах падложныя прысьвячэньні.

Ня дзіва што пры гэткіх умовах Шубэрт прымушаны быў шукаць якой-колечы музычнай пасады. Але і гэтыя шуканьні скончыліся няўдачай. Шукаў ён сталых пасад два разы: першы раз у 1816 годзе— пасады дырыжэра прыдворнага хору ў Ляйбаху, а другі, шмат пазьней, у 1827-м годзе, месца капэльмайстра ў венскім Кэртнэртортэатры. Гісторык Naumann знаходзіць, што гэтыя няўдачы Шубэрта былі, аднак, толькі карысныя для яго, бо пасады зусім не адпавядалі характару Шубэрта з яго замілаваньнем да вольнасьці, да поўнае незалежнасьці, і з палкаю патрэбаю тварыць так, як ён сам хоча, як ён сам стыхійна і інстынктыўна імкнецца. „Ці-ж мог-бы ён пазбавіцца, піша Науман, магчымасьці па сваёй волі, як гэта было ў яго прывычкай, блукаць па палёх і лясох, калі яму столькі радасьці і шчасьця давала прыгожая горная прырода Зальцкамэргута і Штэйермарка, і калі ён перажываў незабываныя дзянькі ў коле прыяцельскіх сем'яў!“ [2]).

Толькі два разы ў сваім жыцьці Шубэрт быў вольны ад клопатаў аб хлебе,—у 1818 і 1824-м гадох, калі ён кожны раз па некалькі месяцаў жыў у маёнтках вэнгерскіх магнатаў, князёў Эстэргазі, у якасьці хатняга настаўніка музыкі. Ён пазнаў тады асалоду комфорту, багатага жыцьця, але гэты комфорт шчасьця яму ня даў. Ён рваўся адтуль да сваіх венскіх прыяцеляў, да свае венскае беднасьці, але і вольнасьці. Цікавыя яго лісты таго часу аб сваім жыцьці ў Эстэргазі. Ён піша, што князь чалавек грубы, княгіня гордая, хоць і не бессардэчная. Яе дочкі—мілыя дзяўчаткі. Ніхто ў доме ня цікавіцца сапраўдным мастацтвам, апрача княгіні, дый тая толькі ад часу да часу. Спаміж людзей, якія яго там абкружаюць, ён аддае перавагу слугам над панамі [3]).

Аднак гэтае жыцьцё Шубэрта ў князёў Эстэргазі ў Вэнгрыі мела і сваё немалое значэньне. Там Шубэрт пазнаёміўся з вэнгерскімі мэлёдыямі, водгукі якіх потым сустракаюцца шмат у якіх яго творах

---

[1]) Op. cit., бал. 174 Аб эксплёатацыі Шубэрта нотнымі выдаўцамі гл. таксама Спиро—История музыки. Пер. Коптяева. СПБ 1908 г., бал. 128.

[2]) Naumann. Illustr. Musikgeschichte, B. II. бал. 802. Такога-ж погляду на няўдачы Шубэрта трымаецца і Grunsky. Musikgesch. des XIX Jahrhunderts. T. I., бал. 70.

адтуль паўсталі і яго композыцыі на вэнгерскія тэмы, між імі славутны твар „Divertissement *á* l'Hongroise“ для рояля ў 4 рукі. У маёнтку-ж Эстэргазі Цэлеш Шубэрт дазнаў першы (і, здаецца, апошні) раз у жыцьці пакуты каханьня. Прадметам яго была малодшая дачка Эстэргазі Кароліна. Цяжка сказаць, ці яна адказала яму гэткім-жа пачуцьцём [1]). Аб глыбіні-ж пачуцьця з боку Шубэрта сьведчыць яго адказ на запытаньне з яе боку, чаму ён дагэтуль яшчэ не прысьвяціў ёй ніводнага свайго музычнага твору: „Навошта? Вам і без таго прысьвечаны ўсе мае творы“. Аб шлюбе багатае арыстакраткі з галякоммузыкам, сынам кухаркі, зразумела, нельга было і марыць. Так Шубэрт, як і яго вялікі сучасьнік Бэтговэн, пражыў сваё жыцьцё адзінокім.

Цікава, як скаліся адносіны паміж гэтымі абодвума музычнымі геніямі. Яны ведалі адзін аднаго, кажа А. Рубінштэйн, але, наколькі вядома, пашана была толькі з боку Шубэрта. Пазнаёміліся яны толькі ў 1822-м годзе, але з гэтага знаёмства нічога ня выйшла. У ліпені таго-ж году Шубэрт часта наведваўся ў рэсторан, дзе бываў і Бэтговэн. Але ў яго не хапіла адвагі падыйсьці да таго, каго ён так пабожна шанаваў. Тады ён пастанавіў паднесьці Бэтговэну прысьвечаныя яму вар'яцыі на францускую тэму (ор. 10) і з гэтым падарункам пайшоў да Бэтговэна разам з выдаўцам гэтых вар'яцый Дыябэльлі. Бэтговэн быў дома, прыняў паднесеныя яму вар'яцыі і даў Шубэрту паперу і аловак, каб чытаць яго адказы, бо быў у гэты час ужо абсолютна глухі. Ён разгарнуў прынесены яму твор і, зглянуўшы ў яго, быў як быццам чымсьці зьдзіўлены. Калі Шубэрт прыкмеціў гэта, ён канчаткова згубіў самаўладаньне, кінуўся бегчы і заспакоіўся толькі на вуліцы. Гэтым і скончылася знаёмства Шубэрта з Бэтговэнам. Для першага пазьней, аднак, было вялікаю уцехай, калі ён дазнаўся, што Бэтговэну спадабаліся яго вар'яцыі, і што ён часта іграў іх са сваім пляменьнікам [2]).

Ня было ў Шубэрта блізкага знаёмства і з другім вялікім сучасьнікам яго эпохі, з Гётэ. Блізкі друг апошняга Цэльтэр, заснавальнік і кіраўнік славутнага бэрлінскага „Liedertafel“ (песеннага таварыства), ні слоўкам не абмовіўся перад Гётэ аб найвялікшым у гісторыі песенным композытару. На тэксты Гётэ Шубэрт напісаў каля 100 песень, але, калі ён прыслаў Гётэ некаторыя спаміж іх, дык той нават і адказу не паслаў яму, як пазьней Бэтговэну на яго вялікую мэсу і Бэрліозу на яго сцэны з Фаўста [3]). Недарэмна Бэтговэн, як кажуць, пазнаёміўшыся з Гётэ, гаварыў аб ім пазьней: „Я думаў, што сустрэну караля поэтаў, а сустрэў поэта каралёў“.

Жывучы ў страшэннай беднасьці, ня маючы часта самага патрэбнага, Шубэрт працаваў бязупынна. Гэтая вечная, без адпачынку,

[1]) Рубинштейн А. Музыка и ее представители., бал. 43.

[2]) Зьвесткі аб гэтым, як наогул зьвесткі аб Шубэрце, Саккетти бярэ ў Grove, з яго „A dictionary of Music and Musicians“. *London*. 1889. III.

[3]) Grunsky. Op. cit., стар. 71

нэрвовая напружанасьць побач з матар'яльнымі недахопамі пачала, нарэшце, адбівацца на яго здароўі, асабліва на стане яго нэрвовае сыстэмы. Няўдачы з друкаваньнем твораў і публічным выкананьнем іх, асабліва з пастаноўкай яго опэр, даводзілі яго да роспачы. Усё часьцей і часьцей ён аддаецца глыбокай мэлянхоліі, жыцьцё губіць для яго свой сэнс, бо ўсе свае надзеі і імкненьні ён бачыць здрузгатанымі. Лісты яго да прыяцеляў абвеяны глыбокім сумам. „Уяві сабе чалавека“, піша ён, „які назаўсёды згубіў сваё здароўе, які сваёй хандрой яшчэ пагаршае свой стан. Уяві сабе чалавека, кажу я, у якога самыя сьветлыя надзеі скончыліся нічым, якога і каханьне і дружба прыводзяць толькі да журбы, у якога і энтузыязм, што раней яго падпрымліваў і даваў натхненьне, і пачуцьцё харaства пагражаюць зьнікнуць, і спытай у сябе: наколькі няшчасны і ўбогі гэты чалавек“. „Мне цяжка на сэрцы“, піша ён у другім лісьце, „зьнік мой спакой, вось што магу я сказаць штодзень. Кожны вечар я спадзяюся, што засну і болей не прачнуся, і кожная раніца прыносіць мне ўчарашнія клопаты“ [1]). У яго пачаліся частыя кружэньні галавы, страшэнная фізычная слабасьць. Ад часу да часу здароўе яго папраўлялася, каб потым зноў яшчэ болей пагоршыцца. Разьвівалася нейкая ўнутраная хвароба. 14-га лістапада 1828 г. Шубэрт канчаткова лёг у ложак, каб болей ужо не ўставаць. Ён не адчуваў ніякіх фізычных боляй; а толькі слабасьць, бяссоньніцу і глыбокі смутак. Яго апошнім заняткам было выпраўленьне корэктур цыклю романсаў „Winterreise“ (Зімовае падарожжа). 16-га лістапада нарада лекараў азначыла ў яго нэрвовую трасцу. 18-га лістапада лекары знайшлі ў яго тыфус. На другі дзень ён пачаў трызьніць. Яму здавалася, што ён ляжыць у нейкім падзямельлі, і прасіў, каб яго ізноў прынесьлі ў яго пакой. А калі прысутны тут яго брат Фэрдынанд гаварыў яму, што ён ляжыць на сваім ложку, дык ён адказваў: „Не, не, Бэтговэна-ж тут няма“!

Ён памёр 19-га лістапада 1828-га году. Яму было ўсяго 31 год. Пахаваны ён быў на Вэрынгенскіх могілках побач з Бэтговэнам, аб якім ён гаварыў перад сьмерцю. 30-га студзеня 1829-га году быў дадзены концэрт з яго твораў, які меў вялікі і мастацкі посьпех, і потым быў паўтораны. На сабраныя грошы быў пастаўлены на яго магіле помнік з эпітафіяй поэта Грыльпарцэра: „Музычнае мастацтва пахавала тут прыгожы скарб, але яшчэ прыгажэйшыя надзеі“ [2]). Аб гэтай эпітафіі Шуман пазьней пісаў: „З удзячнасьцю трэба думаць аб першай палове (гэтае эпітафіі), але ламаць галаву над тым, чаго-б мог ён яшчэ дасягнуць, бескарысна; ён зрабіў досыць, і слава таму, хто, як ён, імкнуўся і здолеў выканаць сваё імкненьне“ [3]).

---

[1]) Геника. Очерки истории музыки. Т. 1., бал. 188.

[2]) Die Tonkunst begrub hier einen re chen Besitz, aber noch viel schönere Hoffnurgen.

[3]) [illegible] бал. 124.

Гэты-ж Шуман даў у свой час цікавую характарыстыку Шубэрта, як творцы музыкі. „Шубэрт“, пісаў ён, „заўсёды застанецца ўлюбёнцам моладзі; ён выяўляе тое, чаго жадае: бурлівае сэрца, сьмелыя думкі, быстры ўчынак; ён расказвае моладзі аб тым, што яна больш за ўсё любіць: аб романтычных гісторыях, ваяках, дзяўчатах-красунях, прыгодах; ён прымешвае да гэтага жарт і гумар; ён акрыляе ўласную фантазію выканаўцы так, як ніводзін іншы композытар, апрача Бэтговэна. Ён знаходзіць гукі для найтанчэйшых адчуваньняў, думак, нават—падзей і жыцьцёвых становішчаў. Усё, на што ён зірне ці да чаго дакранецца,—зварочваецца ў яго ў музыку. З каменьняў, якія ён кідае, выскакваюць, як у Дэўкаліона і Пірры, жывыя людзі. Сьмяртэльны вораг усялякага філістэрства, ён быў найвялікшым пасьля Бэтговэна,—ён тварыў музыку ў вышэйшым сэнсе гэтага слова“ [1]).

Гэтая характарыстыка адпавядае таму, што мы ведаем аб нязвычайнай музычнасьці Шубэрта. Гісторык Е. Браўдо знаходзіць, што гісторыя музыкі ня ведае прыкладу большае спэцыфічна-музычнае надаронасьці, чымся Шубэрт. Ён быў поўны мэлёдый і раскідваў скарбы свайго музычнага духу з такою бясклопатнасьцю і лёгкасьцю, як ніводзін композытар у сьвеце, уключаючы і вялікага „раскідваццеля“ Моцарта [2]).

Ня дзіва, што пры такой музычнасьці, якая да таго.яшчэ была злучана з бязупыннаю ўпэртаю працай [3]), Шубэрт за сваё болей чымся кароткае жыцьцё напісаў нязвычайна многа. Пісаў ён ува ўсіх радах і формах музыкі: песьні (романсы), хоры, опэры, сымфоніі, камэрныя творы (трыо, квартэты, квінтэты), сонаты для паасобных інструмантаў, сольныя інструмантальныя рэчы (асабліва для роялю). І ўва ўсіх гэтых формах ён даў творы, якія зьяўляюцца ўзоравымі і дагэтуль.

Найважнейшае значэньне сярод гэтых твораў у гісторыі музыкі маюць яго песьні. Сваім духам, характарам свае мэлёдыкі яны наблі-

[1]) R. Schumann. Gesammelte Schriften. B. II. Leipzig. 1889., бал. 120.

[2]) Op cit. бал. 173.

[3]) Вельмі цікава параўнаць у гэтых адносінах з Шубэртам гэніяльнага „бацьку Расейскае опэры“, беларуса пахаджэньнем, Глінку. Спашлюся ў гэтым выпадку на водгук Чайкоўскага: „Чалавек гэты (Глінка), на ароны аграмадную самабытную сілай творчасьці, дажыў, калі не да старасьці, дык да вельмі паджылога ўзросту і напісаў на дзіва мала. Прачытайце яго мэмуары. Вы ўбачыце з іх, што ён працаваў, як дылетант, г. ё. урыўкамі, калі прыходзіў адпаведны настрой. Як бы мы ні ганарыліся Глінкам, але трэба прызнацца, што ён ня выканаў таго заданьня, яко ляжала на ім, калі прыняць пад увагу яго дзіўны талент. (З пункту погляду рэгулярнасьці працы) Моцарт, Бэтговэн, Шубэрт, Мэндэльсон, Шуман тварылі свае няўмірушчыя творы зусім так, як шавец шые свае боты, г. зн. з дню ў дзень, і ў большасьці па заказу. У выніку выходзіла нешта колёсальнае. Калі-б быў Глінка шавец, а ня „барын“, у яго замест дзьвюх, праўда дасканалых, опэр было-б іх напісана пятнаццаць, ды яшчэ у дадатак да іх штук дзесяць выдатных сымфоній. Я гатоў плакаць ад абурэньня, калі думаю аб тым, што-б даў нам Глінка, калі-б ён нарадзіўся ня ў барскім асяродзьдзі да эмансыпацыйнага часу!“ М. Чайковский. Жизнь П. И. Чайковского. Т. II, *бал.* 183 і т. III, *бал.* 369. Глядзі таксама кнігу: В. Чешихин. История русской *оперы*. СПБ. 1905. *бал.* 130—131

жаюцца да народнае песеннае творчасьці. Для нас гэтая акалічнасьць зразумелая,—яна тлумачыцца тым романтычным настроем, якім быў прасякнуты Шубэрт, як прадстаўнік інтэлігэнцыі свайго часу. Песьня Шубэрта ёсьць чыста нямецкая песьня, а сюжэты яе тэкстаў таксама выяўляюць романтычныя настроі, бо ў большасьці іх мы бачым або казачнасьць, легендарнасьць (Лясны цар, Двайнік, Мальгрэта за прасьніцай), альбо палкую любоў да прыроды, надзвычайна прыгожыя яе малюнкі (Форэль, Баркарола, Бурны струмень, увесь цыкль „Зімняе падарожжа"). Шубэрт ёсьць творца нямецкае мастацкае песьні. Ня дзіва, што немцы называюць яго сваім улюблёнцам[1]). Песьні свае Шубэрт тварыў неяк стыхійна. Верш, які яму падабаўся, адразу-ж знаходзіў у яго стыхіцы музычны водгук, сваё музычнае адбіцьцё, і ў яго ўяўленьні адразу-ж паўставаў музычны малюнак гэтага вершу, і ня толькі як мэлёдыя, але і ўсе падрабязнасьці акомпанімэнту, які сапраўды ўжо ня быў акомпанімэнтам, дададзеным да мэлёдыі ў мэтах гармоніі, а зьліваўся з ёю ў адзіны цэльны музычны малюнак. Гэта быў „музычны верш на верш літаратурны"[2]). Вось чаму формы яго песень бясконца рознастайныя. Мы знаходзім сярод іх зусім просьценькія песенькі ў народным дусе, знаходзім і грандыёзныя фортап'янныя поэмы сымфонічнага характару з рэчытатывам голасу—solo.

Колькі ўсяго напісаў Шубэрт песень, цяжка ўстанавіць, бо яму самому ўдалося бачыць надрукаванай толькі надзвычайна невялічкую частку яго твораў, і шмат спаміж апошніх, мусібыць, згублена. У кожным разе іх было далёка болей за 400[3]). Ён злучыў іх у цыклі, як: „Прыгожая млынарка", „Дарожныя песьні", „Песьні Осіана" „Зімняе падарожжа", „Лебядзіныя песьні". Naumann[4]) усе песьні Шубэрта падзяляе на пяць груп, спаміж якіх асабліва падрабязна спыняецца на чацьвертай групе, у якую ўваходзяць баляды Шубэрта. У гэтай форме, на думку Наумана, Шубэрт узьняўся на такую вышыню мастацкасьці, якой ніхто ні да яго, ні пасьля яго не дасягнуў. Калі мець на ўвазе, што ў гэтую групу баляд уваходзяць такія песьні; як „Лясны цар" (Erlkönig) „Вандроўнік", „Маладая манашка", „Мальгрэта за прасьніцай", „Двайнік", дык з думкай Наўмана бязумоўна можна згадзіцца. І зразумела, чаму баляда так удалася Шубэрту. Баляда ёсьць такі поэтычны жанр, які вельмі многа ўжываўся ў эпоху Шубэрта, так што яго называюць нават романтычным жанрам[5]).

Наступнае месца па значэньні займаюць у творчасьці Шубэрта яго сымфоніі. На думку некаторых дасьледцаў, Шубэрт нават якраз

---

1) Гл. La Mara Musikalische Studienkopfe. 4-e Aufl. B. III. S. 136.

2) Так называе песьню Шубэрта А. Рубінштэйн (Музыка и ее представители. Бал. 41).

3) Рыман (Муз. катехизис. Москва 1897, ч. II., бал. 197) дае лічбу 457, Naumann 404, Браўдо і Саккетти—600, а Grunsky нават 700.

4) Op. cit., бал. 806–807.

5) Гл. кнігу А. І. Барычэўскага. Поэтыка літаратурных жанраў. Менск 1927. Бал 110

у сымфонічнай сваёй творчасьці выявіў сябе найяскравей, як романтык[1]). Але трэба сказаць, што яго сымфонічная творчасьць знаходзіцца ў пэўнай залежнасьці ад песеннай, прынамсі з боку мэлёдыкі. У большасьці яго сымфоній мы сустракаем водгукі яго песень. І менавіта гэтым бокам сваіх сымфоній Шубэрт робіць новы і вельмі важны крок у гісторыі сымфоніі, бо ён парывае з абстрактным стылем клясычнае сымфоніі і ўносіць у яе народніцкі пачатак свайго романсу. Дый наогул, часта кажуць, што і ў сымфоніях Шубэрт застаецца композытарам песьні, і што для інструманту ён піша так, як трэба пісаць для голасу, у працілегласьць найвялікшаму композытару інструмантальнае музыкі Бэтговэну, які для голасу пісаў так, як трэба пісаць для інструмэнтаў. Усяго Шубэрт напісаў 8 сымфоній, з якіх асаблівае значэньне маюць сёмая (C—dur) і восьмая (h—noll). Гэтыя сымфоніі і дагэтуль ставяцца ня меней, чымся сымфоніі бэтговэнскія. Усё бясконцае чараўніцтва свае мэлёдыкі, усё багацьце свае гармоніі, усё майстэрства аркестроўкі разгарнуў у гэтых сымфоніях Шубэрт. Восьмую сымфонію (h—moll) Шубэрт ня скончыў, і яна мае толькі дзьве часткі[2]). *Яна ўся абвеяна глыбокім смуткам, які часам даходзіць* да трагічнага патосу Бэтговэна. Болей бадзёрасьці мы чуем у сёмай сымфоніі, якую Браўдо лічыць найпрыгажэйшай у музычных адносінах сымфоніяй усяго XIX сталецьця. Аб ёй і Шуман у 1840-м годзе пісаў: „Хто ня ведае гэтае сымфоніі, той вельмі мала яшчэ ведае Шубэрта“ [3]) Яна была напісана композытарам ў год яго сьмерці, і, як было вышэй сказана, Шубэрт ня чуў яе выкананьня (як і іншых сваіх буйных твораў, опэр і сымфоній), а толькі 10 год пасьля яго сьмерці Шуман знайшоў яе ў Вене і прывез у Лейпцыг, дзе яна і была першы раз публічна выканана пад кіраўніцтвам Мэндэльсона 22 сакавіка 1839 году.

Што да фортап'яннае творчасьці Шубэрта, дык продукты яе цяпер ужо зьніклі з концэртных эстрад. Гэта таму, што ў іх няма концэртнага бляску, віртуознасьці, усе яны патрабуюць інтымнага колка аматараў музыкі. Але яны зрабілі сваю гістарычную справу, бо мелі вялікі ўплыў на такіх композытараў-піяністых, як Ліст, Шуман і Шопэн, а як пэдагогічны матар'ял яны і дагэтуль старанна вывучаюцца ў музычна-пэдагогічных установах. Шубэрт напісаў 15 сонат, шэраг характэрных п'ес, так званых „Moments musicaux“ (хвілінка музыкі), вядомых кожнаму музыку, і „Impromptus“ (экспромптаў). Ува ўсіх сваіх фортап'янных творах Шубэрт застаецца вялікім мэлёдыстым, творцам песьні і романтыкам. „Поўная захапленьня любоў да прыроды, найтанчэйшае адчуваньне фарб аўстрыйскіх далін і гор, поэзія

---

[1]) Браўдо. Op. cit., бал. 176.

[2]) Поўная сымфонія мае чатыры (часам тры) часткі, як соната (alegro, andante scherzo, alegro.

[3]) Schuman. Gesammelte Schriften. B. III. S. 5—6. Восьмая сымфонія была знойдзена толькі ў 1865-м годзе.

венскага народнага жыцьця прасякаюць гэтыя яго композыцыі" (Браўдо). Трэба сказаць, што піянізм Шубэрта ня ёсьць чысты піянізм, - ён імкнецца вылучыць з роялю оркестровыя эфэкты, нават гучнасьць паасобных аркестровых груп, струнных, дзераўляных, духавых, мядзяных. Вось чаму Ліст вельмі ахвоча іграў Шубэрта. Вельмі цікавыя творы Шубэрта для рояля ў 4 рукі, вар'яцыі, дывэртысмэнты (у якіх чуем водгукі вэнгерскіх мэлёдый), рондо, гэроічныя і ваенныя маршы. Нарэшце, нельга абыйсьці маўчаньнем яго танцаў для рояля, у музыцы якіх адбілася спакойнае і прытульнае бюргерскае жыцьцё ў Вене таго часу. Ён і сам вельмі ахвоча іграў для танцаў, калі яго прасілі, гэтую форму музыкі ён апоэтызаваў, і ў гэтых адносінах зьяўляецца папярэднікам Шопэна.

У галіне камэрнае музыкі Шубэрт таксама пакінуў шмат твораў, якія і дагэтуль ня страцілі свайго значэньня і заўсёды выконваюцца на концэртных эстрадах: 15 струнных квартэтаў, 2 фортап'янныя трыо, струнны квінтэт (з дзьвюма віолёнчэлямі), фортап'янны квінтэт з контрабасам (славуты „Forellenquintett", дзе ў трэцяй частцы тэмай для вар'яцый зьяўляецца яго романс „Форэль") і шмат іншых.

Ува ўсіх сваіх творах Шубэрт ёсьць лірык, суб'ектывісты да мозгу касьцей. Вось чаму, можа быць, яму не ўдавалася опэра. Апошні від музыкі, як музычная драма, патрабуе ад композытара об'ектывізму, здольнасьці забыцца на сваё „я", і музычна характарызаваць асобы, самыя рознастайныя характарам. Шубэрт заўсёды застаецца Шубэртам, і характэрная шубэртаўская мэлёдыка заўсёды і ўсюды чутна і лёгка распазнаецца. Ён напісаў каля 15 опэр, але бачыў на сцэне толькі „Чараўнічую гарфу" (Zauberharfe) і „Розамунда" (праўдзівей—музыку да п'есы Шэзі „Розамунда"), ды яшчэ водэвіль „Zwillingsbrüder" (Браты-блізьнюкі). Толькі некаторыя яго опэры ставіліся пасьля яго сьмерці, але да нашых часоў яны не дажылі і цяпер зусім ня ставяцца.

Так прайшоў шлях свайго жыцьця і зрабіў сваю гістарычную справу адзін з найвялікшых музыкаў усіх часоў і народаў. Застаючыся лірыкам-суб'ектывістым, вялікаю і геніяльнаю індывідуальнасьцю, ён тым ня меней зьяўляецца сынам свайго грамадзтва, свае клясы, свае эпохі, настроі якой ён у сваёй творчасьці выказаў так яскрава, як наўрад ці хто-колечы іншы. Ці-ж не заўсёды так бывае: гені яскрава выдзяляецца на фоне свае эпохі, але ён не закрывае сваёю асабістасьцю сваю эпоху, як яна не закрывае яго. Так бывае ў музыцы, так бывае і ўва ўсіх іншых галінах чалавечае думкі, жыцьця і дзейнасьці.

Крапіва

# Слова — чытачу

## Пра кітайскі мур

Ці цеперся гавораць ужо пра тое, што ня шкодзіла-б наладзіць жывы абмен думкамі пісьменьніка з чытачом; што гэта вельмі-б карысна было, асабліва для пісьменьніка. І сапраўды: пісьменьнік дае пэўную літаратурную продукцыю, нехта гэту продукцыю спажывае, але хто і як спажывае, чым спажывец задаволен і што-б ён хацеў, каб было іначай,—вось гэтага пісьменьнік і ня ведае, бо продукцыя гэта, па тэхнічных умовах, ідзе не непасрэдна ад пісьменьніка да спажыўца, а праз дзясяткі пасрэдніцкіх рук, і якраз толькі рук; бо найчасьцей гэтыя пасрэднікі зусім ня думаюць аб зьбліжэньні пісьменьніка з чытачом і нават ня ведаюць, што ўласна яны даюць спажыўцу. А пісьменьніку вельмі-б хацелася, калі ня бачыць, то хоць-бы чуць спажыўца і прыслухоўвацца да яго запатрабаваньняў. Чытачу таксама, напэўна, хацелася-б выказаць свае меркаваньні пра тое хоць, што яго асабліва задаволіла або не задаволіла. Але, ня гледзячы на гэта жаданьне з абодвых бакоў, пісьменьніка і чытача разьдзяляе некі кітайскі мур, праламаць які грунтоўна да гэтага часу яшчэ, здаецца, нікому не ўдалося. Гавораць пра гэта паасобныя літаратурныя працаўнікі, гавораць часамі і рэдакцыі, але яны сабе гавораць, а мур сабе стаіць, і голасу масавага чытача з-за яго ўсёроўна ня чутно. На момант прыходзіць думка—ці ня міт ужо і самы гэты масавы чытач? Можа яго й на сьвеце зусім няма? Можа яго выдумалі дасужыя літаратары для большага апраўданьня свае творчасьці? Але-ж і праца бібліотэк і шматтысячныя тыражы кніг гавораць аб тым, што гэты чытач сапраўды ёсьць. Дык у чым-жа справа? Відавочна, тыя формы выказваньня аб літаратурнай творчасьці, якія практыкаваліся да гэтага часу, не падыходзяць для масавага чытача; ёсьць, напэўна, некія прычыны, якія не даюць яму магчымасьці карыстацца гэтымі формамі. Паглядзім жа,

## што мы мелі да гэтага часу.

Перш за ўсё—крытычныя артыкулы. Гэта адна з пашыраных форм выказваньня аб літаратурнай творчасьці. Але... тут мы сустракаемся з вельмі вялікім „але“, якое не дазваляе звычайнаму чытачу выкарыстаць гэту форму. Па-першае, для пісаньня крытычных артыкулаў патрэбна досыць высокая кваліфікацыя, патрэбна ўладаць пэўным мэтадам, з якім аўтар павінен падыходзіць да ўсебаковага разгляду і ацэнкі літаратурнага твору. Усё гэта пад сілу толькі тым людзям, якія спэцыяльна рыхтавалі сябе да такой дзейнасьці. Другая нявыгоднасьць—гэта, калі можна так сказаць, некаторая нярухавасьць гэтай формы выказваньня.

Крытык, звычайна, ня любіць выказвацца аб паасобных, ды яшчэ невялікіх, творах. Ён калі бярэ, дык цэлы роман або паасобны зборнік твораў, а часта ахапляе і цэлы пэрыод пісьменьніцкай дзейнасьці. Ёсьць нават і такія, што мяркуюць, каб гэта зараз выказацца аб ўсёй творчасьці таго ці іншага пісьменьніка. Тут ужо самому пісьменьніку ня суджана пачуць высокааўторытэтнага слова такога крытыка, бо крытык проста чакае, пакуль пісьменьнік памрэ. Вось дзеля гэтых прычын звычайны чытач і ня можа выкарыстаць гэту форму, вось дзеля таго і крытыкаў у нас можна на пальцах пералічыць, і крытычнай літаратуры—кот наплакаў. Дый з гэтага, што ёсьць, нямалую частку варта-б было выкінуць з грамадзкага карыстаньня, як продукцыю людзей, пазбаўленых самай элемэнтарнай сумленнасьці, якія, пішучы, абараняюць інтарэсы вузка-гуртковыя або свае асабістыя. Такая крытыка, апрача шкоды, і грамадзтву і пісьменьніку нічога не дае.

Што да рэцэнзій, дык яны таксама пішуцца ня іначай як на цэлыя кніжкі, і таму маларухавасьць іх амаль такая-ж, як і крытычных артыкулаў. Апрача гэтага, разабраць цэлую кніжку і даць ёй ацэнку, хоць-бы сабе і сьціслую, справа таксама досыць нялёгкая. Ува ўсякім разе ў звычайнага чытача ня хопіць часта ні часу, ні, можа нават, падрыхтаванасьці, каб гэтай справай займацца. І пішуцца рэцэнзіі звычайна калі ня спэцамі, то напоўспэцамі, якія ў курсе літаратурных спраў і атрымалі некаторую літаратурную адукацыю. Рэцэнзэнтаў у нас таксама ня вельмі многа.

Некаторыя рэдакцыі, каб даведацца, чаго хоча чытач, пробавалі рассылаць адпаведныя анкеты. Але гэты спосаб, здаецца, не апраўдаў сябе ў поўнай меры. Перш за ўсё часта на запаўненьне анкеты глядзяць, як на лішнюю нагрузку, і або зусім нічога не адказваюць, або проста адпісваюцца. Зноў-жа ў анкеце шмат такіх пытаньняў, якія чытача зусім ня цікавяць, а яго як-бы абавязваюць пра гэта думаць, і гэта адбівае ў яго ахвоту запаўняць анкету. Апрача гэтага, пытаньні анкеты адносяцца галоўным чынам да агульнай пастаноўкі таго ці іншага органу, і вельмі рэдка прапануецца выказацца аб якасьці мастацкага твору. А калі-б такія пытаньні і былі, дык выказвацца аб творы добра пад сьвежым уражаньнем, прачытаўшы гэты твор, а калі, скажам, паўгода ўжо прайшло ад таго, як чытаўся твор, дык тагды гэта значна цяжэй.

Такім чынам усе разгледжаныя спосабы сувязі пісьменьніка з чытачом далёка не здавальняюць, і мур застаецца мурам. Праўда, ёсьць адзін спосаб непасрэднага спатканьня пісьменьніка з чытачом,—гэта чытка твораў з эстрады перад аудыторыяй. Але-ж ня ўсякі твор і сваім разьмерам і сваім характарам падыходзіць для эстраднага чытаньня, гэта раз. Другое, лік слухачоў досыць абмежаваны, ува ўсякім разе ў шмат разоў меншы, як чытачоў друкаванага твору. Каб абслужыць шырэйшыя колы, патрэбны выезды ў іншыя, хоць-бы, гарады, а гэта адрывае пісьменьніка ад штодзённай асноўнай працы ва ўстанове дый

патрабуе пэўных сродкаў, якія часта невядома дзе і ўзяць. Апрача гэтага, пры чытаньні з эстрады сэнс твору не заўсёды улоўліваецца слухачамі; тэхніка чытаньня можа часамі падмяніць якасьць самога твору і наадварот, і добры твор, нявыразна прачытаны, зробіць дрэннае ўражаньне. Выказваньне аб творчасьці тут найчасьцей таксама не практыкуецца, і аб тым, ці спадабаўся твор, можна меркаваць выключна толькі па густаце аплёдысмэнтаў. Усё гэта паказвае, што гэты спосаб можа быць адным з сродкаў сувязі пісьменьніка з чытачом, але сродак гэты далёка не самы лепшы.

### Што-ж мы павінны зрабіць,

каб гэту сувязь усё-ж такі наладзіць? Можа, у чытача наконт гэтага ёсьць якія-небудзь свае меркаваньні, і нават вельмі слушныя, але пакуль яны, на жаль, знаходзяцца на тым баку кітайскага муру, дык няхай будзе дазволена нам, пісьменьнікам, зрабіць сваю прапанову. З мэтаю даць чытачу поўную магчымасьць выказацца на старонках „Узвышша“ аб якасьці таго ці іншага твору, з наступнага нумару ўводзіцца новы аддзел пад назваю „Слова чытачу“, супрацоўнічаць у якім запрашаюцца ўсе, хто толькі чытае нашу часопісь. Мы прасілі-б перш за ўсё выказвацца аб тых нашых творах, якія друкаваліся ў ранейшых нумарох нашай часопісі і якія будуць друкавацца ў далейшым. Але калі чытач выкажа свае думкі адносна артыкульнай часткі нашай часопісі, або адносна агульнай пастаноўкі,—увядзеньне новых аддзелаў, скарачэньне або пашырэньне тых, што існуюць і г. д.,—то гэтыя думкі таксама знойдуць сабе месца на старонках „Узвышша“. Пажаданы таксама і выказваньні адносна тых фактаў беларускай літаратуры, якія зьяўляюцца па-за межамі „Узвышша“. Форму выказваньня няхай кожны выбера сабе сам і такую, ў якой ён найбольш поўна, найбольш дасканала здолее выказаць сваю думку. Магчыма, што ў адным выпадку гэта будзе ўсебаковая ацэнка на 2-3 старонкі, а ў другім—заўвага ў 5—10 радкоў, якая вынікла ў працэсе чытаньня твору,—усё гэта для нас важна і каштоўна. Пісьменьнік тут непасрэдна ўбачыць спажыўца свае продукцыі, уведае, наколькі ён задаволіў яго запатрабаваньні, і што яшчэ трэба зрабіць, каб гэтыя запатрабаваньні задаволіць цалкам. Чытач задаволіць сваю патрэбу выказацца, якая натуральна можа зьявіцца ў кожнага пад уражаньнем ад прачытанага твору; разам з гэтым ён будзе адчуваць задаваленьне ад таго, што і ён сваімі парадамі і заўвагамі выконвае свой абавязак у адносінах да стварэньня беларускай пролетарскай літаратуры, а, можа, для некаторых гэта зьявіцца і пачаткам іх сталай працы ў галіне літаратуры.

Дык слова за Вамі, дарагі чытач. Мы, пісьменьнікі, спадзяемся, што ў наступным нумары наша гутарка ня будзе такою аднабаковаю.

# КУЛЬТУРА МОВЫ

## Лацініка ці кірыліца

*Да проэкту рэформы беларускага альфабэту*

I

Пытаньне разьвіцьця культуры і пашырэньне дасягненьняў яе ў самыя гушчы працоўнага народу выклікае за сабою рэвізію спосабаў гэтага пашырэньня. Найбольш магутным спосабам зьяўляецца друкаванае слова, дякуючы дасканаласьці друкарскае справы з усімі сваймі галінамі. Зьвязана з ёю і пытаньне дасканаласьці альфабэту.

Наколькі сучасныя альфабэты прыстасаваны да перадачы ўцелаішчаных у слова ідэй, наколькі яны прыстасаваны да гукавых асаблівасьцяй моваў паасобных народаў?—Такія пытаньні ўзьнімаюцца на працягу двух апошніх стагодьдзяў бадай ува ўсіх народаў сьвету. З адказаў высьняецца адно: усе альфабэты недасканалыя, яны маюць у сабе лішнія літары, яны ня маюць патрэбных літар; адны і тыя-ж літары ў розных народаў перадаюць розныя гукі. Прычынаю зьяўляецца тое, што альфабэты для большасьці народаў запазычаліся, а не ствараліся.

Пасьля, калі тым ці іншым альфабэтам былі надрукаваны „сьвятыя“ кнігі, рэлігійныя каноны, — адна толькі думка наконт рэформы альфабэтаў уважалася за блюзьнерства. Тут можна прыгадаць ацэнку працы Вука Карадзіча, якую (ацэнку) рабілі расейскія шовіністыя ў асобе А. Гільфэрдынга. — „Копитар побудил его к составлению новой сербской азбуки, которая совершенно отрывалась от кирилловского предания, сохраняя только наружную форму русских букв, но вводя латинскую систему правописания“ і г. д.[1]). Праўда, перадавыя расейскія вучоныя адмяжоўваліся ад такіх ацэнак, але гэта не мяняла самой справы[2]). Бачым, што і ў далейшым большасьць расейскіх вучоных зусім ня ўзьнімала гэтага пытаньня. Проф. Р. Ф. Брандт, рэкомэндуючы лацініку для расейскае мовы, адразу-ж запабягае: „Можно опасаться, как бы в такой реформе не усмотрели (конечно, лишь по смешению внешности дела с его сутью) какую-то измену народности

---

[1]) А. Гільфэрдынг—„Собрание сочин.“, т. II, б. 80.

[2]) Напрыклад,—выступленьне А. Каравелава ў „Филолог. Записках“ 1867, т. I, у арт. „Вук Стефанович Караджич“ датычна гэтага-ж самага А. Гільфэрдынга (імя апошняга не называе)—„Враги Вука и до сих пор трудятся уменьшить его славу и всячески стараются доказать, что Вук вместе с Копитаром действовал против славянских интересов и православия. Один из славистов (славянофилов) выразился, между прочим, таким образом (даюцца прыклады з А. Гільфэрдынга). Но эта наглая ложь уничтожается сама собою“.. і г. д.

и вере"[3]). Што-ж казаць пра ранейшыя стагодзьдзі! Вось чаму вакол самага нязначнага перайначаньня ў альфабэце заўсёды шумавалі вялікія спрэчкі.

З усяе многасьці альфабэтаў у мінулым да нашае эпохі захавалася паранаўча малая іх колькасьць. Пры гэтым адыграў ролю ня столькі прынцып натуральнага адбору, колькі дзяржаўны прас уладаўшых альфабэтамі плямён і народаў. Можна было-б яшчэ спрачацца, які альфабэт лепшы з навуковага боку: грузінскі ці лацінскі, напрыклад; бясспрэчна, што армянскі, грузінскі і грэцкі лепшыя за арабскі. А тымчасам бачым, што ў нашы дні гегемонамі на ўсім сьвеце засталіся фактычна чатыры альфабэты: кітайскі, арабскі, лацінскі і кірыліца. Пра кітайскі, у сваім кірунку вельмі дасканалы альфабэт, я далей гаварыць ня буду, бо яго пашырэньне ўсё-ж абмежавана.

Бадай увесь сьвет быў разьмежаваны паміж гэтымі гегемонамі. Справа не магла заставацца на месцы. Закон змаганьня і разьвіцьця сусьветнае эканомікі і тут прадбачыў ход падзей ад многасьці да стандартызацыі. Яшчэ ў XIX ст. ангельскі вучоны Ісаак Тэйлор сформуляваў гэта такім парадкам: „Лацініка няўхільна пашырае кола свайго уплыву. Кнігі ў азіяцкіх мовах зараз ня рэдка друкуюцца лацінікаю. Ужываньне яе павялічваецца між барбарскіх моваў Афрыкі. Зусім магчыма, што яна можа быць прынята ў Японіі. Немцы ў недалёкай будучыне паставяць на месца готычных літар больш дасканалыя лацінскія ўзоры. Прыняцьце яе ў Расіі зьяўляецца, праўдападобна, толькі пытаньнем часу"[4]).

Мы зьяўляемся сьведкамі таго, што большая частка Тэйлоравай формулы зьдзейсьнена. Сапраўды,—немцы бадай канчаткова перайшлі ад готыкі на лацініку; японцы даўно апрацоўваюць проэкты (яшчэ ў 1886 г. было заснована адмысловае таварыства); між рэшты народаў Азіі і Афрыкі адбываецца цэлая рэволюцыя. Літары Корану замяняюцца там лацінікаю. Гэты процэс адбываецца так у нас, у Саюзе ССР, як і па-за межамі Саюзу. Прынялі лацініку рэспублікі Азэрбайджан, Туркменістан, Узьбекістан, аўтономныя рэспублікі — Татарская, Башкірская, Якуція і г. д.; яванцы; суагелійцы (Афрыка); тагальцы (Філіпінскія выспы); малайцы (яшчэ гадоў 30—40 таму назад); туркі (пачынаючы з сялецьця)... Ёсьць зьвесткі, што лацініку прымае

[3]) Р. Ф. Брандт —„О лженаучности нашего правописания". Филолог. Записки, 1901. т. 1-2, б. 28.

[4]) The Alphabet an accoont of the origin and Development of letters by Jsaac Taylor. v. II, Arpan Alphabets, London, 1883 p., 180 („The Roman alphabet is constantly extending its range"...) Як ставіліся да гэтае думкі расейцы. відаць хоць бы з словаў Д. Ф. Беляева: „Едва ли славяне уподобятся румынам, открывшим в себе прямых потомков римлян Рассчитывать на изгнание кириллицы латиникою можно с таким же правом, как и изгнание латиники кириллицею из славянских стран, в которых господствовала славянская письменность, но была вытеснена латинскою, благодаря политическим обстоятельствам и вероисповедным распрям" („История алфавита и новое мнение о происхождении глаголицы", Казань, 1885 г., бал. бал. 40-41).

і Афганістан. Такім чынам, як быццам, застаюцца без лацінікі толькі кітайцы і народы „кірылічныя“: беларусы, расейцы, украінцы, сэрбы, балгары...

Вядома, што на Беларусі ня толькі ўзьнімаліся гутаркі наконт лацінікі, але і былі спробы друкаваньня ёю кніг і газэт. Не падаю падрабязных зьвестак, бо яны з большага вядомы беларускім чытачом ў гэтым артыкуле не патрэбны.

Вядома такжа, што ў Расіі не аднойчы ўзьнімаліся гутаркі наконт лацінікі, апрацоўваліся адпаведныя проэкты. Найбольш вядомы проэкты Н. Засядко, Каӡінскага, Р. Ф. Брандта і г. д. Маю зьвесткі, што і цяпер, у 1928 г., у Галоўнавуку РСФСР падаӡены новыя проэкты. Частку проэктаў у свой час разглеӡеў акад. Я. К. Грот („Спорные вопросы“... вып. 2., 1876 г.). Прабавалі адмахнуцца ад іх, абвясьціць іх польскай ці якой інтрыгай. Але гэта ня спыніла пытаньня. Зусім магчыма, што яно паўстане на абмеркаваньне, як гаворацць, ува ўсю постаць. Нам, беларусам, трэба загаӡя абгаварыць гэтае пытаньне, выказаць сваё дачыненьне да лацінікі.

Перш за ўсё трэба вырашыць, хто зацікаўлены больш у рэформе альфабэтаў на груньце лацінікі—пролетарыят ці буржуазія? У залежнасьці ад гэтага буӡе вырашана першая частка пытаньня. Другая — навуковая і трэцяя—практычная займуць нас у далейшым.

Ня глеӡячы на тое, што ў Азэрбайӡане, ӡе даволі добра прымаецца лацініка, яна названа Кастрычнікавым альфабэтам, я дазволю сабе падаць думку, што ў сваім сучасным выглядзе рэформа альфабэтаў зьяўляецца вынікам уплыву буржуазнае культуры. Цікава параўнаць з гэтым маім сьцьверӡаньнем тое, што гавораць пра лацініку ў Азэрбайӡане. „И, наконец, новый Октябрьский алфавит—подлинно революционное явление, построенный на латинской основе, передающий все звуки. Алфавит этот, родившись после Октября и рожденный Октябрем, влечет за собою культурную революцию. Он ведет успешную борьбу с арабским и русским, где этот последний был навязан миссионерами“ [5]).

Змаганьне лацінікі з арабскім альфабэтам і кірыліцаю, прадуглеӡанае яшчэ Тэйлорам, зьяўлялася часткаю змаганьня буржуазіі за ўплывы на ўсхоӡе. Не здарма першыя проэкты міжнародных альфабэтаў, апрацаваныя у Эўропе, называліся місіянэрскімі [6]). Але чаму азэрбайӡанскія таварышы думаюць, што змаганьне з расейскім альфабэтам уваходзіць у задачы Кастрычніка,—нам не вядома.

---

[5]) А. Дал—„Алфавит Октября и наша нацпечать“ („Культура и письм Востока“, кн. II, 1928, б. 168).

[6]) Лепшую вядомую мне зводку наконт падобных альфабэтаў і кнігасьпіс можна знайсьці ў лекцыях пра мову проф. Макса Мюльлера („Наука о языке“, Филолог. Зап., 1867, в. 2.). Пераклад яго лекцый выдрукаваны і паасобным выданьнем—„Лекции по науке о языке, читан. в Корол. Брит. Ин-те в 1861 г.“ СПБ, 1865. У Расіі больш тыповым зьяўляецца проэкт „общеславянской азбуки“, апрацаваны А. Гільфэрдынгам у 1871 г (у маім ранейшым артыкуле „Проэкт літар для згукаў дз і дж“—Узвышша № 4 (10)—памылкова надрукавана прозьвішча „Гільфэбрандт“). Апошні вызначаецца тым, што ў ім зусім ігнараваны асаблівасьці беларускія, часткова і іншых славян.

Што такое „пераход на лацініку“ у нашы дні?—Ці існуе такая унівэрсальная „нэйтральная“ лацініка, якая падыхоԫіла-б без жадных дапаўненьняў і перайначаньняў для ўсіх народаў? — Такой лацінікі на сьвеце ня існуе. Існуюць паасобныя Заходня-Эўрапейскія альфабэты на лацінскай аснове, у якіх значная частка аднолькавых гукаў перадаецца рознымі літарамі.

Даволі параўнаць перадачу гуку „ш“ „sz“ у польскім; „š“ у чэскім і літоўскім; „sch“ у нямецкім“; „sh“ (і др. комбінаты) у ангельскім, „ȿ“ у цюрскім уніфікаваным і г. д. Гэта заўважаюць і самі эўрапейцы. Так, француз Вольней гаворыць: „Альфабэтныя мэтады нашае Эўропы сапраўдныя карыкатуры: вялікі лік няправільнасьцяй, нятрапнасьцяй, двусэнсіц, падвойнага ўжываньня тэй-жа літары аказваецца нават у італьлянскім і ў гішпанскіх альфабэтах, але асабліва ў нямецкім, у польскім, у голяндэрскім. Што датычыцца францускага і ангельскага, дык у іх суцэльная блытаніна“ (цытую паводле Грота).

Гутарка можа ісьці толькі наконт таго, каб народам без лацінікі прыняць чый-небуԫь альфабэт з ліку згаданых (нямецкі, ангельскі, польскі...), з усімі яго „якасьцямі“. Бачым, што так справа і адбывалася: беларусы былі ўзялі альфабэт польскі, пасьля часткова перайначылі яго на чэскі капыл. Туркі прынялі зараз альфабэт больш з нямецкім ухілам („ö“). Уніфікаваны цюрска-татарскі альфабэт у нас у Саюзе ССР прыняты з элемэнтамі італьлянскага („c“ для „ч“, а не для „ц“, як у бліжэйшых да нас). Апошняе, між іншым, вельмі мала падставы дае назваць яго Кастрычнікавым, як гэта робяць у Азэрбайԫане...

Як жа нам, уԫельнікам соцыялістычнага будаўніцтва, пагаԫіць пытаньне разьвіцьця агульна люԫкае соцыялістычнае культуры з пярэстасьцю альфабэтаў? Якая розьніца між Амунулам Ханам і будаўнікамі соцыялізму, якія бадай разам прымаюць лацініку на Ўсхоԫе? Ці можна тут апраўдаць такое падабенства выпадковасьцю?

Трэба згаԫіцца, што рэформа пісьма на Ўсхоԫе на падставе лацінікі ў яе сучасным выгляԫе зьяўляецца працягам уплыву на яго з боку буржуазнае культуры заходня-эўрапейскага пахаԫэньня. Адсюль і змаганьне з расейскім альфабэтам, пра якое гаворыць з энтузыязмам А. Дал.

Іншая справа, што адмаўленьне ад літар Корану на Ўсхоԫе і пераход да больш дасканалага альфабэту зьяўляецца цэлай рэволюцыяй, паводле словаў Ул. І. Леніна. Мы вітаем затым і прыняцьце народамі ўсходу лацінікі нават у яе недасканалых формах пастолькі, паколькі гакая рэформа набліжае пісьмо да шырокіх мас, да працоўных. Трэба мысьліць гэту рэформу як пераходны момант да агульналюԫкага, інтэрнацыянальнага альфабэту. Але ўзяць яе ўзорам для сябе мы ні ў якім разе ня можам,—у нашых умовах гэта азначала-б крок назад.

## II

Сьляпое і безрахубнае насьлядаваньне формам буржуазнае культуры, някрытычныя адносіны да іх, —заўсёды наглядаюцца з боку адсталых, рэгрэсыўных элемэнтаў. Некаторыя, як зазначаў пра гэта тав. Кнорын, жадалі-б вонкавы бляск Унтэр-дэн Ліндэн'а і розных штрассэ перанесьці і на Беларусь. Другія мараць пра пабудову ў Маскве мэтраполітэну і небаскробаў, калі сапраўды можна абайсьціся бяз іх [7]. Падобныя-ж імкненьні да знадворнага бляску мы знаходзім і ў гутарках наконт замены нашага сучаснага альфабэту лацінікай (фактычна, як ужо зазначана,—польска-чэскім альфабэтам). Такая рэформа ў нашых умовах зьяўляецца справаю рэакцыйнаю. Такая рэформа адзначала-б не набліжэньне, а адрыў на даволі значны час беларускага працоўнага народу ад культуры. Сучасная наша кірыліца непараўнана лепш прыстасавана да нашае фонэтыкі, чымся польска-чэскі альфабэт. Кожны сьвядомы працаўнік у галіне разьвіцьця пролетарскае культуры павінен грунтоўна разабрацца ў гэтым пытаньні перад тым, як выказвацца за рэформу альфабэту. Няпраўда, што пры дапамозе такіх альфабэтаў як польскі, чэскі і падобныя, мы здолеем дапамагчы справе інтэрнацыяналізаваньня.

Мы імкнёмся да найвялікшага аб'яднаньня народаў усяго сьвету. У гэтай справе вялікую ролю адыграе і альфабэт. Але альфабэт унівэрсальны, інтэрнацыянальны. Ці існуе зараз такі альфабэт?—Агалошана многа проэктаў. Частку іх я ўжо згадваў раней [8]. Найбольш цікавымі зьяўляюцца ўсё-ж толькі два: проэкт акад. Н. Я. Марра і проэкт Міколы Марозава [9]. Гэтыя два проэкты угрунтаваны самым задавальняючым парадкам (ідэя стварэньня ўнівэрсальнага альфабэту).

Я ўжо меў выпадак знаёміць беларускіх чытачоў з асноўнымі думкамі аўтараў проэктаў [10]. Дазволю сабе падаць яшчэ некалькі радкоў з працы Міколы Марозава: „Какими бы точками, черточками, колпачками и крючками мы ни прикрывали наши случайные азбучные значки, мы будем так же путаться в этои области, как путались и в арифметике, пока каждый народ пытался без всякой системы изображать числа различными буквами своего алфавита“ [11].

Але, на вялікі жаль, абодва проэкты нашых выдатных сучасьнікаў нельга прызнаць задавальняючымі і з боку формы. Тлумачыцца гэта тым, што проэкт Міколы Марозава дае зусім новыя знакі, якія

[7]) Наконт мэтраполітэну ў Маскве гл. „Листок РКИ“ у „Правде“ за 24 лістапада 1928 г.

[8]) Гл. заўвагу 6. Вядомы сыстэмы Лепсіуса, Кастрэна і г. д., якія часткова карысталіся ў лінгвістыцы як міжнародныя „стандартныя альфабэты“. Проэкт Лепсіуса, зложаны ім у 1852 г., таксама багаты на розныя кропкі, хвосьцікі і г. д.

[9]) Мікола Марозаў—„Христос“, т. III, разьдзел „Ферменты человеческой мысли и культуры“ і дал.; акад. Н. Я. Марр — „Абхазский аналитический алфавит“. Ленинград, 1926 г.

[10]) Мой артыкул „Проэкт літар для згукаў „дз“ і „дж“ (Узвышша № 4 (10) 1928 г.)

[11]) Христос III б. 107.

на практыцы будуць уносіць блытаніну, а проэкт акад. Н. Я. Марра якраз і багаты на тыя „кропачкі, рысачкі і кручочкі“, пра якія гаворыць Мікола Марозаў. Ізноў паўтараю—пры недасканальнасьці самых проэктаў застаецца ў сіле надзвычайна цікавае угрунтаваньне тэорытычнае, з якім варта азнаёміцца беларускім чытачом.

Усе ранейшыя альфабэты (проэкты) мелі ў сабе адін грунтоўны недахоп: яны ня былі вольны ад імпэрыялістычных тэндэнцый (сьвядомых ці несьвядомых). Ня спыняючыся на гэтым, я папрабую вызначыць тыя вымогі, якія мы павінны ставіць пры стварэньні унівэрсальнага альфабэту. Якія пэрспэктывы разгортваюцца перад пісьмом наогул?

Ува ўсіх культурных краінах поруч з нашым пісьмом звычайным разьвіваецца і будзе няўхільна разьвівацца стэнографія. Гэта пакуль што другая стадыя разьвіцьця нашага пісьма.

У Нямеччыне ўжо праведена спробнае выкладаньне стэнографіі ў пачатковых школах, якое дало добрыя вынікі. 6-7-гадовыя дзеці навучыліся пісаць пры дапамозе стэнографіі на працягу 3—4 месяцаў, добра чытаючы напісанае. Гэта дазваляе думаць, што ў Нямеччыне ад спробы пярэйдуць да практыкі. Гэты прыклад паказвае, якое вялікае значэньне і пэрспэктывы мае стэнографія.

Такім парадкам, стварэньне зусім новага паводле свайго складу альфабэту зьяўляецца не рацыянальным (гэта адносіцца і да афармленьня проэкту Міколы Марозава).

Як павінен завяршыцца першы этап, этап існаваньня гегемонаў (арабскага, лацінікі, кірыліцы)? Ці мы прымем які-небудзь альфабэт (ангельскі, польскі, нямецкі...) і будзем дамайстроўваць да яго новыя знакі, кручкі, хвосьцікі і г. д., ці мы адшукаем які-небудзь іншы спосаб?

Пры стварэньні сучаснага унівэрсальнага альфабэту мы павінны кіравацца тымі палажэньнямі, якімі кіруецца пролетарыят пры правядзеньні нацыянальнае політыкі: увага да мясцовых асаблівасьцяй на справе. Наогул жа, мы можам вызначыць некаторыя пункты практычнае праграмы.

1. „Каждому особому членораздельному звуку языка должен соответствовать и особый письменный знак: сколько окажется таких звуков, столько же должно быть и знаков или букв, не более и не менее.

Каждый знак (т. е. каждая буква) должен служить к изображению только одного определенного звука, а никак не двух или нескольких, ни отдельно взятых, ни соединенных“ (акад. Я. К. Грот, „Спорные вопросы“..., б. 121) [12].

[12]) Гэты прынцып ня новы, і ен спатыкаецца так у даўнейшых, як і у сучасных дасследчыкаў. Але сучасныя дасьледчыкі больш за усе раяць яго другім, ня ўжываючы самі. Так, акад. Е. Ф. Карскі: „Когда для того или другого языка, не имеющего еще письма, изобретается в настоящее время азбука, то все внимание обращают на то, чтобы для каждого звука, насколько он уловим ухом, был дан особый знак, слова передают строго фонетически. Так поступали в большинстве случаев в старину, когда сумели уловить в слове членораздельные звуки“ („К вопросу о реформе русской орфографии“, РФВ 1904, № 3 и 4, б. 157)

2. Для дасягненьня гэтага ў аснову унівэрсальнага альфабэту прымаюцца тыя літары, якія зьяўляюцца з большага уніфікаванымі між усіх эўропейскіх народаў (a, b. d, e...).

3. Для павялічэньня рэзэрвовых літар праводзіцца дыфырэнцыяцыя гых знакаў, якія калісьці былі злучаны ў штучнай лацінскай мове—па два на адзін гук (A + a, B -b, D -d, E+e, G+g, H -h, M--m, N--n...)[13].

4. Уніфікуюцца, паводле прынцыпу большага пашырэньня, „розначучныя" літары (напрыклад, -j--й для ўсіх народаў, а не „ж" для французаў, „дж" для англьцаў—як цяпер і да т. п.).

5. Для тых гукаў, якія ня маюць аднае літары, а перадаюцца цяпер многімі спосабамі (гл. заўвагу дагычна „ш" у эўропэйскіх альфабэтах) прымаецца асобна літара.

6. Народы не эўропейскія, якія маюць свае альфабэты, уносяць да такога унівэрсальнага альфабэту свае спэцыфічныя літары Напрыклад, армяне або грузіны ўносяць для сваіх гартанных адпаведныя літары, знаёмыя ім усім, замест стварэньня новых, выбіраючы лепшыя адменьнікі

Пададеныя мною прынцыпы не зьяўляюцца выключна новымі. Вядомыя нам рэформатары і створцы альфабэтаў заўсёды трымаліся гэтакіх прынцыпаў. Мы ведаем падобнае пра Мэсропа (у армян і грузін), пра Ульфілу (у готаў), пра Кірыла (у славян). Пра апошняга (і Мэфодыя) нямецкі вучоны Шлёцэр яшчэ ў канцы XVIII ст. пісаў вось што: „Дык вось вітаю вас, несьмяротныя вынаходцы славянскага пісьма. Вы першыя паспрабавалі грубую мову, якая мае шмат толькі ей аднэй уласьцівых гукаў. узяць так бы сказаць з вуснаў народу і пісаць грэцкімі літарамі. У гэтай справе вы зрабілі як людзі, вялікім розумам надароныя і для кожнага паасобнага гуку, якіх грэк ня меў у сваёй мове. стварылі вы новыя асаблівыя знакі, або літары. Які нікчэмны ў параўнаньні з вамі эльзаскі чарнец Готфрыд, ці хто-б ён ні быў той немец, які асьмеліўся першы пісаць у сваёй мове, але для гэгага толькі пераняў няволячынна лацініку" („Нэстар", 1).

Людзі сярэдніх і ранеишых вякоў знайшлі даволі досьведу, каб зрабіць альфабэт больш менш дасканалым. Няўжо мы цяпер будзем следаваць прыкладу эльзаскага чарняца Готфрыда, каб „памяняць быка на індыка"?

Толькі шляхам увагі да мясцовых асаблівасьцяй, пашырэньня рамак лацінікі за кошт іншых альфабэтаў здолеем мы стварыць сапраўды унівэрсальны альфабэт. Няма чаго баяцца якой пярэстасьці. Хіба будзе дрэнным тое. што замест стварэньня новае літары для спэцыфічнага грузінскага „т", напрыклад. мы возьмем грузінскую прыгожую адшліфованую вякамі літару ტ? Мне здаецца, што адказ можа быць толькі адзін--для справы больш карысны.

[13]) Гэта дыфэрэнцыяцыя часткова праведзена у проэкце Курдкага альфабэту (И. Марогулов. „Курдский алфавит",—Культура и письм. Востока, кн. II, б. б. 43 57). Але аўтар проэкту скарыстаў вызваленыя у рэзэрву літары ня зусім, на мой пагляд правільна - не для паралельных фонэм, а для зусім далёкіх

Ці згодяцца з такімі прынцыпамі буржуазныя краіны? Бязумоўна, не. Ведаючы хібы сваіх альфабэтаў, яны ўсё-ж гатовы рэкомэндаваць іх другім народам. Але прыняць хоць невялічкія зьмены ў свой альфабэт ня хочуць. Гэта зробіць пролетарыят, калі возьме ўладу ў свае рукі на ўсім сьвеце. Такі альфабэт мы назавём Кастрычнікавым.

## IV

Як стаіць справа ў нас. у беларусаў? Ці нам трэба ўзьнімаць самое пытаньне, ці можна пачакаць? Перш за ўсё праглядзім шлях разьвіцьця беларускага альфабэту.

Даўнейшыя русы, якія зьяўляліся нашымі продкамі, жылі на Палесьсі і вышэй да Смаленску, мелі сваё самабытнае пісьмо [14]). Узор такога пісьма дадзены арабскім пісьменнікам X ст. Ібн эль-Нэдым'ам, але да гэтага часу не прачытаны. Ёсьць падставы думаць, што гэта была т. зв. глаголіца. З пашырэньнем хрысьціянства грэцкага вызнаньня, было ўведена грэцкае пісьмо ў славян і на Беларусі. Адбылося гэта каля 855—862 г. г., пра што ёсьць шмат розных гістарычных матар'ялаў [15]). Рэформатар пісьма, эмісар грэцкага імпэратара і патрыярха Кірыл да грэцкага альфабэту ўзяў з даўнейшага славянскага літары для тых гукаў, для якіх у грэцкай азбуцы ня было адпаведных знакаў (ж, ш, ч, ц і г. д.). Такім чынам і Беларусь атрымала грэцкае пісьмо, так званае царкоўна-славянскае, або кірыліцу. Глаголіца, відаць, доўга змагалася за сваё існаваньне, але ўсё-ж была зьнішчана.

Царкоўнае пісьмо панавала да вынаходкі кнігадруку. Пасьля гэтага, на Беларусі пачаў выпрацоўвацца свой самабытны шрыфт.

---

[14]) У проф. Любаўскага- „літоўска-рускія акты абазначаюць імем „Русь“ воласьці. якія ляжаць па сярэдняму Дняпру і яго прытоках: Сажу. Бярозе і ніжняй Прыпяці“ („Обласное деление и местн. управл. Литовско-русского государства, б. 12).

[15]) Усё узглядна... Дата паказана. але усе-ж яна ня грунтоўная... Бадянскі, у якога сабраны найбольшы фактычны матар'ял („О времени происхождения славянских письмен“. 1856) гаворыць так: „Рассматривая все показания об изобретении или составлении славянских письмен. прежде всего видим. что ни одного из них нет в строгом смысле современного, т. е. такого. которое, прошедши от современника дошло бы к нам. если не в подлиннике. по крайности, в списке своего века“ (б. 111). Шмат матар'ялу сабрана у акад. Ягіча —„Рассуждение старины о церковно-славянском языке“ („Исследов. по русскому языку“. т. 1, б. б. 289—1023) Датычна глаголіцы і кірыліцы. іх так сказаць узаемаадносін добрага, бесстароньняга матар'ялу бадай няма, бо расейскія вучоныя імкнуліся давесьці прыорытэт кірыліцы. адпаведна асьвятляючы матар'ял. З гэтага боку тыповай зьяўляецца праца Бялчева („История алфавита и новое мнение о происхождении глаголицы“, Казань 1885), дзе шаноўны профэсар ажварыцее. каб давесьці. што глаголіца ня была раней за кірыліцу. . Апрача таго, усе высілкі іх. сьледам за Тэйлорам, былі накіраваны на тое, каб давесьці паходжаньне многіх літар глаголіцы ад бізантыйскіх крыніц Тымчасам, чена ўсходнае паходжаньне многіх літар глаголіцы Апошняе зазначыў і Усев Мільлер у арт „К вопросу о славянской азбуке“ (журн МНП. 1881. март). у чым яму супярэчыў акад. Ягіч („Четыре критико-палеогр. статьи“. Приложение к отчету о присуждении Ломоносовской премии за 1883 г.). Новыя матар'ялы (экспэд. акад Радлова - орхонскія матар.) пакуль што не разабраны. хоць маюць шмат цікавага для высьветленьня гэтага пытаньня.

з набліжэньнем да лацінскага паводле формы. Бачым, што найбольш яскрава аформлена гэта ў выданьнях выдатнага гуманістага нашага Францішка Скарыны.

Далейшы шлях—надзвычайна пярэсты. Царква, калі яна папала ў залежнасьць ад маскоўскіх мітрапалітаў, ужывала шрыфт царкоўнаславянскі стары. Пры параўнаньні апошняга з шрыфтам Скарынавым можна падумаць, што ён быў за стагодьдзі два-тры да Скарыны, а не наадварот, як фактычна...

Тым часам, разьвіцьцё шрыфту ішло сваёй чаргой. У рукапісах, асабліва сьвецкіх, выпрацоўваўся свой стыль, які пераходзіў у друкаваныя кнігі[16]).

Існасьць яго зьмяшчалася ў набліжэньні вонкавага выгляду кірылічных літар да лацінскіх (акругласьць іх). Зарэгістраваны на Беларусі яны аж ад 1630-х гадоў[17]).

Мала таго, былі нават спробы перадачы беларускіх слоў лацінікай з захаваньнем кірылічных літар для спэцыфічна беларускіх гукаў[18]).

Выдатны беларускі вучоны Гальляш Тодаравіч Капіевіч, жывучы ў Амстэрдаме, ужыў гэтую акругленую кірыліцу для друкаваньня тытульных аркушаў у сваіх кнігах, прызначаных для пашырэньня ў Расіі. Пасьля ён-жа зложыў проэкт рэформы ўсяго альфабэту, т. зв. гражданку, даў гэты проэкт Пятру Вялікаму, калі той быў у Амстэрдаме. Апошні загадаў адліць шрыфт паводле гэтага проэкту. Доўгі час у Расіі гэты шрыфт так і зваўся беларускім[19]).

Паколькі на Беларусі пра Капіевіча бадай што нічога не вядома, я дам тут невялічкую даведку.

Матар'ялы, якія вядомы да гэтага часу, дазваляюць аднавіць воблік гэтага выдатнага навуковага і культурнага дзеяча XVII і пачатку XVIII ст. ст.—Гальляша Тодаравіча Капіевіча (або, як ён зваў сябе часам—Капіеўскага), заслугі якога ў галіне рэформы альфабэту замоўчвае

---

[16]) На аснове рукапіснага быў адліты адмысловы шрыфт, якім выдрукаваны „Літоўскі Статут". Гэты шрыфт можа быць з посьпехам скарыстаны і цяпер у якасьці „беларускага курсыву".

[17]) В. Ластоўскі—„Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі". Коўна, 1926". -Зьмяшчаючы на б. 571 агалоўную балону з кніжыцы „Ефимеріос", друкаванай у Вільні у 1652 г., піша: „У агалоўках Віленскіх друкаў ужо ад 1630-х гадоў пачалі паяўляцца славянскія літары, закругленыя і стылізаваныя на спосаб літар лацінскіх. Гэткі агаловак і у кнізе „Ефимеріос" (Далейшая заўвага яго ня зусім дакладная).

[18]) Агалоўная балона у рукапісе „Рымскія дзеяньні", які перадрукованы „Общ. любит. древне-русск. письм." (СПБ, 1877—78 г.). Гаворачы пра гэты зборнік наогул, В. Ластоўскі (б. 581 згаданай працы) зазначае, што „ў славянскай мове вышэй згаданага перадруку" спатыкаюцца беларускія словы у той час. калі П. П. Вяземскі (Приложение V к отчету ОЛДП за 1877 г.) выразна гаворыць пра беларускае пахаджэньне усяго зборніку (...Издаваемый текст Римских деяний писан на белорусском наречии, называемом нередко в наших рукописях то польско-русским, то литовским, то славяно-польским").

[19]) Гэта знаходзім і у некаторых пазьнейшых дасьледчыкаў. Так, В. Я Адарюков у сваёй працы „Книга гражд. печати в XVIII в.", 1926 г. (б. 242) зазначае: „Самое название ее не было устойчиво. Ее называли то амстердамскими литерами, то гражданской, то белорусской азбукой".

расейская навука. Прычынаю, мабыць, зьяўляецца тое, што Капіевіч быў протэстантам, а больш сьцісла—„духовнаго чину веры реформатския амстердамскаго собору". М.. І. Шчалкуноў, у сваёй гісторыі кнігадруку, зазначае: „поручить протестанту составление книг для исконно-православной России мог только Петр, и это было, вероятно, по тому времени целой революцией". Для таго, каб уявіць сабе ўсё значэньне Гальляша Капіевіча, трэба каротка перагледзець асноўныя моманты яго працы.

1. Ён вучыў розных навук расейцаў, якіх для гэтага пасылаў па-за межы Пётр Вялікі. Між іншым, пра гэта гаворыць сам Капіевіч: „Известно есть твоему пресветлейшему царскому величеству, колико я князей и дворян твоего пресветлейшего царского величества учил боле году, а за тое не желал от них денег, аще же трудился, их ради, днем и нощию. Вси же поехали и спасибо не сказавши за учение, но сопротивно мои ж еще глобусы четыре, не заплативши, завезли: два—князь Осип Иванович Щербатов тые глобусы, которые были на индейском дворе. Два глобуса завезл Семен Андреевич Салтыков за тое, что я его долгое время учил и трудился его ради"... [20]).

2. Ён першы ўжыў індыйскія,—як іх завуць арабы, або арабскія, як іх завуць эўропэйцы,—цыфры на адмену ўжываных да таго літарных (1699 г.).

3. Ён першы даў расейцам падручнікі для вывучэньня іншакраёвых моў (лексыконы).

4. Ён першы пералажыў у расейскую мову (з вялікаю колькасьцю беларусізмаў) клясычныя творы (байкі Эзопавы, „Бой жаб і мышэй" Гомэра) і надрукаваў іх...

5. Ён выдрукаваў вялікую колькасьць сьвецкіх кніг для Расіі.

6. Ён злажыў проэкт гражданкі, якую пасьля мы карыстаем на працягу значнага часу...

Вось самы сьціслы агляд. І за ўсё за гэта—бадай поўнае забыцьцё. Калі эўропейскія вучоныя катэгорычна сьцьвярджаюць: „Jn the reign of Peter the Great the old Russian alphabet was reformed by Elias Kopievitch"[21]), дык зусім ня тое ў расейскіх крыніцах. Там усюды „возможно, что некоторое отношение имел", „нужно предполагать, что не без некоторого участия", „какой-то польский выходец" і г. д. У дачыненьні да Капіевіча царска-расейскай навукі поўнасьцю апраўдалася пагаворка: „Служы пану верне, а ён табе... верне"...

На нашым абавязку ляжыць аднаўленьне перад сучаснасьцю аўтарства Капіевіча ў рэформе гражданкі [22]).

---

[20]) Кабинетные дела, II, кн. I, л. 378.

[21]) Taylor, v. II, p. 195—„за царом Пятром Вялікім стары расейскі альфабэт быў рэформаваны Гальляшом Капіевічам"..

[22]) Папярэдні агляд яго працы, падрыхтаваны мною да друку, будзе агалошаны на балонах Узвышша. Цікава, што да гэта часу ня знойдзен портрэт Капіевіча А мо і ня будзе?

Такім чынам, нават у часе свайго заняпаду беларуская культура здолела зрабіць вялікі ўплыў на культуру славянскіх народаў (грамадзянку прынялі былі расейцы, украінцы, балгары, сэрбы). З поўным правам узялі яе, дапоўненую некалькімі літарамі, беларусы, адраўэнцы нашаніўскага кругабегу.

У чым жа быў сэнс рэформы Гальляша Капіевіча? Бадай сучасьнік рэформы В. Трэд'якоўскі гаворыць пра гэта такім парадкам:

„Самая першая і самая галоўная прычына да вынаходкі прыгожага сучаснага „гражданскага" друку было жаданьне, каб нашым літарам быць падобным, колькі магчыма, на літары сучаснага, а не готычнага лацінскага альфабэту, гэта-ж для большае прыгажосьці нашага друку і для таго, што такая фігура літар ёсьць больш ёмістай і прыгожай у друкаваньні: бо што ня мае іншай, больш грунтоўнай, ніж гэта, прычыны, гое паводле праўдівага і сталага розуму толькі іншую адну прычыну мае, для чаго яна ёсьць. Але вынаходка сучасных нашых „гражданскіх" літар адну тольма вышэй згаданую прычыну мае, у зьвязку з чым яна пачата была і скончана: больш ясна а грунтоўна над сьвядоцтвы даводзіць гэта сучасная іхная фігура. якая, наколькі магчыма, падобіцца да лацінскай фігуры, а ад грэцкіх усёй „статью" аддаляецца, якою ўвесь наш стары альфабэт зложаны, цяпер у царкоўным тольма друку ужываны" [23]).

Гэта-ж самае гаварылі пасьля і іншыя расейскія вучоныя. Напр., акад. Я. К. Грот зазначае: „Преобразование церковной азбуки для гражданского письма ограничилось почти единственно упрощением и округлением начертаний,—сближением их с латинскими буквами. так что азбука сделалась приятнее для глаз и удобнее для скорописи" [24])

У той час большага зрабіць нельга было, бо і гэтая рэформа прымалася дрэнна.

У далейшым беларусы не маглі палепшыць і ўдасканаліць свой альфабэт, бо гэтаму перашкаджала шмат прычын. У першую чаргу,— страшэнная русіфікатарская палітыка царскага часу, якая баялася мясцовых асаблівасьцяй, каб „провінцыя ня стала разумней за мэтраполію". Гэты страх заўважыў быў нават князь Вяземскі, які ў сваім творы адным сказаў русіфікатарам: „Того и гляди, вы будете ставить в вину окраинам вашим, что у них растут тополи и каштаны и для вящего однообразия захотите приневолить их расса ивать у себя побольше ельника и веглы" (Собр. соч. VIII, 319).

Другою прычынаю была беднасьць на культурныя сілы, якіх ледзьледзь выстарчала на выконваньне „бягучае" працы. Цяпер, калі мы маем тысячы беларускіх настаўнікаў, сотні навуковых працаўнікоў, стан рэзка зьмяняецца, мы можам паступова ўзяцца і за гэтую важную справу.

[23]) В. Тредьяковский —„Разговор между чужестранным человеком і россійскім об ортографіі старінной і новой". СПБ. 1746.

[24]) Спорные вопросы.

## V

Трэба прызнаць, што сучасны беларускі альфабэт не зьяўляецца цалкам задавальняючым, але трэба адначасна зазначыць, што прыняцьце замест яго польска-чэскага альфабэту, як гэта мелася на ўвазе некаторымі культурнымі працаўнікамі нашымі, не зьяўляецца мэтазгодным.

Адначасна трэба констатаваць, што мы да гэтага часу ня маем дапасаванае да беларускае мовы сыстэмы стэнографіі.

---

Што мы павінны зрабіць у першую чаргу?

У першую чаргу мы павінны скласьці дасканалы гукавы альфабэт беларускае мовы.

Маючы яго, мы павінны неадкладна ўдасканаліць наш сучасны альфабэт дабаўленьнем новых літар ці новых знакаў.

Так, напрыклад, стаіць пытаньне пра асобныя літары для зычных згукаў „дз“ і „дж“, для галосных згукаў „ўо“. „іе“, для т. зв. падвойных мяккіх (ньн, сьс, дзьдз...)

Для першага выпадку запрапанавана некалькі проэктаў[25]).

Другі—датычна галосных згукаў,—належыць абмеркаваньню.

Трэці можа быць вырашаны вельмі лёгка і хутка аднаўленьнем спосабу, які практыкаваўся для гэтага ў старых беларускіх выданьнях і рукапісах. Адпаведная зычная ставілася над радком, пад знакам доўгасьці. Гэтае-ж самае мы можам зрабіць і цяпер, становячы толькі літару ў радок.

Сапраўды, гэты спосаб: а) дасьць экономію ў друку (замест трох літар ува ўсіх выпадках і пяцёх для дз—дзьдз—адна), б) зробіць лягчэйшым для чытаньня, в) усталіць напісаньне з боку навуковага, бо мы маем тут фактычна справу не з двума зычнымі, а з працяжным мяккім зычным; гэта працяжнасьць і азначаецца прынятым на ўсім сьвеце знакам доўгасьці[26]).

Роўналежна з упарадкаваньнем свайго сёньняшняга альфабэту мы павінны ўзяцца за складаньне проэкту унівэрсальнага альфабэту, прыстасаванага да беларускіх умоваў.

---

[25]) Зводка іх дадена ў маім артыкуле „Проэкт літар“ і г. д., які я згадваў ужо.

[26]) Зразумела, што я падаю толькі некаторыя выпадкі. Іхную колькасьць можна павялічыць. Напрыклад, наконт „ё“. Непараўнана лепш для нашага сучаснага альфабэту падышла-б „о“, як у нямецкім (он, лон, Лондон..), чымся створанае Карамзіным „ё“. Першы раз ужыта яно ў зборніку „Аониды“, кніжка II, 1797, Масква, у вершы „Опытная Соломонова мудрость“. б. 106.

„Там бедный проливает слёзы *)  
В суде невинный осужден,  
Глупец уважен и почтен;  
Злодей находит в жизни розы“...

*) Буква *е* с двумя точками наверху заменяет „іо“.

Ад таго часу яно вельмі мала ужываецца ў расейцау, а перанята намі. Наўдачу ці можна апраўдаць яго...

Падставы для складаньня унівэрсальнага альфабэту мною ўжо дадены.

На справе будзе праверана іхная жыцьцёвасьць ці няжыцьцёвасьць. Дапоўню толькі ўсё сказанае некаторымі меркаваньнямі.

Добра, калі ў новым альфабэце можна будзе абыйсьціся без вялікіх літар. Наяўнасьць іх нічым не апраўдана. Меркаваньне пра тое, што вялікія літары існуюць для паказаньня перапынкаў—ня грунтоўнае. Навошта існуе кропка?—Калі кропка не здавальняе нас у дадзеным выпадку з прычыны свайго малога разьмеру, можна будзе павялічыць яе, давесьці да велічыні Скарынінскай кропкі.

На Беларусі ўжо былі проэкты такога кірунку; у некаторых народаў абыходзяцца без вялікіх літар увесь час (альфабэты яўрэйскі, арабскі, грузінскі, лацініка ў узьбекаў, у якутаў і г. д.).

У кожным разе. трэба. бязумоўна, зьнішчыць падвойнасьць у гэтым кірунку (на адзін гук дзьве розныя літары), што дасьць магчымасьць увесьці некалькі новых літар для патрэбных гукаў.

Бязумоўна трэба адмовіцца ад сыстэмы „хвосьцікаў, кручочкаў“ і г. д. Для нашых спэцыфічных гукаў, трэба ўвесьці нашы літары (ды яны ня толькі нашы). З гэтага боку мы не павінны рэгрэсаваць.

Так мусіць стаць справа датычна ч, ш, ц, ж, дз, л і г. д.

Сапраўды, возьмем ізноў прыклад на „ш“. Я паказваў, як пярэста азначаецца гэты гук у заходніх альфабэтах.

| Польскі | Чэскі, літоўскі, лужыцкі і г.д. | Ангельскі | Ангельскі у канчатках—tion | Нямецкі | Нямецкі перад „р“ і „t“ | Францускі | Цюркі | Цюркскі проэкт | Уніфікав. цюркскі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| sz | š | sh | t | sch | s | ch | ʒ | ş | ş |

Рысунак № 1 Азначэньне гуку „ш“ у лацінізаваных альфабэтах.

Тымчасам, бадай ува ўсіх народаў сьвету ён азначаецца ўжываным і ў нас знакам. Зразумела, што мы павінны ўзяць яго, а не які

ЛІТАРА „Ш“ У АЛЬФАБЭТАХ




Рысунак № 2. Азначэньне гуку „ш“ у не лацінізаваных альфабэтах.

штучны знак. бо чым можна апраўдаць разнабой лацінізаваных альфабэтаў чым апраўдаць той ці іншы выбар.

На практыцы мы бачым, што менавіта літара „ш“ ужо скарыстана ў некаторых проэктах, як, напр., у акад. Н. Я. Марра („Абхаскі альфабэт“) і ў Н. І. Марагулава (Курдкі альфабэт, гл. заўвагу 13)—праўда, без мотывіроўкі. Сапраўды, чым лепш зрабілі у Азэрбайджане калі для „ш“ былі ўзялі ў першы свой проэкт „з“ з кірыліцы (фактычна пастаўленае бокам „ш“)?[27])

Такім-жа чынам можна разабраць усе цікавыя для нас літары-разнабой у „лацініках“ і уніфікаванасьць у рэшце альфабэтаў сьвету. Мне здаецца, што справа зусім ясная: усе матар‘ялы гавораць за нашы знакі.

Асаблівай пярэстасьці ад гэтага ня будзе. Прыгадайце беларускія спробы XVI—XVII ст. ст., якія рабіліся паводле аналёгічных выказаных мною правіл.

Пара нам стварыць і сваю сыстэму стэнографічную. Я зазначаў ужо наконт досьледаў з ёю ў Нямеччыне. Дакуль жа мы будзем заставацца ад культурных народаў? Праводзячы культурную рэволюцыю, мы павінны праводзіць яе ўва ўсіх галінах нашага жыцьця, выяўляючы больш рухавасьці і ініцыятывы.

**Уладзімер Дубоўка**

24/XI 1928. Масква

---

# Пра словы, выводныя ад „грамада“

У беларускай мове ёсьць тры словы—назоўнікі, выводныя ад слова „грамада“—„грамада“, „грамадзянства“ і „грамадзтва“, якія найчасьцей ужываюцца для абазначэньня аднаго і таго-ж паняцьця „Socies“ (расійскае „общество“). Тым-жа часам, нам здаецца, ёсьць некаторыя падставы разьмежаваць значэньні гэтых слоў, надаўшы кожнаму сьціслага, акрэсьленага сэнсу і выкарыстаўшы іх, такім чынам, больш мэтазгодна як тэрміны для некаторых больш-менш блізкіх да вышэйзагаднага паняцьцяў.

1. Слова „грамада“, якое ўжываецца і ў народнай мове, не перадае там таго паняцьця, якое абазначаецца вышэйзгаданым „Socies“, а хутчэй тое, якое абазначае расійскае слова „мир“ ці „община“. Як апошняе слова, яно абазначае сукупнасьць, просты збор роўнапраўных і вольных, самастойных і самадзейных асоб у іхным сужыветве (што выражаецца і вузка зборнаю формаю слова—падобна, як „чарада“ і інш.) і ў такім сэнсе менавіта і павінна ўжывацца у нашай мове (г. зн. у сэнсе расійскага „община“).

2. Новатвор „грамадзтва“, які ня дужа даўно зьявіўся ў нашай мове, нам здаецца, найбольш падыходзіць да абазначэньня самога тэрміну „Socies“ („общество“), выяўляючы з сябе ўжо больш вышэйшую, у параўнаньні з „грамада“, ступень зборнасьці (што выражаецца суфіксам „ства“—падобна, як „сялянства“=грамадзтва сялян і інш.).

3. Слова „грамадзянства“ зьяўляецца выводным не ад „грамады“ непасярэдня, а ад „грамадзянін“, на што паказвае суфікс „ан“ („ян“). З тае прычыны, што слова „грамадзянін“ абазначае ў нашай мове тое-ж, што расійскае слова „гражданин“, дык і выводнае ад яго „грамадзянства“ павінна сэнсам

[27]) Датычна гэтага гл. „Матар‘ялы пасяджэньня камісіі па уніфік. альфабэтаў“ („Культура и письменность Востока“, кн. 1-я, М. 1928 г., б. б. 121—124), на якім проэкт нашага „ш“ у лацінку абаранялі казанцы.

адпавядаць выводнаму ад „гражданин"— „гражданство", а ні ў якім разе не „общество".

У сувязі з вышэйсказаным паўстаюць яшчэ некаторыя пытаньні—пра разьмежаваньне прыметнікаў ад згаданых слоў, пра ўтварэньне ад іх злучаных слоў і інш. Пастараемся разьвязаць і іх, выходзячы з пададенага.

1. Прыметнікам ад „грамада" будзе слова „грамадавы", якое і будзе передаваць тое, што па-расійску абазначаецца прыметнікам „общинный"; ад „грамадтва" — „грамадкі" („общественный"); ад „грамадзянства"—„грамадзянскі" (рас. „гражданский").

2. Падобна-ж утвараюцца і адцятыя выводныя назоўнікі: ад „грамада"—„грамадавасьць" („общинность"), ад „грамадтва"— „грамадкасьць" („общественность"), ад „грамадзянства"—„грамадзянскасьць" („гражданственность")

3. Злучаныя словы, выводныя ад вышэй прыведзенных, утвараюцца непасярэдня ад іхнага кораню—„грамад": „грамадазнаўства" („грамад"—корань, „а" злучальны галосны, „знаўства"—другая частка злучанага слова).

4. Падобна да гэтага можна ўтварыць і слова для перадачы тэрміну палітычнай эканоміі, які парасійску перадаецца словам „обобществленный",—„аграмадзаны".

5. У народнай мове нам здаралася чуць яшчэ адно слова, выводнае ад „грамада"— „грамадзейскі" (падобна, як „кампанейскі") у сэнсе расійскага „общительный". У гэтым сэнсе можна ўвесьці яго і ў літаратуру (і выводныя ад яго словы—„грамадзейства" і да г. п.)

Прыняўшы ўсе вышэйпералічаныя разьмежаваньні мы дапаможам паглыбленьню культуры мовы, ужываючы словы найбольш мэтазгодна і ўнікаючы непатрэбнай таўталёгіі.

# Пра сынтаксычныя конструкцыі з словам „кіраваць"

Пры перакладах з расійскае мовы ў нас звычайна перадаюць словам „кіраваць", расійскае „управлять, править"—і зусім слушна. Ня добра толькі, што разам з такім перакладам мэханічна пераносяць у нашую мову чужую ёй у гэтым выпадку *сынтаксычную конструкцыю з творным склонам*, тымчасам, як у нас ужываецца тут вінавальны склон (па нашаму „кіруй **каня**", а ня „кіруй канём"; парасійску—„управляй, правь **лошадью**"). Такім чынам, пабеларуску слова „кіраваць" трэба ўжываць за ўсёды з вінавальным склонам: кіраваць „дзяржаву, краіну, гаспадарку" і да г. п., *а не „дзяржаваю, краінаю, гаспадаркаю"*, што будзе парасійску.

# Выкінуць недарэчныя „адносныя" словы

Словы *„адносна, адносіны"* і да іх падобныя, няўдала ўтвораны ў нашай мове на ўзор расійскіх і зусім чужыя і дзікія ў ёй, набываючы магчымасьць недарэчнага азмысьленьня, „як быццам нешта ідзе ад носу", як правільна зазначыў адзін наш мовазнаўца. Бытаваньне іх у беларускай мове толькі засьмечвае яе, тым больш, што яны лёгка могуць заменьвацца і абыходзіцца нашымі беларускімі словамі.

1. Слова „адносна", калі яно зьяўляецца ў сказе дапаможным, найлепш можа замяняцц зваротамі: „што да", „наконт" і да г. п. (*прыкл. „адносна земляўпарадкаваньня* мы маем наступныя дасягненьні"—„што да земляўпарадкаваньня, дык мы маем"..., „Чуткі адносна вайны"—„Чуткі наконт вайны" і г. д.). Калі-ж яно выражае самастойнае паняцьце (процілежнае паняцьцю „абсолютна"), дык у такім разе лепш ужываць больш прыгожае слова „узглядна" (адсюль і „адноснасьць"—„узгляднасьць", „тэорыя ўзгляднасьці" і г. д.).

2. Некаторыя нашыя газэты ўжо даўно і, трэба сказаць, дужа ўдала ўжываюць замест „адносіны" слова „дачыненьне", што

трэба было-б перанесьці і ў больш шырокае ўжываньне, выцесьніўшы „адносіны“, якія, дарэчы, часам успрыймаюцца зусім дзіка, як „акуляры“ (адзін выпадак з вясковымі дзецьмі вядомы аўтару гэтага). Адсюль і „узаемадачыненьне“ („взаимоотношение“).

3. Адсюль і слова „адносіцца“ можна перадаваць словам „дачыняцца“, або „датычыць“. У тым-жа выпадку, калі гэтае слова абазначае асабістае рэагаваньне, дык яно перадаецца словам „ставіцца“ („як вы ставіцеся да гэтага?“).

4. Слова „стасунак“, якое часам ужываюць для перадачы „дачыненьня“, апрача таго, што крышку чужавата сваёю формаю (суфікс „унак“) нашай мове, больш надаецца для перадачы расійскага „соотношение“ (мяркуючы на прэфікс „с“), бо магчымае ўтварэньне ад „дачыненьне“—„судачыненьне“ крыху няпрыгожа.

Гэткім спосабам мы можам выкінуць з нашай мовы няўдалыя, мэханічна зробленыя паводле расійскіх, словаўтварэньні і пазбавіцца ад сьмяхотных азмысьленьняў слоў.

**Ант. Адамовіч**

# КНІГАПІС

**Якуб Колас.—Збор твораў з портрэтам аўтара і крытыка-біографічным нарысам У Чаржынскага.** *Том першы—выпуск першы і другі. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва 1928 г.*

Першы выпуск пачынаецца. абмінаючы портрэт аўтара і крытыка-біографічны нарыс, вершам, які датаваны 1904 г., а другі выпуск канчаецца вершам 1927 г; такім чынам, перад намі амаль ня чвэрць стагодзьдзя творчай працы поэта ў лірычным жанры. Шмат да чаго абавязвае рэцэнзэнта. падыходзячы да ацэнкі такога поэтычнага докумэнту. Перад намі дзьве кнігі лірыкі поэта, за якім лічыцца гучная слава і зусім заслужаная.

На мой погляд дарэмна так многа полемізуе аўтар крытыка-біографічнага нарысу У. Чаржынскі ў пытаньні пэсымізму-оптымізму коласаўскай лірыкі, імкнучыся, у штоб там ні было, давесьці. хоць і лігамонтажом, апошняе палажэньне.

Дарэмна аўтар узяў сабе гэта асноўную тэзу свайго нарысу, бо яно ўнутрана не выцякала з коласаўскай лірыкі, але аўтар хацеў зрок. зусім у непатрэбным. апраўдаць Коласа перад нашай сучаснасьцю як поэта з оптымістычным настроем. Гэта тэндэнцыйная ўстаноўка нарысу перашкодзіла аўтару зразумець творчую індывідуальнасьць нашага поэта. Таксама трэба пашкадаваць. што аўтар артыкулу крыху легкавата абходзіцца з тэрмінолёгіяй.—я маю на ўвазе нэо-романтызм эўропейскай літаратуры ў гады нашаніўства; мабыць. аутар тэрмінам нэоромантызм хацеў абяднаць імпрэсыонізм, сымболізм. а можа і футурызм у вадзін стыль. Мне здаецца. за імпрэсыонізмам, сымболізмам і футурызмам ужо ўстаноўлены больш-менш пэўныя і дакладныя паняцьці, і непатрэбна перад чытачом іх затушоўваць такім неакрэсьленым тэрмінам. як нэо-романтызм. падводзячы пад гэтую катэгорыю і лірыку Якуба Коласа,—бо-ж трэба было паказаць. што і Колас жыў адным жыцьцём з сучаснай яму эўропейскай літаратурай. Гэтым аўтар артыкулу нічога не прыпісаў хвалебнага Коласу. а толькі сам глыбока памыліўся Я ўпэўнен, што Якуб Колас нічога агульнага ў нашаніўскі кругабег ня меў з тагочаснай эўропейскай поэзіяй, як у сэнсе тэматычным, так і ў сэнсе формальным, мастацкім у традыцыйным разуменьні гэтых катэгорый: гэта ніколькі ня зьніжае Коласа, як поэта. як мастака беларускага слова; дзякуючы гэтаму ён здолеў застацца больш орыгінальным нацыянальным беларускім поэтам і больш беспасрэдным.

Якуб Колас. з некаторымі агаворкамі можна сказаць. пачаў тварыць у дзіцячыя гады нашай поэзіі. Ён з Купалам першы загаварыў па-мастацку ў тую шчасьлівую пару. і усё. што яны гаварылі, было новым, цікавым і выдатным, бо трэба прызнаць, што гэта гаварылі сапраўдныя поэты, выдатныя творчыя індывідуальнасьці. таму і іхняя творчасьць здолела прабіцца з глыбінь на сьвет і выклікаць да творчага жыцьця новыя пясьнярскія пакаленьні.

Коласаўскі дыапазон у лірычным жанры, трэба сказаць, ня вельмі шырокі. Ён поэта свайго часу з ціхай і глыбокай эмоцыянальнай натурай. Ён сьпяваў пра тое, што перажыў і адчуў. адсюль такая беспасрэднасьць яго творчасьці. Трэба адзначыць, што за 23 гады працы ў лірычным жанры Якуб Колас астаўся суцэльным. Вершы яго застаюцца формальна аднымі-ж і тымі, няма зьвіхаў. паваротаў да новых магчымасьцяй. Яны ўсе зьліваюцца ў адну засмучаную мэлёдыю. якая пасьля пераходзіць у больш шырокія, але ўсё-ж ціхія і павольныя хвалі яго, пакуль што адзінага ў нашай літаратуры эпосу. Лірычны жанр для Якуба Коласа гэта толькі ачышчэньне ў „сьвятое сьвятых“ поэзіі.

Ня гледзячы на соцыяльную насычанасьць коласаўскай лірыкі, усё ж павінны прызнаць. што яму менш за ўсё ўдаюцца вершы на грамадзкія тэмы, яго тут творчы ўзьлёт зьніжаецца амаль да частушкі, але Якуб Колас, каб застацца поэтам ад жыцьця, а ён быў заўсёды такім, бязумоўна, ня можа адмовіць надзенна-грамадзкай тэматыкі.

Строфічна лірыка Коласа беднаватая не таму. што переважна чатырохрадковая строфіка. а таму, што Якуб Колас строфу неяк ня можа замкнуць. верш неяк пераліваецца з аднае строфы ў другую. адчаго траціцца гучнасьць оласаўскай лірыкі.

Колас, як ніхто другі з беларускіх поэтаў. зьяўляецца народным у сэнсе сялянскім толькі яго дарэволюцыйная сялянская тэматыка для нашых дзён страціла асткова сваю актуальнасьць.

**Я. Плашчынскі**

---

### Літаратурная Хлестакоўшчына або „прадукт уласнай самабытнасьці“

„У меня легкость необыкновенная в мыслях“
(Хлестакоў, „Рэвізор“ Гогаля)

Месяц таму назад савецкая грамадзкасьць адсьвяткавала дзесяцігадовы юбіл й існаваньня Беларускай ССР. Пісалася і гаварылася шмат аб нашых дасягненьнях; успаміналіся недахопы, і, як заведзена, намячаліся чарговыя задачы. Розныя галіны нашага сучаснага жыцьця былі дакладным чынам падагулены; варт сьць і якасьць дасягнутых посьпехаў належным чынам была ацэнена.

Не абмінула гэтай урачыстасьці і сучасная беларуская літаратура. Выдаваліся альманахі, часопісі, рыхтавалі юбілейныя нумары, газэты прысьвячалі літаратурныя балоны; выдавецтвы, лезучы з скуры. выконвалі тэрміновыя заказы на кнігі, зборнікі юбіляраў і юбілейныя—адным чынам праца была разгорнута шырока. Так. у агульным сьвяточным мятусеньні неяк засталася зусім няпрыкмечанай зьява літаратурнага парадку. якая, аднак, варта пэўнай увагі.

Вышаў зборнічак„крытычных нарысау пра нашы літаратурныя справы“ Тодара Глыбоцкага, аўтара, які стаў вядомым ня толькі па сваіх „нарысах“, колькі па тэй ідэолёгічнай блытаніне, што была спадарожнікам яго крытычных і пісьменьніцкіх практыкаваньняў і якая ў апошнія часы прыняла яскрава „самабытныя“ формы шкоднага ўхілу, асуджанага партыяй і савецкай грамадзкасьцю. Але гэта. апошняе, так, між іншым, для характарыстыкі аўтара.

Наогул-жа кажучы. у гісторыі беларускае літаратуры крытыка займала неяк месца другараднага парадку. У нашаніўскую пару, наперакор сьцьвярджэньням Т. Глыбоцкага. які адмовіў яе існаваньне ў той час, яна ўсё-ж была. хоць і мела надзвычайна абмежаваны лік прадстаўнікоў, і то больш публіцыстычнага кірунку. як Антон Навіна. Сучаснасьць таксама не дала пакуль што досыць аўторытэтных імён літаратуразнаўцаў і крытыкаў марксыстых. якія-б маглі ў сучасным жыцьці адыграць у літаратуры пазытыўную ролю. Спробы рабіліся, робяцца, і надзея. бясспрэчна, ёсьць і нават з шырокімі пэрспэктывамі.

Вось таму выхад кожнай кніжкі. што трактуе пытаньні літаратуры, нас вельмі цікавіць і павінен быў-бы цешыць. Разгортваючы-ж выдрукаваны Белдзяржвыдавецтвам зборнічак Т. Глыбоцкаго, старанна перакідаючы яго балонкі, аднак, сумна апускаеш рукі—уцехі няма Сабраў аўтар свае выпадковыя газэтныя рэцэнзіі. артыкульчыкі, раскіданыя па часопісях, не паклапаціўся як небудзь іх сыстэматызаваць і... бух у выдавецтва. А там людзі свае, выходзячы з таго. што і так бракуе паперы, што з прычыны браку паперы стаіць вельмі рэальна пагроза скарачэньня ліку надзвычайна патрэбных выданьняў, агульнае скарачэньне памераў часопісяй, як літаратурных так і іншых, падлаўчыліся і пацешылі нас „навінкай“. Шкада бедных!

„Навінка“ зьявілася зусім не навіною усё старое, асуджанае, прыкрае.што да літаратуры мае надзвычайна далёкія адносіны. Уся гэта пісаніна, сабраная ў 251 балонку кніжыцы. даўно знаёмая рэч.

Гэта-ж тыя пасквілі, якімі аўтар з чаму аднаму (а можа не аднаму) вядомых прычын мерыўся „угробіць“ літаратурнае згуртаваньне „Узвышша“. Справу сваю Тодар Глыбоцкі. няпрызнаны. як поэта, нязда ны. як крытык, два гады сумленна праводзіу. рыгаючы пенаю, поўны злосьці. выкарыстоўваючы знаёмствы з рэдактарамі сякіх-такіх часопісяй і некаторых газэт, што гасьцінна давалі яму месца на балонах сваіх выданьняў.

Мы аўтару не перашкаджалі. Ён меў поўную магчымасьць рабіць сваю справу. Ніхто яму не адказваў. І ад таго яго часамі кідала то ў пот, то ў жар, а то і ў дрыжыкі. Цяпер, як відаць, запас яго смуродлівых выбрыкаў вычарпаўся. І „памятник себе воздвиг герой“—выдаў асобнай брашурай свае „статьи и речи“, каб, як магільным каменем, прыдушыць ею „Узвышша“. Бедны, асьлеплены ваяка! Як ён памыліўся!

„Узвышша“ жыве—гэтага даводзіць ня трэба—і старанна сваёй творчасьцю з посьпехам змагаецца за прымат у пралетарскай літаратуры Беларусі. І ці варта цяпер гаварыць пра Глыбоцкага і да яго падобных? А чаму пра яго? Яго двухгадовая дзейнасьць, поўная дробна-пасквільных наскокаў, яго істэрычны крык, яго паклёпніцкія способы паказалі, што ён і хто ён.

Як сумна, а разам з тым як няпрыемна і агідна перакідаць балонкі яго кніжыцы, поўнай хлусьні, неразьбярыхі, супярэчаньняў, выхваляньня і бяспрынцыповасьці. Аднак, пагаварыць пра яго трэба. І не таму, каб давесьці тое, што ўся яго праца прайшла марна, што ён абсолютна нічым не даняў лепшых пісьменьнікаў, якія старанна працуюць на карысьць пролетарыяту.

Гаварыць пра Глыбоцкага трэба таму, што за ім стаялі больш „разумныя“ галовы, затым, што ён зброя ў даволі здатных руках палітыканаў-літаратараў, таму, што той сымбіоз, які акружаў Глыбоцкага, выразна паказаў сваю істоту. Гэта акружэньне заўсёды клялося і клянецца марксызмам, ленінізмам, жыве і нават піша як быццам па тэзісах. Але тая спрытнасьць, з якой яны пераскокваюць з пераканаяньня да пераканаяньня, лёгкасьць, з якой яны скажаюць сапраўднасьць асобныя і цаны, мімавольна выклікае гэст перасьцярогі.

Лёгкасьць іх разумовага багажу, беспрынцыповасьць у кардынальных пытаньнях, заліхвацкі, ухар-купецкі наскок, бессаромнасьць у падтасоўваньні фактаў, у здольнасьцях выкарыстоўваньня хоць якіх-небудзь сытуацый, якія могуць сяк-так паспрыяць ім, робіць іх надзвычайна небясьпечнымі. Так, Глыбоцкі малады—ды з раньніх. І таму разабрацца ў тым, што гэта за ён, можа і ня шкодная рэч. Карысьць-жа гэта прынясе бясспрэчную. Дык паглядзім, што за зборнік!

Першае, што трэба зараз-жа сказаць, гэта тое, што да літаратуразнаўства, да навукі, да марксызму гэты зборнік ня мае ні ўкосных, ні простых адносін. Адсутнасьць пэўнай мэтадалёгіі ў разборы мастацкіх твораў, рознастайнасьць крытэрыяў у падыходзе да ацэнкі творчасьці таго ці іншага пісьменьніка, групавы суб'ектывізм у да таго-ж беспадстаўных вывадах гавораць за тое, што шукаць хоць якое-небудзь адзнакі, паводле якое можна было-б будаваць крытычны нарыс, не магчыма.

Вось паводле сьцвярджэньня Т. Глыбоцкага літаратурныя портрэты нашых пісьменьнікаў і поэтаў:

1. „Якуб Колас—першы ў беларускай літаратуры перайшоў да шырокіх палотнаў. Яго творы „Новая Зямля“, „Сымон музыка“—гэта яскравае ўвасабленьне галоўнейшых псыхолёгічных адзнак беларускага селяніна“ (бал. 3) (?)

2. „Цішка Гартны адразу ўспрыняў Кастрычнік і зьяўляецца першавесьнікам новых ідэй у беларускай літаратуры. З фармальнага боку творы Цішкі Гартнага цікавы асабліва накапленьнем провінцыялізмаў у літаратурнай мове“ (бал. 36, 37).

3. „Чарот адразу знайшоў сваю стыхію і вызначыў сваё месца ў літаратуры“ (бал. 37)[1]).

4. „М. Зарэцкі—мастак шырокіх палотнаў. У яго апавяданьнях (вершаў ён ніколі ня пісаў) выступаюць людзі новага часу—энэргічныя, сьмелыя, нязломныя“ (бал. 38) (?)

5. „А. Александровіч першы ўнёс у беларускую літаратуру мотывы беларускага гарадзкога і местачковага жыцьця“ (бал. 39).

Вось і ўсё, што Глыбоцкі мог сказаць пра гэтую групу пісьменьнікаў, залічваючы іх у катэгорыю „слупоў“ літаратуры, ставячы іх „одесную“. Што можна сказаць пра падобную форму падыходу да разгляду творчасьці і вызначэньня месца ў літаратуры таго ці іншага пісьменьніка? Як можна інакш клясыфікаваць падобную мэтадалёгічную блытаніну, як няпісьменнасьцю. Ды чым-жа іншым, як няпісьменнасьцю, літаратурным невуцтвам павявае ад падобнага гатунку разважаньняў.

1) Нагадвае Скалку, які пісаў, што Чарот «адразу джагае проста ў соцыялізм».

Трэба толькі дзівіцца, як рэдакцыі часопісяй, дзе гэтыя рэчы друкаваліся, прапускалі іх у др к. Каб менш палітыканства ды болш шчырай сапраўднай вучобы, ды сумленнага азнаямленьня як з гісторыяй літаратуры, так і мэтадалёгіяй, такіх пэрлаў ня было-б. Яны нікому не прынясуць жаднай карысьці, бо нават тая група пісьменьнікаў, якая, паводле клясыфікацыі Т. Глыбоцкага, прызнана корыфэямі літаратуры, зусім не таго чакала і патрабуе ад крытыкі, чым частуе яе „унтер Пришибеев" ад крытыкі.

Паглядзім-жа, каго Глыбоцкі паставіў „ошуюю". Чытаем

1. „Ад сакавігых здаровых кавалкаў жыцьця ў Чорнага застаўся толькі стыль—пустая скарлупа, начыненая абрыўкамі Гамсуна, Ібсэна, Пшыбышэўскага і другіх індывідуалістых" (бал. 109).

2. „Што сказаць аб творчасьці У. Дубоўкі. Гэта яскравы прадстаўнік тэй нязначнай групы інтэлігенцыі, якая ня можа стала вызначыць сваё месца ў грамадзе" (бал. 109).

3. „Бадай што ня прыходзіцца спыняцца на творчасьці З. Бядулі. Гэты поэта ў працягу 15 год свае працы столькі блытаўся паміж рознымі стылямі, станамі і напрамкамі, што наўрад ці можна спадзявацца, што ён вызначыць, нарэшце, сваё сталае месца ў літаратуры" (бал. 111).

4. Артыкулы Бабарэкі „падкрэсьліваюць некалькі паніжаны ўзровень палітычнай пісьменнасьці паважанага „ідэалёга" (б. 112).

5. „Вершы Пушчы ня вызначаюцца асаблівай мастацкасьцю і часьцей усяго ня маюць нават і зьместу" (бал. 129). „Пушча, замест мастацкіх твораў, пачаў падносіць чытачу няўдалыя практыкаваньні, пад якімі можа пасароміліся-б падпісацца многія з тых, чыя творчасьць шчодра комплектуе рэдакцыйныя кошыкі" (бал. 163)

6. „Крапіва—здольны сатырык, папаўшы ў „алімпійскае балота", траціць свой ранейшы маштаб, звужае свой кругагляд і ад вострай грамадзкай сатыры пераходзіць да антыэстэтычных баек" (бал. 172)

І так без канца. Можна было-б прывесьці ў шмат болей разоў прыкладаў таго, як узброены да зубоў „крытык" расправіўся з беларускай літаратурай, як ён лёгка, адным росчаркам пяра, выключыў, „сьпісаў у расход" большую палову пісьменьнікаў і літаратараў, што заваявалі сабе агульнапрызнаную пашану.

Паважаны чытач і так зьдзіўлена паглядае Ці ня сон гэта? Якая галава магла дадумацца да вышэйпаданай бязглузьдзіцы?

Даводзіць супроцьлеглае паданым тэзам г. зн. ламацца ў адчыненыя дзьверы. Спрачацца з аўтарам такое „крытыкі" непатрэбная рэч Адсылаем усіх да першакрыніцы і прымушаны канстатаваць, што, на вялікі жаль, гэта рэчаістасьць абыйшла ўсе газэты, часопісі і выдрукавана ў „назидание" нашчадкам асобным выданьнем Белдзяржвыдавецтвам і каштуе ў продажы адзін р. 15 к.

Расійскі пісьменьнік Гогаль даў у сваёй творчасці тып, які і да гэтага часу ня ўмёр, гэта тып Хлестакова. Чым болей, як не літаратурнай хлестакоўшчынай, можна назваць вышэйпаказаны на яскравых прыкладах падыход крытыка да пісьменьніка? Безадказнасьць, безідэёвасьць, галавацяпскі падыход—бясспрэчна шкодная зьява.

Дзе знойдзецца цяпер голас, які-б стаў у абарону злоснага шкодніка на гаспадарчых адцінках нашага жыцьця? Такіх няма, прынамсі аб іх не пачуем. А вось у літаратуры шкоднікі сьвядома, з прычыны ім толькі адным вядомых мотываў, стараюцца разваліць маладую беларускую пролетарскую літаратуру Хто даў ім на гэта права, ад чыйго імя яны гэта робяць? І толькі менавіта таму, што яна (г. зн. літаратура, якая падпала пад гнеўнае вока Глыбоцкага) пролетарская, што яна сваімі карэньнямі моцна ўрасла ў рэволюцыю, у рабочую клясу, гэтыя спробы зьявіліся нікчэмнымі.

Калі гэтыя „крытыкі і публіцыстыя" ашукаліся на літаратуры, яны ў апошнія часы „двинулись походом" на іншыя болш слабыя вучасткі культурнага будаўніцтва, але і там былі асаджаны, сваячасна атрымалі „па лапках". Такому літаратурнаму Хлестакову нічога ня варта з бессаромнасьцю „гражданчиков, которых хочется назвать штопорами" [1]), прыкрыкнуць на таго, хто хоць крыху з ім разыходзіцца ў поглядах і ацэнцы таго ці іншага літаратурнага факту.

Эпітэт „мешчанін", „мяшчанская тэндэнцыя" ужо загадзя падрыхтаваны і ў кожную

1) Федор Гладков Головоногий человек Альманах З и Ф, ст. 350

хвіліну гатовы да ужытку Так было з М Гарэцкім, які памкнуўся даць аналіз творчасьці М Зарэцкага М Чарота ды інш Мы ня згодны з этадалегічным падыходам М Гарэцкага да разгляду мастацкай творчасьці і у гэтым пытаньні можам з ім і будзем весьці спрэчкі Глыбоцкі ж робіць інакш Ен кідаецца такімі пэрламі „яго (г зн М Гарэцкага) мяшчанская тэндэнцыя зводзіць асабістыя рахункі на старонках друку яскрава выявілася ў артыкулах пра творчасьць М Зарэцкага М Чарота“ (бал 10) пераносіць іх у газэты, популярызуе і з урачыстым выглядам чалавека, які перамог свайго ворага, паглядае на ашальмованую грамаду

Мэтады, як бачыце ня зусім этычнага парадку, але ўжываюцца яны Глыбоцкім досыць часта Мала таго, што наш Хлестакоу гэтак безапэляцыйна па-Каткоўскі, ці па-Булгарынску выкрасьліў большасьць літаратараў, поэтаў і пісьменьнікаў з беларускай літ ратуры ен тут-жа з няменшаю нахабнасьцю не пасароміўся узьвесьці паклеп ня толькі на паасобных пісьменьнікаў але і на цэлую іх корпарацыю.

Хто-ж паверыць Глыбоцкаму, што Дубоўка „як некалі падвыпіўшыя маскоўскія краснарадцы, гатоў „пастрадаць“ у сваіх вершах“ (118) Наўрад ці знойдзецца дзе такі невук несьвядомы Глыбоцкі і сам гэта добра ведае, таму у прадчуваньні адпору, параўноўвае творчасьць Ул Дубоўкі з творчасьцю Ігара Северяніна, Верцінскага, прыводзіць з апошняга цытату рэстараннага рэпэртуару бэрлінскіх кабакоў „Где вы теперь, кто вам целует пальцы“ і, параўноўваючы з ей творчасьць Дубоўкі, тым самым тэрорызуе наіўнага чытача

Што з таго, што гэта, як неба ад зямлі далекія адна ад аднае рэчы? Хто пасьмее пярэчыць „крытыку“, у якога заўседы грыццаць тысяч адказаў (у „Ревизора“ столькі-ж кур'ераў) на кожнае запытаньне

— Вам вядома, што Верцінскі прадстаўнік расійскай эміграцыі? Паспрабуйце чытаць Дубоўку? Дык я вас!

Нездарма-ж аналізуючы „Налю“, прывеўшы вышэйпаданыя вытрымкі поэтаў буржуазіі, эмігрантаў Глыбоцкі піша „Вершы, якія маюць на мэце біць па нэрвах могуць дасягнуць свае мэты ў пэўнай аўдыторыі“ (145) (Слухайце!)

Гэтак ка сама Глыбоцкі пэрсанальна распраўляецца з Бядуляй, Кляшторным, Пушчаи, Жылкаи ды іншымі Мала таго каб канчаткова скомпромэнтаваць „Узвышша“ у вачох чытача ен піша „Мы зусім ня зьбіраемся рабіць ніякіх вывадаў з таго, што напрыклад, у „узвышаўцаў“ Пушчы, Чорнага і ў некаторых другіх (чытай усіх) бадай што ніводнага слова ні пра рэволюцыю ні пра грамадзянскую вайну на Беларусі“ (119) Гэтым самым ен знарок гаворыць заведама няпраўду узводзіць выразны паклеп або сьвядома выпускае з-пад увагі шэраг каштоўных твораў гэтых пісьменьнікаў на тэмы аб рэволюцыі ці аб грамадзянскай вайне.

Беларуская літаратура—маладая літаратура Але, як бачым, і на маладым целе завяліся такія чужаеды Толькі тое, што літаратура здаровы організм што жывіцца яна сокамі здаровай глебы яна здолела перамагчы гэту часовую навалу і бесхваробна разьвівацца, паказаўшы да 10-годзьдзя БССР такія творы, якія ва ўсе далейшыя часы будуць упрыгожваць культуру народа, што адраджаецца

Паўстае пытаньне, як-жа усе-такі такія бязглуздыя ідэйкі агалошваюцца такім бессаромна-адкрытым парадкам Вядома хлестакоускі аплемб грае не малую ролю, але, акрамя яго, Глыбоцкім ужываюцца і шэраг іншых прылад „защитного“ колеру Так, напрыклад, каб паралiжаваць магчлівыя паказаньні на недапусьцімасьць падобных „мэтадаў“, наш „крытык“ кідае наперад абвінавачаньне у мешчанстве ўсім магчлівым крытыкам яго поглядаў

У адказ на артыкул Кундзіша наконт поэмы Александровіча „Дваццаць“ ен піша „Дзеля гэтага мы можам Кундзішаў артыкул разглядаць, як адну з праяў таго усесаюзнага мяшчанства, якое пачынае прасачвацца на старонках нашай прэсы і г д“ (195) і стараецца давесьці, што „саматужніка-шаўца вельмі і вельмі цяжка прышчапіць да мяшчанства“, і што Кундзіш нібыта „проста зблытаў соцыяльную групу мяшчанства з мяшчанскім станам у царскі час, да якога належалі і рабочыя“ (190)

Вось у гэтым як раз і выяўляецца „продукт уласной самабытнасьці“ аўтара „літаратурных спраў Мы ня хочам дарма траціць часу на полеміку з Глыбоцкім, ня варты ен таго і „сваей творчасьцю“ не

заслугоувае яе Нагадаем толькі адно акрэсьленьне мяшчанства, дадзенае Леніным паводле якога адразу будзе відаць, дзе праўда Ленін пісаў ,дробны вытворца, які гаспадарыць пры сыстэме таварнай гаспадаркі,—вось дзьве адзнакі што складаюць разуменьне „дробнага буржуя", Kleinburger і або, што тое самае, мешчаніна Сюды падыходзіць, такім чынам і селянін і сама тужнік " (Ленін „Экономическое содержание народничества и критика его в книге Г Струве" Зб твораў т II бал 62 Падкрэсьлена намі Ф К)

Нам здаецца, што пасьля паданага гаварыць што-небудзь больш, справа зусім не патрэбная Мы і без таго занялі шмат увагі паважанага чытача але усе-ж яшчэ некалькі момантау лічым неабходным падкрэсьліць каб паказаць, чаго варта такая хлестакоуская крытыка

Ненавуковасьць яе бясспрэчная дайшоужа Глыбоцкі да таго, што на процанты мерыць эмоцыяльную зарадку твораў Ул Дубоўкі (204) Адсутнасьць мэтадалегічнай установкі відавочна ня можна-ж лічыць сталай мэтадалегіяй статыстычныя практыкаваньні у падлічваньні колькасьці слоу у вершах П Труса (31), да гэтага н ват заядлыя формалістыя не дадумаліся Што-ж, можа публіцыстычную каштоўнасьць яны маюць? Але і тут, акрамя блытаніны нічога ня знойдзеш На прыкладзе з мяшчанствам мы яе паказалі. Можна было-б падаць шчэ некалькі з іншых галін Напрыклад у адным месцы Глыбоцкі піша „Мы ня можам, напрыклад, сказаць, што вось такі-та пісьменьнік Ікс выразна адбівае ідэалегію кулацтва, а такі-та Ігрэк—ідэалегію пролетарыяту" (98), а праз некалькі балон чытаем „Кожны пісьменьнік у сваеи творчасьці толькі адбівае сьветапогляд таго соцыяльнага асяродзьдзя, з якім ен зьвязан" (117) Як быццам ня зусім мякка кажучы аднолькавыя формулеукі а належаць яны усе аднаму і таму ж аутару Мы ня выбіралі іх, як найбольш яскравыя Прывесьці падобных ім можна нязьлічонае мноства сустракаюцца яны на кожным кроку

Не для мэт полемікі мы узялі пад разгляд кнігу Глыбоцкага ,Пра нашы літаратурныя справы" Ніякіх літаратурных спрау там няма Глыбоцкім калі і давядзецца яшчэ калі небудзь граць хоць якую ролю у беларускай літаратуры дык прынамсі вельмі і вельмі ня хутка Для гэтага трэба першае мець хоць мінімум ведау і здольнасьцяй у галіне літаратуразнауства і наогул літаратуры, падругое і самае галоунае, гэта ідэалегічна перарадзіцца бо адной бажбою на марксызм нікога не пераканаеш, а вульгарызаваньнем марксызму ўплыву на літаратурнае жыцьце ня зробіш і, патрэцье, трэба мець мінімум сумленнасьці і паважаньня да грамады

Жыцьце беларускаи літаратуры і у прыватнасьці пасьпяховая праца згуртаваньня „Узвышша' якое за апошнія два гад і дало шмат высока мастацкіх творау, абышлося бяз Глыбоцкіх-Хлестаковых Ня ім дробным каменчыкам, спыняць ці кіраваць прасторным рэчышчам беларускай пролетарскай літаратуры

Двухгадовае практыкаваньне Глыбоцкіх наяўна гэта паказала Пачаушы з цкаваньня, яны ня здолелі падняцца вышэй інтарэсаў іх асяродзьдзя, і, паплаваушы на паверхні літаратурнага жыцьця, яны спакойна апусьціліся ў радзімае дробна-буржуазнае балота

Бываице здаровы

**Фэлікс Купцэвіч**

— —

**Максім Гарэцкі—Жартаўлівы Пісарэвіч—Сцэнкі і размовы—Б Дз В Менск 1928 г** *Цана 35 кап*

Пара ўцекаў („*бежанства*") выкліканых імпэрыялістычнай вайною 1914—1918 г г зьяўляючыся дужа багатай сваім зьместам, дагэтуль, аднак яшчэ бадай-што зусім не закраналася нашымі пісьменьнікамі Некаторую невялічкую спробу адлюстраваньня яе становіць гэты твор М Гарэцкага які ня дужа даўно выйшаў у сьвет асобным выданьнем (першы раз друкаваўся ў часопісі „Полымя , № 8 за 1925 г)

У галоўным гэрої твору—уцекачу Пісарэвічу мы сустракаемся з пэўным адменьнікам аблюбаванага галоўнага гэроя творчасьці М Гарэцкага Гэта той жа сялянскі выхадзец, але ўжо ў новым этапе—у

ўцякацтве. Цяжкасьці гэтага ўцякацтва да таго навальваюцца на яго, як відаць, ня зусім прыстасованага да такога гаротнага жыцьця, да таго прыдушваюць яго, што абарачаюць з чалавека ў нейкі фізыолёгічны апарат, блізкі да жывёліны (гл. асабліва сцэнку III). Гэты *Пісарэвічаў* стан асабліва падкрэсьліваецца натуралістычнаю манераю апісаньня яго, узятаю на гэты раз аўтарам наўсупроць ранейшым і найбольш выяўленым у ягонай творчасьці романтычнай і романтычна-рэалістычнай манерам. Дарэчы, трэба заўважыць, што гэтая манера, хаця і зьяўляецца ў гэтым выпадку тэлеолёгічна апраўданай, часам усё-ж выклікае ў чытача некаторую агідлівасьць, асабліва, калі гэты твор успрыймаць на фоне ўсяе пісьменьнікавае творчасьці, успамінаючы і зьвязваючы яго з ранейшымі яе фактамі, дый наогул, бадай ці ня зьніжае ягоную мастацкую якасьць.

Само сабою зразумела, што пры гэткіх умовах аўтар ужо не выяўляе ў Пісарэвіча выхадзкіх момантаў, як гэта ён рабіў раней у дачыненьні да сваіх гэрояў, хоць некаторую праяву іх і можна заўважыць часам у Пісарэвічавых успамінах (ас. у сцэнцы II— бал. 18) і ў словах ягонае жонкі. Затое мы тут маем выяўленай і падкрэсьленай адну дужа цікавую і ўжо ня толькі выхадзкую, а, так сказаць, нацыянальна беларускую рысу—гэта сьмех, жартаўлівасьць, як пэўны спосаб самаабароны ад жыцьцёвых цяжкасьцяй і закалотаў, узьведзеную нават у загаловак рэчы. Тут асабліва цікава будзе прывесьці некаторыя выказваньні наконт гэтага як самога Пісарэвіча, гэтак і іншых дзейных асоб твору. Так, сам Пісарэвіч у ваднымм месцы гаворыць: „О, я надта вясёлы. Змалку гэтакі. У нашым краі ўсе гэтакія: нязвычайна жартаўлівы народ“ (бал. 14), і ў другім месцы: „Можа яшчэ і горай будзе, пасьпееш наплакацца“... (бал. 27). Падобна-ж гаворыць гра яго і Мяшчанка— „Які вы жартаўнік, пан Пісарэвіч! Скуль у вас што бярэцца? Лацьвей такому жыць на сьвеце—нік лі ён не засмуціцца“ (бал. 15) і Паня—„Хіба толькі з вашаю ўдачаю можна пяяць, пане Пісарэвіч, у гэткім становішчы“ (бал. 21). У гэтай сваёй жартаўлівасьці ён кіруецца нязьменным, таксама тыпова беларускім, прынцыпам—„усё добра будзе“ і, нават паміраючы і прызнаючыся самому сабе: „Якія жарты... Аджартаваў я сваё“, усё-ж ня траціць свайго гумару: „Адзін Пісарэвіч памрэ, два Пісарэвічы вырастуць. Эт, нічога! Добра.. усё добра будзе“... (бал. 34).

Блізка ў pendant Пісарэвічу абмалёваны і іншыя ўцекачы (ас. у вапошняй сцэнцы). Цікавай з *соцыяльнага і чыста псыхолёгічнага* (трагічнасьць) боку зьяўляецца фігура Пісарэвічавай жонкі. Проціленжнасьць ім становяць асобы. так сказаць, фону рэчы—тубыльцы-расійцы (*Мяшчанка, баба*, поп, дзяўчынка). надзвычайна сакавіта замалеваныя пісьменьнікам, пры чым зварачае на сябе ўвагу адна дужа цікавая асаблівасьць: усе яны гавораць чыста-беларускаю моваю, ужываюць чыста-беларускую фольклёрную мудрасьць—прыказкі, прымаўкі, без якога-небудзь намёку на індывідуалізацыю мовы ў бок іхнай сапраўднай расійскай моўнай стыхіі, і тым-жа часам, усе яны ўспрыймаюцца менавіта як расійцы Гэта яшчэ лішні раз даводзіць малую вартасьць прыёму індывідуалізацыі мовы праз наданьне ёй чужамоўных адзнак, паказваючы на поўную магчымасьць дасягненьня пастаўленай мэты іншымі сродкамі.

Наагул, ува ўсёй рэчы зварачае на сябе ўвагу яе мова—чыста народная з такімі цікавымі фразэолёгічнымі ўзорамі, як прыкладам—„Адзін, стары дый наверх—сьляпы“ (бал. 35) ці „Мусіць, паўважаліся. што у жалобе“ (бал. 38) і інш. Нарэшце, некалькі заўваг выклікае жанр твору, у сувязі з некаторымі асаблівасьцямі яго выданьня. Гэта—часты ў творчасьці М. Гарэцкага жанр, так сказаць, дыялёгічных абразкоў (гл., прыкладам, „Антон“, „Вучыцель Мутэрка“, „Чырвоныя рожы“ і інш.), высунуты і найбольш ужываны ў нашай літаратуры самым пісьменьнікам. Аднак-жа. ягоная дыялёгічнасьць зусім не азначае сцэнічнасьці, паколькі драматычна большменш напружаная фабуля тут адсутна (хоць, праўда, паасобныя драматычныя, ас. комэдыйныя сытуацыі ў дадзеным творы і наяўны), ня кажучы ўжо пра іншыя асаблівасьці, як проста знадворная малая прыстасаванасьць да сцэны і інш. Таму крышку зьдзіўляе зьяўленьне ў асобным выданьні сьпісу дзейных асоб з характарыстыкамі (пабранымі, дарэчы. з рэмарак твору), якога ня было пры друкаваньні ў „Полымі“ і які дзеля нясцэнічнасьці рэчы зусім лішні, і

такі, здавалася-б дробны факт, як зьмяшчэньне сьпісу выдадзеных Б. Дз. В. п'ес на апошняй балоне, што дае повад думаць, быццам-бы твор прызначаўся менавіта для сцэны. Тым-жа часам, трэба паўтарыць і падкрэсьліць яшчэ раз, што гэтая рэч бадай-што ня можа быць выкарыстанай, як тэатральная, а толькі пры асобным чытаньні можа даць пэўнае ўражаньне.

Магчыма, што тут—памылка выдавецтва.

**Ант. Адамовіч**

---

**А. Моркаўка.—Дым жыцьця, зборнік вершаў.** *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1928 г. Тыраж 2000, бал. 56, цана 45 кап.*

У зборніку тры разьдзелы: Зацішак, Уласны сад і Дым жыцьця. У першым з іх аўтар як-бы дае свой светагляд, сваё сьветаадчуваньне ў „філё офскіх“ разважаньнях. Гэта часамі зусім адцягненыя разважаньні, часамі зьвязаныя з агульнымі зьявамі прыроды. Няўдалы падбор і скомпанаванасьць зборніку ў цэлым, а такжа і ў яго паасобных разьдзелах парушаюць лёгічнае разьвіцьцё сьветагляду аўтара ва ўсіх яго праявах. Гэта мы павінны ўзяць на увагу дзеля таго, каб унікнуць няправільных суджэньняў аб творчасьці Моркаўкі па дадзеным зборніку, бо паасобныя вершы, якія гавораць як-бы аб пролетарскасьці (што і хацелі давесьці некаторыя рэцэнзэнты і крытыкі)—надуманы, прыцягнуты за х ост і выпіраюць з агульнай мэтанакіраванасьці зборніку. Я не хачу сказаць, што сьветагляд Моркаўкі па дадзеным зборніку ёсьць нешта суцэльнае, пэўная сыстэма... Не, як я ўжо зазначыў, зборнік Моркаўкі не прадстаўляе нечага суцэльнага, закончанага, тое ж самае і з сьветаглядам аўтара, але і па сабраных вершах з самымі рознастайнымі ўстаноўкамі мы ўсё-ж можам адшукаць эскіз лініі, па якой разьвіваецца і куды накіроўваецца сьветагляд Моркаўкі. Ня трэба нікому даводзіць самага простага палажэньня філёзофіі дыялектычнага матэрыялізму, што сьветабудова існуе без усялякага ўзьдзеяньня нашай волі. Аднак, Моркаўка ў адным з сваіх вершаў стараецца давесьці процілеглае, а менавіта, што сьветабудова залежыць ад „я“: „Прастру любоў на сьвет, як млечны шлях прасьцёр“ (бал. 11). Выходзіць, што млечны шлях існуе не сам па сабе, а яго прасьцёр Моркаўка. Падобныя сьцьвярджэньні мы бачым і ў далейшых вершах: ня ўсё мяняецца дыялектычна, як гаворыць нам марксызм, а ўсё нязьменна—

„Мы ходзім, як продкі хадзілі,
і сьлед наш балюча глыбокі.“ (бал. 15).

Здавалася-б, што нічога антымарксыцкага ў гэтых сьцьвярджэньнях і няма, але дачытаўшы гэты верш да канца і ўразумеўшы яго сэнс, мы скажам зусім іншае. Узяўшы за тэзу палажэньне „мы ходзім, як продкі хадзілі“, аўтар дае і антытэзу:

...„няхай будзе заравам кожны
б у р л і в а й н а д з е м н а й з а в е і“ (бал. 15
падкрэсьлена мною *А. В.*).

І так, акрамя ўсемагутнага „я“, Моркаўка знайшоў яшчэ якуюсь „надземную завею“, каторай падпарадкавана ўся сьветабудова:

„Ў завеях і зоры згараюць,
згараюць над намі, пад намі“ (бал. 15).

Гэты ідэалізм праяўляецца нават у паасобных вобразах фармальнага парадку, дзе аўтар беспасьпяхова імкнецца ўкласьці надумана, а не прачула пролетарскі зьмест, як напрыклад:

...„будуць зьвіты песьні пра кахачьне
й меч“ (бал. 13).

Можа, аўтар хацеў у вобразе мяча даць вобраз клясавага змаганьня, але рэакцыйная форма. (Можа аўтар хацеў сказаць „прасьцёрся“—тады іншая рэч, тады згаданы выраз толькі паказвае няпісьменнасьць поэты).

Цяпер соцыялёгічная поэтыка ўзьнімае пытаньне пра „контррэволюцыю формы“. І вельмі слушна, бо зьмест можна надумаць, а форма непасрэдна выліваецца з творчага нутра поэты, і ў ёй, можа больш як дзе, выяўляецца сапраўдная клясавая сутнасьць поэты. Такім чынам, вобразы: „каханьне і меч (13 бал.), „надземныя завеі“ (15 бал.), „белая Ева“ (24 бал.), „бог сагнуў калені“ (26 бал.), „ведзьмы-кабеты“ (11 бал.) і да г. п. толькі дапаўняюць характарыстыку сьветагляду аўтара.

У наш час такі, як у Моркаўкі, „рыцарскі“ ідэалізм ня мае для сябе падставы, ён мог скласьціся толькі ў „зацішку“ (адгэтуль мусіць і назва разьдзелу?) адцягненых разважаньняў поэты. І дарэмна аўтар заспакоівае сябе валер'янавымі кроплямі, што

„І ў зацішшы, кажуць, ёсьць навалы.
Хто-ж іх знае—можа!“ (*бал.* 16).

Кіньце, Моркаўка, у вашым „Зацішку“ „ня можа“. а напэўна няма ніякіх навал, гэта толькі „дым жыцьця“, а ня жыцьцё. гэта толькі пародыя на змаганьне, гульня, як вы кажаце і самі ў далейшым. І толькі бязьмернае любаваньне сабою, сваім „я“ прыводзіць вас да такога-ж бязьмернага выхваляньня:

„Нашай казцы—раз гарэць і жыць,—
дык радкі мае, хоць вы зьвініце!“
(*бал.* 14; падкрэсьлена мною *А. В.*).

Значыць, ізноў на першым пляне „я“: усё згарыць, усё нікчэмна, „я“ толькі яшчэ сёе-тое варт, дык хоць няхай мае вершы зьвіняць, калі чалавецтва ня ў сілах лепшага стварыць.

Другі разьдзел зборніку: „Уласны сад“ (тав. Моркаўка, падатак вы за яго плаціце?), як паказвае сама назва, выяўле не „надземныя ўзьлёты“ поэты, а яго ўласьніцкія штодзённыя інтарэсы. Тут мы маем выразны прыклад таго марксыцкага палажэньня, якое сьцьвярджае, што ідэалізм параджае бязвольле і пасыўнасьць.

У гэтым зацішку ці ўласным садзе на першым пляне „я і яна“. Іх тут двое „абвітых, як сном, ружоваю зарою“, і „зямля калыша яе жаночы ложак“. А далей яшчэ лепей: ужо ня проста ложак, а

„Вось ложак цёплы твой... На ім
мільён пячатак, (?)
дарог к яму паўсотні і ніводнай“
(бал. 23; падкрэсьлена мною *А. В.*).

Скажыце, калі гэта так культывавалі ў поэзіі „цёплы ложак“? Ня толькі пролетарская, а й буржуазная літаратура ня ведае такіх „пэрлаў“! І толькі Моркаўка можа гаварыць:

...„шчасьлівы я ці не у гэтым супакоі.“

Праўда, ў далейшым Моркаўка раскаіваецца ў тым, што захапляўся жаночым ложкам; ён пасталеў і прышоў да выніку:

„І лепшы бог сагнуў калені:
мана цьвіце у багавіньні нос.
О. цені, маладосьці цені,
Расталі вы без непатрэбных сьлёз“
(бал. 26).

Але гэта раскаяньне толькі часовае, гэта толькі мана, вудачка для чытача і крытыкаў, што любяць ствараць „пролетарскіх“ поэтаў, бо ў чарговым вершы Моркаўка заяўляе зноў.

„Палаць агнём—такая наша доля...
Палаць агнём... Ці-ж прыкра гэта?!“
(бал. 27).

І гэтаму палажэньню знаходзіць сваё апраўданьне:

„Хай будзе толькі з веку вінаватым.
хто нашу кроў стварыў віном яскравым;
Мы-ж смагла п'ём ледзянасьць рутымяты,
Мы карыстаем толькі нашым правам“
(*бал.* 27).

Як бачыце, самая абыватэльская пакорнасьць. бязудзельчасьць: „я, так сказаць, тут ні пры чым і ні ў чым ня вінаватымяне такім стварылі“. Не падум йце, што Моркаўка хоча „палаць агнём“ рэволюцыяніколі! Дачытайце гэты верш да канца і вы ўбачыце „сапраўднага“ грамадзяніна савецкай рэспублікі:

„Любенькая, далёкая, калі мы
прачнёмся зноў на сонечнай дарозе?!“
(бал. 27).

Вось якім „агнём палае“ поэта. Гэта другі Дудар, хацеўшы заснуць на мільёны год, каб пасьля прачнуцца на ўсім гатовым. Такая катэгорыя людзей нам вядома: іх будаўніцтва соцыялізму ні само па сабе, ні сваёю карыснаю мэтаю для чалавецтва—не захапляе.

Як вядома, заснуць на мільёны год нельга, а трэба жыць і працаваць. Чым-жа ў такім разе для гэтакіх людзей павінна выдавацца жыцьцё і людзі? Гэта—

„Квяцісты палісаднік ран і болек“...
(*бал.* 30),

дзе:

„Аднэй рукой пушчаем к небу птушак,
Другую сунем гідка ў твань“ (бал. 30).

Іншай працы, па думцы аўтара, ў жыцьці няма. Дык ня дзіва, што яму— „...не адрачыся саду, дзе цені палямі былі“ (бал. 30)

Такім выглядае Моркаўка ў інтымных верш х, ня лепшы ён і ў грамадзкіх.

У разьдзеле „Дым жыцьця“ зьмешчаны вершы, якія прынята называць грамадзкімі. От-жа сама назва паказвае, што і рэволюцыя і будаўніцтва для Моркаўкі—гэта ня жыцьцё, а дым жыцьця. У вершы „Крык вуліцы“ мы чытаем:

„Наш дзень прышоў—ой гулі-гулі—
паўстань спагарджаны наш дух!“
(бал. 35).

Гэты-ж погляд на рэволюцыю, як на гульню, праводзіцца і ў вершы памяці паўстанцаў:

„Уздыхнеце, свабодныя грудзі,—
гэтак добра між хвоек гуляць,
ды й гулялі, пакуль тыя людзі
з гадалі другім: расстраляць“ (бал. 37).

Дзіўлюся, як гэта З. Жылуновіч знайшоў у такіх вершах „напорнасьць і сілу“! Пролетар'ят на рэволюцыю не глядзіць, як на гульню; так можа глядзець толькі буржуазія, гэта ў яе ўяленьні рэволюцыя ёсьць не разбурэньне няпраўды і ўціску, а разбой, ці гульня—разгул басякоў.

Конкрэтна аб працы ў зборніку Моркаўка не гаворыць. Ня ў гэтым, вядома, рэч—можна, не чапаючы тэмы працы, выявіць актыўнасьць. Гэтага якраз і няма. Ад творчасьці Моркаўкі вее пасыўнасьцю, ня гледзячы на падбор слоў, што надаюць уражаньне дынамічнасьці вершу. І дзень яго „магнэсамі хоча прыцягнуць да спачынку пад плот“ (бал. 40). Чаму пад плот?—Я думаю таму, што лягчэй суглядаць жыцьцё, бо іншай ролі для чалавека Моркаўка ня ведае:

„Што значыць сумота?—
Я рад! Я гляджу“... (бал. 46).

Вось чым задаволен Моркаўка, вось у чым яго радасьць—у пасыўным сугляданьні.

І так, што-ж выяўляе сабою ідэалёгія Моркаўкі?—У агульных разважаньнях бязсыстэмны ідэалізм, які ня маючы рэальнай падставы ў практычным жыцьці, абарочваецца ў абыватэльскую індыфэрэнтнасьць, пасыўнасьць да ўсіх грамадзкіх падзей і імкненьняў, ня гледзячы на тое, што Моркаўка імкнецца быць на словах рэволюцыйным, але яго галасловіца нікога не пераконвае.

Як-жа выглядае Моркаўка, як мастак?—Ня гледзячы на тое, што ён заяўляе: „мільёны год таму назад я жыў“..., ...„ у попел ногі паражыў“..., ...„і рукі грэў і ў першы раз з грудзей памкнуўся сьпеў, мой сьпеў!..“ (бал. 50), ня гледзячы на такі вялікі пясьнярскі стаж і на тое, што ў беларускім друку Моркаўка зьявіўся аж у 1923 г., вершы яго веюць прымітыўнасьцю і недаробленасьцю, як у пачынаючага поэты.

Памер вершу нельга сказаць, што вельмі аднастайны, але затое радковая композыцыя, за адным выключэньнем, скрозь чатырохрадковая з крыжаванаю рыфмаю. Пры чым, у большасьці чаргуецца жаночая рыфма з мужчынскаю і толькі ў некаторых жаночая з жаночаю.

Улюбёным стылістычным прыёмам Моркаўкі зьяўляецца мэтафора. Пару, другую мэтафор можна знайсьці ўдалых, але і яны трапяцца ў агульным награмаджэньні „вобразаў“, што ня маюць ніякага сэнсу. Вось прыклады:

„Разьвеялі дрэвы сьцюдзёную медзь,
і медзь гэту сьнежань палозьзем
накрыў“ (бал. 18).

Якім гэта палозьзем і як гэта палозьзем можна накрыць лісты (бо пад сьцюдзёнай медзьдзю, што разьвеялі дрэвы, трэба разумець нішто іншае, як лісты),—Моркаўка напэўна ня ведае і сам. Далей:

„І калі часам выплыве сум
Чоўн м юркім на коўдры вакон“
(бал. 21; падкрэсьлена мною *А. В.*).

Човен юркі на коўдрах вакон!—Вы, чытач, хоць што-небудзь разумееце тут? Трэба сказаць, што такія вобразы не даюць нічога ні розуму, ні сэрцу. Пагоня за вобразам прыводзіць Моркаўку да бяссэнсіцы Пералічу прыклады:

1) „У свой час, як сьвяча дагарэць—
шчасьліваму лёс, бо патушаць вятры“
(бал. 18);

2) „Месяц вечна на ржонішча цёк,
вечна шчодры струмені-дары“ (бал. 21);

3) „Каб такія вялізныя крыльлі,
не такая грубая рука!“ (бал. 24);

4) „Дзень і ноч табе здаюцца плямай,
а жыцьцё—расьцятым дагары“ (бал. 28).

І такіх „вобразаў“—набору слоў, што ня маюць ніякага сынтаксычнага дапасаваньня,

ніякай лёгічнасьці, гібель. Яшчэ болей вобразаў „безобразных". Няўжо можа быць мастак з такім антыэстэтычным густам, з такім мізэрным чуцьцём прыгожага? Хто гэта можа дапусьціць у вершы такія вобразы: .. „ня сьпечаны Ванцэці і Сако" (бал. 11) Такі вобраз не перадае трагічнасьці палажэньня і пакут Ванцэці і Сако, а выклікае сьмех, бо ўяўляецца. што ня людзей катавалі. а забаўляліся. Альбо такая бязгусьціца, як:

„Я сэрца слухаю. І, здэцца, мора жыта
пад латамі рабёр—пад небасхілам
сінім"... (бал. 22).

Латы самі па сабе выклікаюць пачуцьцё мізэрнасьці, а ў контэксьце з „рабёрамі" (?) і падаўна. Падам яшчэ некалькі такіх „пэрлаў": „У небе зьзяюць зораў кучы"... (Скарэй кучы гною), „ці не мастак умелы у мур умазаў"... (чым умазаў?), ...„у попел ногі палажыў"... (а чаму ня што іншае?), „а надаўна дык боль па старонцы грудзі грыз, сэрца еў—ды які!" „Каб тады ўсім церніцам надзей ў ёўні сэрца рыпаць да сьвітаньня"... І такое рыпаньне скрозь ва ўсім зборніку. Нарэшце, шмат вобразаў такіх. якія веюць нейкай грубасьцю, напрыклад: „Зямля калыша й твой жаночы ложак"· Альбо: „Дзён тваіх напарстак залаты ня трымаць мне ўжо ніколі болей" (бал. 25. Гутарка ідзе ў вершы пра дзяўчыну). Вы ведаеце. тав. Моркаўка, сымболем чаго ў народнай творчасьці зьяўляецца напарстак і пярсьцёнак? — Пачытайце! А вось яшчэ: ...„пах цяжарных ліп"..., „аднэй рукой пушчаем к нeбу птушак, другую сунем гідка ў твань" (бал. 30). Дзе гэта хто бачыў цяжарныя ліпы, хто гэта будзе сунуць рукі ў гідкую твань? Ня варта было-б ужываць і „пукавіц вярбы", бо слова „пукнуць" на дзіцячай мове азначае ня вельмі прыгожае і прыстойнае дзеяньне.

Параўнаньні ў Моркаўкі сустракаюцца рэдка і няўдалыя:

...„лятуценьні—краскі... зацьвілі бы
ўдовы" (бал. 10);
...„то гамонкаю радаснай школаў,
аплятае сады, бы павук" (бал. 40).
„Рэдкае цэдзіва сьцелецца кужалем"
(бал. 41).

Калі цэдзіва, дык яно можа цадзіцца, а ня слацца. „Цікавыя" і эпітэты ў Моркаўкі: „ружовая кроў", „пенны горад", а яшчэ лепей, дык гэта „месячная пена" (?). Кепска, што поэта выкарыстоўвае, амаль, цэлыя радкі вялікіх поэтаў: у вершы „Я сэрца слухаю"—Янка Купала; ...ці зазвонім зноў чаркамі моў?"—Я. Пушча; „Растрасем сена галавы"—Есенін; „І разьмеле вецер косьці нашы"—Дубоўка і г. д.

Некалькі слоў пра мову Моркаўкі. Сустракаюцца часта русізмы: „палісаднік", „ня стоіць", „пабедны", „сьвінцовыя" і г. д. Шмат ёсьць такіх зваротаў, дзе словы беларускія, але форма сказу ці склону расійская: „К берегам", „Гэта песьня—ціхаму канцу і мяжы гадзінам і загонам", „ў замкнутых садах", „па песенных вуглях"- „інакшы даль", „падражнілася сьлёзкай далоў" і г. д. Яшчэ больш слоў нейкіх скалечаных і з націскам пастаўленым не на мейсцы: „край свой прадаць за мары", „любосьць", „ж'ыцьця" „ў любові", „ля вух", „йржавых коў", „як дарогі (?) вы час аплялі", „поэтавы брат" і інш. Шмат граматычных недакладнасьцяй, дзе ў сказе з адным выказьнікам два словы стаяць у адным склоне:

...„І сьціскае стан ласкавай ночы
залаты дракон мільёнам рук",

альбо:

„І крыльлі зла кылі стагодзьдзі"...

Хто каго зложыў, невядома. Наогул, стыль Моркаўкі цяжкі і нязграбны і набліжаецца да стылю Ц. Гартнага.

**Адась Васіленя**

*Рэдагуе:* **Рэдколегія.** *Выдае:* **„Узвышша."**

# Чытачы „ЎЗВЫШША“!

## ЯШЧЭ НЯ ПОЗНА ПАДПІСАЦЦА НА ЧАСОПІСЬ

# „У З В Ы Ш Ш А“

## Н А Ц Э Л Ы 1929 Г О Д.

**Тым, хто падпішацца, высылаюцца ўсе нумары, пачынаючы з першага.**

**У 1929 г. часопісь каштуе толькі 5 рублёў (на паўгода—3 рублі), замест, ранейшых 7 руб. і будзе даваць 10 нумароў на год, замест ранейшых 6-ці нумароў на год.**

**(Пра больш дакладныя ўмовы падпіскі на „ЎЗВЫШША“ гл. нашу абвестку на 2-ой бал. вокладкі).**

**Выражце гэты заказ, наклейце пяцікапеечную марку, укіньце заказ у паштовую скрынку, і Вам будуць высылаць „УЗВЫШША“ за 1929 г.**

## З А К А З

Прашу высылаць мне часопісь „УЗВЫШША“ за 1929 г. у працягу цэлага $\frac{\text{года}}{\text{паўгода}}$

Падпісную плату ў разьмеры руб. абавязваюся заплаціць пры атрыманьні № 1 часопісі накладною платаю.

„ “ 1929 г.

*Подпіс*

МОЙ АДРАС: